УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 8. Вершы. Паэмы. Гумарэскі. Байкі. Апавяданні / Сяргей Давідовіч . — Мінск : А. М. Вараксін, 2017.— 511 с., іл.

ISBN 978-985-7186-35-8.

У восьмы том Сяргей Давідовіч уклаў новыя свае вершаваныя творы, сярод якіх пяць паэм, а таксама апавяданні.
Творам уласцівы глыбокі аўтарскі роздум і раскрыццё самых патаемных псіхалагічных адценняў чалавечай душы.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7186-35-8**

## Я так хацеў...

А нам ніколі
не сустрэцца,
Жыццё, прыдуманае мной.
І роспач напаўняе сэрца
Невінаватае віной.

А нам ніколі
не спаткацца,
Жыцця-хімеры ідэал.
І паглынае веру ў шчасце
Памерлых мар
дзевяты вал.

Адкуль такое раздарожжа
Душы маёй,
магутны Бог?
Я так хацеў
пражыць прыгожа,
Ды шмат чаго
зрабіць не змог.

## Утульна і балюча

Цішыні не стала
За вокнамі.

Вёска загула
Мотаблокамі.

Вёска зараўла
Бензапіламі.

Вёска аджыла
Днямі шчырымі.

Курадыміць кожная
Раніца

Салаўі ад вёсак
Цураюцца.

Быццам тут няма
Сэрца чулага.

Месца тут няма
Для мінулага.

Ні кароўцы месца,
Ні коніку.
Ды няўтульна ў небе
І сонейку.

Я жыву мінулага
Рэштkамі

Я іду
Ўспамінамі-сцежкамі.

Да цябе адзіная,
Мілая.

Вёсачка былая,
Аджылая.

Часам на зямлі
Зруйнаваная,

Ды ў душы навек
Захаваная.

Як жа мне утульна
Ў той далечы,

Як балюча тут,
Дажываючы.

## Выпрабаванне

Аб творчае задумак рыфы,
Натхненнем створанай ракі,
Усхвалявана б'юцца рыфмы,
Спрасоўваючыся ў радкі.

Бязмежжа часу
І бяздонне
Штарміць выпрабаваннем год
Няўдалае —
Ў нябыт патоне,
А творчагоднае —
На ўзлёт.

## Пагрозы

Каму што пагражае?
Як і ва ўсе гады,
Надвор'е — ураджаям,
Вяскоўцам — гарады.

Духоўнасці — бяздарнасць,
Анёласці — наш грэх.
А сонечнасці — хмарнасць,
Грашам — дзіравы мех.

Застыла сэрца ў скрусе,
Бо бачыць, хоць крычы,
Пагрозу Беларусі,
Ўсім нам — ад саранчы.

## Малох гісторыі

Круціў гісторыі
малох непрадказальны.
Круціў яго непрадказальны час.
І голых каралёў маніякальных
Ён выкрываў —
І ў профіль,
І ў анфас.

Высмейваў іх —
«ад Бога», самазваных,
І ўсё ж яны
перажывалі страх,
Схаваўшыся за спінамі падданых,
Якіх заўжды малох
сціраў у прах.

Час нараджае зноў
падданых новых,
Забыўшыхся на папярэдніх боль,
Перад малохам
жудасным гатовых
Угоднiцкі крычаць:
— Віват, кароль!

## Прымушу

Жыццё —
Нібы гульня ў лата,
Няўдачы,
Ўдачы — ўсё на шалі.
Выкладваўся я на ўсе сто,
Мяне ж не бачылі —
Ніхто!
Я шмат рабіў —
Не заўважалі.

Апошняе,
Што я зраблю,
Дакладна ведаю,
          не хлушу:
Хоць я для ўсіх —
          радня нулю,
Ўсё ж паважаць сябе
Прымушу.

## Сваё і чужое

Разумець я ваш боль магу,
Адчуваць —
Ні за што і ніколі.
Як і вы, у сваю чаргу,
Не адчуеце нечага болю.

Можна ў грудзі лупіць кулаком:
«Я ваш боль
на сябе ўзяць гатовы!..»
І прызнацца сабе цішком —
Боль не возьмуць чужыя словы.

Нашы слёзы — жывая вада,
Ў іх і страты,
і нашы нягоды.
Нам баліць і чужая бяда
На гады…
А свой боль — назаўсёды.

# Гонар наш і сорам

«Калі не поп,
не трэба лезці ў расу...» —
Ёсць прымаўка такая, як наказ.
Па-свойму кожны,
мы належым часу,
Паколькі час
аднойчы выбраў нас.

Мы за сабою,
як і нашы продкі,
Прынеслі ў гэты свет дабро і зло.
А як жа нам пражыць
свой век кароткі,
Каб, адыходзячы,
не сорамна было?

Святкуючы ці плачучы
над горам,
Ствараючы ці бурачы ў жыцці,
Ідзе за намі
гонар наш і сорам —
«Жыццё пражыць —
не поле перайсці...»

# Дзік

Я ехаў да цябе не ўлегцы,
Імкнуўся летам і зімой,
Каб лёс сабачы твой аблегчыць,
Чацвераногі сябар мой.

Я вёз табе, што дазваляла
Маё «кішэннае меню».
Цяпер, калі цябе не стала,
Пакутую й былое сню.

Ты быў бы, як і трэба, ў сіле
І не сканаў бы без пары,
Каб голадам не замарылі
Цябе твае гаспадары.

Гаспадары?..
Злыднюгі-скнары,
Паелі б з-пад сябе свой бруд.
Няўжо на іх не будзе кары
І абміне іх Божы суд?

## Адвечныя ісціны

Што не напісана,
Не прачытаюць.

Што не пасеяна,
Тое не ўродзіць.

Хто ў рот вады набраў,
Тых не вітаюць.

Не спатыкаецца
Той, хто не ходзіць.

Ў ..... вочы лісліўцы
Лезуць без мазі

Не свінаферма,
А свінства паросяць.

Таленавітых
Маюць на ўвазе.

А вось бяздарных
Бывае, узносяць.

## Цымбалы

*Памяці Басарэўскага*

Калісьці вёска —
Праца, пот,
Калгас у кожным
горле комам.
Тады, ў свае
шаснаццаць год,
Я гарманістам быў вядомым.

У вёсцы —
Гарманіст, як поп,
Пашанны, знаны,
як дажынкі.
І я ў той час
Быў нарасхоп —
Іграў па вёсках вечарынкі.

«Заламваць мех» —
нялёгкі хлеб,
Тым больш ўсю ноч —
Цяжкая праца.
А я ж тады быў,
як прышчэп,
Што ледзь пачаў
Укараняцца.

Бывала, хлопцы —
ну й народ,
Па п'янцы з кулакамі лезлі:
Адзін —
Заказвае факстрот
Камусьці вальс «сцялі пад бот»,

Другі пярэчыць —
«Польку» рэзні!

Ды гэта ўсё —
звычайны тлум
Падпітых хлопцаў ганарыстых…
Жыве ў душы салодкі сум,
Галоскі успамінаў чыстых.

Не кожны успамін кране
Сабой званы
душэўных звонніц.
Ды ёсць такі —
як ля мяне,
З цымбаламі сеў незнаёмец.

Я бачыў іх упершыню,
Раней я іх
Не чуў і вухам.
Мне падалося —
быццам сню
Чароўнасць незвычайных гукаў.

І гэты цымбаліст сівы,
Сама нібыта геніяльнасць.
Ад хвалявання
ледзь жывы,
Я йграў, трапляючы ў танальнасць.

Як упрыгожылі мой лёс
Гадзіны тыя і імгненні!
Які быў цуд!
Які дзівос!
Цымбалы ў нашай глухамені.

## Прачынаецца дзень

Прачынаецца дзень —
і надзея жыве,
Што наперадзе
лепшых здзяйсненняў часы.
Вунь, пад ранішнім сонцам
блішчаць на траве
Маладыя крыштальныя
слёзы расы.

Ў кожнай кропельцы — свет,
не без слёз, не без нас,
Не без смутку і радасці —
лёсаў канон.
Прачынаецца дзень,
як дзіця кожны раз,
А ў канцы —
спрацаваны і стомлены ён.

Ноч сустрэне яго,
ноч яго паглыне
І патухне мінулых надзеяў агмень.
Ноччу дзень адпачне?
Амалодзіцца? Не!
Будуць новыя заўтра —
і ранак, і дзень.

## На жаль...

Пішу пра вясну,
Пра лета,
Пра восень,
А ма́ю на ўвазе зіму.
Як думаеце, чаму?

Раней мог пісаць
Пра зіму,
Пра хлюпоту,
Пра сцюжу, а жыць вясной,
Яна кіравала мной.

Чатыры пары
Каляндарнага года
Спраўляюць
Адвечны свой баль.
А мы — толькі раз,
На жаль.

## Бязлітасная сеча

Калі адчую
Па дабру тугу,
Нібыта крылы вырастаюць з плеч.
І я маіх
Хапаю вершаў меч.
Імчу туды,
Не быць дзе не магу,
Дзе змрок пакуль
Прад ісцінай не кленча,
Дзе зла й дабра
Бязлітасная сеча.

Узрушвай гэты свет,
Трубі, труба!
Адвечная вядзецца барацьба
Супраць
Абездухоўленых пачвар,
За будучыню
Неўміручых мар.

Ці ж мог я марам
Не дапамагчы?
Духоўнасць у бядзе —
Жыццю пагроза.
Смялей мае,
Паэзія і проза!
Дарогу, дзень,
Не саступай начы!

Не ссекчы б сук,
Бо й мы на тым суку,
Сякера зла
Сляпы замах напружыць.

О, як няпроста
Зло дабру адужаць,
Калі свядомасць —
Ад падзей ў баку.

Як мала, свет,
Ты нарадзіў Эзопаў…
Прачніцеся,
Сучасныя гады!
Пара ўжо на ўвесь рост
Устаць з акопаў,
Бо болей адступаць
Няма куды.

## Мары Ўсявышняга

У Божы Храм,
даўно пабудаваны,[1]
Ў святочны дзень
і ў будні, кожны год,
Ўсявышняй святавераю прызваны,
Ідзе маліцца
вернікаў прыход.

Ідуць паволі
вернікі да Бога,
Спіхнуць малітвай
нейкі грэх з душы.
І тут праклалі
сцежку ля парога,
Вялікія лясныя мурашы.

У іх, як і у нас,
свая дарога,
Снуюць уздоўж сцяны —
што іх вініць?
Але трапляюць
мураўі пад ногі
І гінуць, і, на жаль,
іх не спыніць.

Я паказаў іх
святару аднойчы,
А ён махнуў рукой,
схаваўшы злосць:

---

[1] в. Жукаўка, Храм, пабудаваны ў 1706 г. ў гонар святых першавяхоўных апосталаў Пятра і Паўла.

— Яны ўжо намазолілі
мне вочы,
І труцілі мы іх,
а вынік — вось.

Балюча гэта чуць было,
бо мары
І нашы
І Ўсявышняга заўжды —
Каб на зямлі
у кожнай Божай твары,
Было жыццё
і не было бяды.

## Учора і даўно

Вясна надзей,
Здзяйсненняў лета,
Ўсё, што цвіло
І адгуло —
О, як даўно
Было ўсё гэта,
Было?..
Здалося?..
Не было?..

Пілося хмельна,
Ўсмак, разгульна,
Невычарпальных мар віно
Было ў тым часе
Светла, ўтульна —
О, як жа ўсё
Было даўно.

А вось трагедыі
Ці гора,
І ў час далёкі, малады,
Здаецца,
Што стагналі ўчора,
Хоць пасля іх —
Гады…
Гады…

## Напаследак «Марш»

У вольны час,
прыгрэўшыся на сонейку
Ў бліскучых храмачах.
ў кашулі чыстай,
Лявон сядзеў,
пілікаў на гармоніку —
Што і казаць,
меў выгляд гарманіста.

Але галоўным ўсё ж
былі мелодыі,
Якімі з Божым дарам ва ўнісон,
Душа яго
і здольнасці валодалі —
У вёсцы гарманіст, як фон-барон.

І хоць не ведаў
нотаў ён ніколечкі,
Душа Лявона ўсё перамагла —
З-пад пальцаў дробна
вылятала «полечка»,
З-пад іх павольна
«рэчанька» цякла.

Гучала «ночка»
з вальсамі, факстротамі,
За імі — ганарысты «кракавяк».
Лявон іграў бы
і далей з ахвотаю,
Ды падышоў сусед,
Якім Казляк.

Перад Лявонам стаў
          у позе клічніка,
Што ён трапло —
          напісана на ім.
Не бачыў свет
          такога пад'ялдычніка,
Якім на справе быў
Казляк Якім.

— А я прылёг,— пачаў Якім з ухмылкаю,—
Ды чую нейкі вэрхал,
          быццам сню.
Я думаў, што сабакі
          недзе гыркаюць,
Ці енчыць кот,
          ці рэжуць дзесь свінню.

А гэта ты
          шарманкаю пілікаеш,
Працягваеш паўдня
          мяхі ламаць.
Сваімі гукамі,
          сваімі зыкамі
Не дазваляеш
          праваслаўным спаць…

Якім раптоўна
          прасвятлеў угоднікам:
— Пажартаваў я…
          цісні на лады.
Ды вёска без твайго,
Лявон, гармоніка
Засохне,
Як расліна без вады.

Лявон азваўся:
— Жарты твае з чаднасцю,
І непрыемны
          слоў тваіх кірмаш,
Таму цяпер я,
          напаследак, з радасцю,
Сыграю для цябе,
Якіме, «Марш».

## Падзеі, факты

Сучаснасці падзеі, факты:
Патоп, пажар, бяда, адчай,
Разбоі, грабяжы, тэракты —
Хоць тэлевізар не ўключай.

Штодзённа бачана і чута
Ад году ў год адно і то ж.
Інфармацыйная атрута
Для псіхікі, як востры нож.

І віртуальнасць у рэальнасць
Увасабляецца між нас.
І жорсткую маніякальнасць
Няўмольна набывае час.

І негатыўныя флюіды
Для нас страшней рэальных куль.
Адсюль — гвалтоўнасць, суіцыды…
А будзе дабрыня адкуль?

## Прыйдзі!

Мой сум, як ноч,
цямнюткая да рання,
Мой сум, нібыта
пахмурныя дні.
Прыйдзі, як ратаванне,
як каханне,
Святлом прыйдзі
і цемру разгані.

Прыйдзі —
Як ратавальная ідэя,
Калі вакол
тупік на тупіку.
Прыйдзі —
Як неўміручая надзея,
Як дзіўны сон,
які заўжды ў руку.

Прыйдзі!
Прашу душэўна і прачула,
Прыйдзі
Праз перашкоды і бяду.
Калі ж маё «прыйдзі»
ты не пачула,
Праз перашкоды ўсе
я сам прыйду.

## Прадночча

Прадночча…
Шаравата,
Куды вачмі ні кінь.
Прыгорбіліся хаты,
І толькі ад заката[1]
Гарыць рачная плынь.

І толькі ад туману
Дыханне халадка.
І хутка ўжо да рання
Павісне ноч нязвана,
Як вечнасці рука.

У лесе дзесь, далёка,
Пачуўся крык савы
І зорны дах высока,
І месяц зеўрыць вокам,
Як пільны вартавы.

[1] Закат — захад сонца.

## Ад Бога

*Міхасю Пазнякову*

За сябра я заўсёды
Парадваца гатовы.
Ён не угоднік моды,
Ён носьбіт роднай мовы.

Паэзія жывая
І прозы стыль напеўны —
Так, талент не бывае
Без шчырасці душэўнай.

Таго й другога многа
Ў душы яго крынічнай.
І шмат чаго ад Бога
Жыве ў ім гарманічна.

Ён муж і чулы бацька,
Дзядуля ганаровы.
Шмат кніг яго —
Багацце
На ніве роднай мовы.

## Чэрвень

Чэрвень дорыць нам
Пачатак лета.
Як жа не любіць яго
За гэта?
Чэрвень шмат для нас
Дзівосаў знойдзе —
Самы доўгі дзень
У ім на годзе,
Самы знамянальны дзень
Для школаў —
Выпуск вучняў,
Сумны і вясёлы,
Развітальны баль —
Ён будзе сніцца…
Чэрвень дорыць
Смачныя суніцы
Пакаштуеш —
Пальчыкі абсмокчаш.
Кожны дзень частуйся,
Калі хочаш.
Вунь, лугоў
Духмянае шматквецце —
Як прыемна
Шчыраваць у леце!
Чэрвень — месяц
Сонечны і зорны…
Але ёсць у ім
І самы чорны
Дзень яго —
Дваццаць другі па ліку,
Страшны дзень
Трагедыі вялікай.

Але чэрвень тут
Не вінаваты,
Што былі
І ёсць на свеце каты,
Што на ранак
Мірны і прыгожы
Наступіў раптоўна бот варожы.
Чэрвень быў заўсёды
Сябрам шчырым,
Будзь жа ты навекі,
Чэрвень, мірным!

## Дыхаецца вольна

Я іду па полі,
Бачу зёлкі, краскі.
Вабіць наваколле
Краявідам з казкі.

Ветру тут разгульна,
Думкам тут раздольна
Сонейку — утульна,
Дыхаецца вольна.

У душы тут крылы,
Мроіцца ў ахвоту.
Тут запасяць сілы
Мары для узлёту.

Тут жыве патрэба
Чуць душой удзячнай,
Гледзячы у неба,
Як спявае срэбна
Жаўручок нябачны.

І як бусел круціць
Кола у блакіце —
Светлыя пачуцці
Нараджае жыцце.

Лес, я чую, кліча,
Да яго я крочу.
Штосьці таямніча
Расказаць ён хоча.

О, як тут прыгожа!
О, як тут прыемна!
Разгадаць мне, можа,
Лес і дапаможа
Свет яго таемны.

Нехта неўспадзеўна
Плача ці гукае.
Лесавік, напэўна,
Недзе тут блукае.

А-а, дык гэта ж дрэва
Скрыпнула аб дрэва.
Тут такіх нямала
Будзе неўспадзевак.

Вунь, мурашнік-горка,
Дзятла перастукі.
Побач вунь з вавёркай
Сойка тараторка —
Пахі, гукі, гукі.

Дзякуй табе, поле,
Дзякуй, лесу мілы.
Еду я ў няволю,
Ў горад апастылы.

Будзь тут хоць заможны,
Будзь тут хоць багаты,
Сэрца тут стрыножана,
Для душы тут краты.

Апроч чаду, тлуму,
Хто мяне тут прыме.

Думаю я думу
Аб «малой радзіме».

Аб бацькоўскай хаце,
Што мяне чакае.
Аб зямельцы-маці,
Што мяне гукае.

Ад яе ніколі
Я душой не збочу…

---

Я іду па полі,
Я да лесу крочу.

## Рамкі

Жыццё, то ў рамках дзён,
то самапасам,
Жыццё, як фота —
ў профіль і анфас.
Яно прайшло, нібыта паза часам,
Хаця жыццё сабой абраміў час.

І рамкі часу, як шлакбаум —
Досыць!
Як напаследак памінальны звон.
З жыцця, за яго рамкі,
нас выносяць —
Апошняя пашана наўздагон.

Мы сонечнасці выпіваем чашу
І адыходзім у бясконцы цень.
Пажоўклы наш партрэт
у раме часу
Маўкліва пазірае ў новы дзень.

## Гукну!

Гукнуць бы словам вершаваным мне
У новае, загадкавае ранне,
Ды рэха вершаў
　　　　даляціць ці не
Да тых часоў,
　　　　калі мяне не стане?

І новы час ці будзе
　　　　піць з крыніц,
З якіх мы сёння
　　　　наталяем душы?
Ці, як ахвяра ўласных навальніц,
Заплюшчыць вочы, закаркуе вушы?

І ўсё ж гукну!
Ляціце праз гады,
Як птушкі з выраю,
　　　　радкі і оды.
Вам суджана —
　　　　ці знікнуць назаўжды,
Ці ў часе захавацца назаўсёды.

## Часова

Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць.
*Янка Купала*

Я без кпінаў, без падкусаў
Запытацца мусіў:
— Што ж так мала беларусаў
Сёння ў Беларусі?

Беларус — зірніце самі,
Выгляд важны мае,
Вунь, усмешка пад вусамі,
А язык кульгае.

Усё зладзіць, пераможа,
Да ўсяго гатовы,
Ды ніяк спаткаць не можа
Беларускай мовы.

Вельмі шчыра спадзяюся —
Гэта ўсё часова.
Загучыць на Беларусі
Наша маці-мова.

## Зімой не чуць нам салаўя

Хачу быць вечна маладой.
*Канстанцыя Буйло*

Я не хачу быць
        вечна маладым.
Увогуле —
        я не хачу быць вечна.
Такая вечнасць штучная,
        як грым,
Прыклеіцца
Хваробай невылечнаю.

Мець вечнае жыццё?
Ізбаві Бог!
Жыць вечна —
        значыць жыць і жыць
Праз сілу.
Я — вечна малады,
        а хтосьці лёг
Заўчасна, маладым
        лёг у магілу.

І як пасля такога
        жыць далей,
Такому мне,
        хто не ў свае сеў сані?
Я тысячны свой ладжу
Юбілей,
А справа, злева —
        смерць і пахаванні.

Народзіны і смерць
з усіх бакоў,
Каханне, радасць, боль —
жыццё жывое.
Я ўжо даўно
забыўся на бацькоў,
На родных, на сябе —
Адкуль я?
Хто я?

Паспела жыта —
жыта трэба жаць,
Адвеку ўвосень
хлебароб не лындзіў.
Я — вечны,
Перастаў бы паважаць
Сябе за гэта —
можа б зненавідзеў.

Таму зімой
не чуць нам салаўя
Дый сонца вечна у зеніце —
Ка́ра…
Сустрэць з усёй павагай
рады я
Цябе, мая
заслужаная старасць.

# Былыя заслугі

Былыя заслугі,
як хмель пасля тоста,
Як гіры на крылах
Далейшага ўзлёту,
Як анестэзія
для творчага росту,
Як антынапруга
да сёмага поту.

О, гэтыя нашы
былыя заслугі!
Узносяць, ухваляць,
прысцяць нас пяшчотна,
А потым ужо,
без духоўнай падпругі,
Не творыцца жыва,
жывецца лянотна.

Ды не! — хтосьці скажа,—
Каму што па густу:
Адным, ад духоўнасці,
створанай Богам,
Былыя заслугі
адрэзалі лусту,
І болей — ні кроку,
сцяна за парогам.

А іншых — былыя заслугі
Валтузяць,
У іх самалюбства,
у гонар іх джаляць,

І новых заслуг
          далягляды не вузяць,
А шырацць і высяць,
          і клічуць у далеч.

Жыццё чалавецтва —
          не без перакосаў,
Не без незаслужана
          ўросшых ва ўладу.
Чым больш будзе ў свеце
          заслужаных лёсаў,
Тым больш будзе ў свеце
          агульнага ладу.

## Лепшай будучыні

Жыццё сваё
Жыццю я прысвяціў.
Не, не свайму жыццю —
Наадварот,
Каб будучыні лепшай лейтматыў
Не горшым быў мінулых нашых год.

Духоўна працаваў
        па меры сіл,
Па меры самых нерэальных мар,
Каб будучыні лепшай небасхіл
Больш светлым быў,
        без навальнічных хмар.

Жадаю ўсім
Ад сэрца, ад свайго,
Й табе,
        яшчэ ў зародку, чалавек,
Нашчадкі каб не зведалі таго,
Што зведаў акрываўлены наш век.

# Буркунства

То молада,
То зелена,
То кемлівасцю зорыць
То пахмурны,
То ветлівы,
То праз губу гаворыць.

То горача,
То холадна,
То суха,
То дажджліва.
То туманы да полудня,
То ветрана, на дзіва.

То шкодзіць нам актыўнае
Жыццё-быццё спрадвеку…
Адкуль такое дзіўнае
Буркунства ў чалавеку?

## З мінулага ў мінулае

З мінулага мы, як адзін:
І самыя сучасныя,
І продкі з даўніх далячынь,
Й дачкі дачка, і сынаў сын,
Шчаслівыя й няшчасныя,

І навуковыя «вяршкі»,
І безнадзёгі — невукі,
Бамжы, паэты, мастакі
І людзі шчырыя, й дзялкі,
Й апошнія аплэвухі,

Ўсе ў новую далечыню,
Цераз штодзённе мулкае,
Праз плён, сяброўства і грызню,
Праз будучыні мітусню
Кіруемся ў мінулае.

Не вечны ён, жыцця запас,
Мы робімся ахвярамі.
У час, што будзе пасля нас,
Пакуль жывыя, многа раз
Мы залятаем марамі.

## «Ласка»

Ідзе загадчык крамы:
— Здароў, Сяргей!
— Здароў!
Звычайны сябар самы
Сярод маіх сяброў.

Мінулі зімы й леты,
Ды расказаць каму?
О, каб сустрэўся гэты
Заг. дзесяць год таму!

Я б прысалодзіў міну,
Спытаў, як бедны госць:
— Ці прывязуць свініну?
А каўбаса ці ёсць?

Смачней мой голас мёда,
Не хрэн, бо хрэн дадуць,
Ды з «чорнага» ўсё хода,
Ды не за «дзякуй».
Жуць!

Была такая «ласка» —
Свініна сацсвіней.
І ўсё такі каўбаска
Тады была смачней.

## Адчуў душой

Гурток бярозак пазірае сціпла,
Прад імі дуб,
нібыта просіць слова.
А наваколле штогадова, звыкла,
Мяняецца штодзённа, паступова.

У клёна восень
падпаліла шчокі,
Залоціць сонца
ўсё усмешкай шчырай.
Гуськом па небе
праплылі аблокі
У нейкі, толькі ім
вядомы вырай.

Я гэта, быццам бачыў
І не бачыў
Ці, можа, гэта сніў я шматразова.
Адчуў душой —
прадзімак замаячыў,
Як і заўсёды —
непаўторна, нова.

## «Homo sapiens»

Пакуль, на жаль
        латынь мне не знаёма,
Не надта знаўца я
        і іншых моў.
Я бэкаю…
        то «Хома сам…», то «Гома…»
Дапяць хачу
        да сэнсу гэтых слоў.

Дык хто стварае
        на зямлі няшчасці
Й сабе падобных
        нішчыць з веку ў век?
Я «Homo sapiens»
        спрабую перакласці —
Што ж атрымалася ў мяне?..
        (хаця б не ўпасці),
Разум… Не!
        «Неразумны чалавек».

## Прызванне

Прызванне…
Што гэта такое?
Хто прызывае?
І куды?
Чаму душы няма спакою
І дзень, і ноч — усе гады?

Прызванне —
Свята і каранне,
Напруга ў працы, трубаў медзь.
Адным прызванне —
Мець бы званні,
Другім адно — прызванне мець.

Хоць і адчуў прызванне нават,
Прызвання мала аднаго.
Прызванне —
Значыцца свой талент
Аддаць яму й сябе ўсяго.

І гэта мала!
Без ваганняў
Ахвяраваць яму свой лёс.
Захоўваць у душы прызванне,
Нібыта першае каханне,
Якое праз жыццё пранёс.

## Два бараны

Ад сэрца і да сэрца —
сусвет, не пераправа,
Жыццё бурлівы
акіян бязмежны.
Наладзіць пераправу —
было б святая справа,
Зрабіцца ад
абставін незалежным.

Спраўляюць баль між намі,
намі ж створаныя беды
І недавер між намі —
наша крэда.
Бывае, дастаткова
руку падаць суседу,
І вось яна ў адказ —
рука суседа.

Няўжо у люстры часу
часовыя мы госці
І ад далейшых бед
не будзе спасу?

---

Два бараны упартыя
сустрэліся на мосце,
Рагамі лоб у лоб —
й абодва ў бездань часу.

## Жнівень

Дождж загадкава шапоціць
Нечаканы, абкладны.
Жнівень стол накрыў, бо коціць
Восень на пасаг грыбны.

Жнівень шмат чым ганарыцца,
Не малы ў яго запас —
За грыбамі след — брусніцы,
Вось і яблычны ўжо Спас.

Працаваў — багата й есца,
Жнівень — месяц не гультай.
Ў жніўня на пачэсным месцы
Важкі хлебны каравай.

Хлебны жнівень працу славіць,
І яму за ўсё хвала.
Восень шмат чаго дабавіць
Да агульнага стала.

## Для чаго?

Пэўна, многім такое знаёма —
Сіл няма сустракацца ні з кім.
Ўсё сядзіш і сядзіш нерухома,
Проста думаеш… ні аб чым.

І галоўны адказ у сакрэце
На пытанне жыцця усяго —
Для чаго я на гэтым свеце?
Мітусіўся штодня для чаго?

Ці не трацiўся я дарэмна,
Пазіраючы на Парнас?
Я здаюся такім нікчэмным,
Непатрэбным здаюся падчас.

Не хацелася б гэта агучваць:
А ці ж мог я падумаць калі,
Што жыццё, гэты цуд, надакучыць —
Зацікаўленасць — на нулі.

# Глыбокая старасць

Глыбокая старасць…
Глыбей за яе толькі дол.
Чым старасці ка́ра,
Дык лепей асінавы кол.

Лепш быць пахаваным
«Ў пару» між знаёмых магіл,
Чым быць прыкаваным
Да ложка нямогласцю сіл.

Такое няшчасце
Для родных — няшчасце ўдвая.
Ісці і — упасці…
Каб так, не адмовіўся б я.

## Дзе ты, шчасце?

Знайшоў падкову я!
Ці ж гэта мала?
Павесіў над дзвярыма,
як належыць,
Каб шчасце
мой куток не абмінала.
І каб усе няўдачы раздрапежыць.

Заходжу у хату —
ўсцешаны падковай,
Выходжу з хаты —
думкамі багаты.
Жывецца кожны дзень
з надзеяй новай —
Калі ж яно прываліць,
шчасце ў хату?

Але аднойчы —
пэўна, выпадкова,
Ледзь толькі выткнуў я
свой нос за дзверы,
Ба-бахнула па цемечку падкова…
О, дзе ты, шчасце?
Мала табе веры!

# Апошні баль

Ты памылілася,
Вясна,
Пастукаўшы ў маё
Акно
Даўно ўжо выпіта
Да дна
Юнацтва хмельнае
Віно.

Салодкі успамін
Жыве
Вясёлых маладых
Забаў,
Як адкружыў
У галаве
Напой настою
Летніх траў.

О колькі блытаных
Слядоў
У неразгаданым
Жыцці.
Сум горкі восеньскіх
Гадоў —
Гарчэй напою
Не знайсці.

І ўсё-ткі п'ю ўзахлёб
Яго —
Да д'ябла сціпласць
І мараль!

Тут фініш і жыцця
Майго,
Тут і жыцця
Апошні баль

Я п’ю ўзахлёб
Гаркоту год,
Мне не падняцца
На крыло.
І малаўцешны
Падсалод —
Маё надзейнае
«Было».

Я адыходжу
Ад акна,
Спыняе час адвечны
Бег.
О, восень,
Лета
І вясна,
Бывайце!
Бачу першы снег.

## Малітва аб хлебе

Глядзіць мужык на неба
З дакорам і надзеяй.
У порах ссохла глеба,
Даўно ў дажджы патрэба,
Лютуюць сухавеі.

І ноччу выйдзе з хаты,
У небе чыста, зорна.
І рот ад крыўды сцяты —
Ці ж голад едзе ў сваты?
Ці ж не крануцца жорны?

І моліцца старая,
Да абразаў прыпаўшы:
— За што нас, Бог, караеш?
Грахі якія нашы?

Ці заклік малітоўны
Нарэшце здзейсніў мары —
А раніцай раптоўна
Ажыў настрой цудоўны —
Рашчодрыліся хмары.

## Муха ў малаку

Снег паглынуў сляды
Настолькі хутка:
Далей ісці куды?
Бялым-бялютка.

Дзе я? Ў якім баку?
Незразумела.
Я — муха ў малаку,
Бялютка-белым.

Калі слядоў няма,
Дзе паслядоўнасць?
І ўсё-ткі ты, зіма,—
Сама чароўнасць.

# Жывое неба

Малюе неба воблакі-выявы,
Людзей, мядзведзя, птушку, матылька.
Малым я назіраў дзеля забавы,
Цяпер дзіўлюся густу «мастака».

Адно і тое ж воблака знянацку
Нам дорыць вобраз дзеда з барадой,
А дзед перарабіўся ў ляльку-цацку,
А цацка ў белы ветразь над вадой.

А вунь другія воблакі, як коні,
І космы грыў, і тонкіх ног сцяна.
Вунь аблачына з сэрцам на далоні —
Шануе дух Шамякіна яна.

Вунь кучавыя — ўзораная глеба,
А вунь і знакамітае руно.
Цікавае яно, жывое неба,
Яшчэ — заўсёды новае яно.

## Споведзь

Грахі мае сумленне ловіць
Старанна па мінулым шнырыць.
Да поўні я прыйшоў на споведзь —
Без сведак ноч
Душу мне шчырыць.

Грахі маё сумленне месяць,
Ліюць тугу
Ў мой лёс вірлівы.
Ты, кажуць, рэгулюеш, месяц,
Адлівы зла,
Дабра прылівы.

З табой прыемна, месяц-браце,
Адкрыцца, па-сяброўску гэтак.
Лягчэй без сведак спавядацца,
Чым на цябе
Мне выць без сведак.

## Да пары

Нібы ў бязводдзі карані,
Патрачаныя дні.
Мая надзея растае
Сняжком на далані.

Душа дагэтуль на плаву,
Не хіліць галаву.
Жывучасцю сваіх надзей
І сёння я жыву.

Без іх — нагамі да гары,
Хоць ты малы, стары.
Надзеі крылы —
Ўсё ж яны
Трымаюць да пары.

## Хто каго?

Ці гэта ранняе змяркание?
Ці не саступіць дзень сваё?
Між імі зноў супрацьстаянне,
Зноў дзень і вечар —
Хто каго?

Пачаў хавацца
Лес кашлаты
Цішком за цемру-размазню.
І вечар наступіў на пяты
Не саступаючаму дню.

## Следства і прычыны

Хачу я прагна зразумець,
пакуль жыву,
Ўзаемасувязь вечных
следства і прычыны —
А што ж трымае
чалавека на плаву
У час адчаю,
ў безнадзейныя гадзіны?

У час, калі
усе магчымасці свае,
Здаецца, выкарыстаў ён
і выжыць цяжка?
Што паднімае дух
і сілы надае,
Што альбо хто тады
ратуе ад фіяска?

Шкада, магчыма,
незавершанасці спраў?
Ці, можа, цяжкасцяў
паслабленасць і літасць?
Магчыма, кліча
недагуленасць забаў —
Недапрыгодніцтва начное,
недапітасць.

Сабой мацуе нас
да бліжняга любоў,
Падтрымка бліжніх
размінае нас з адчаем.

Мы выжываем
дзеля родных і сяброў,
І нашым ворагам назло
мы выжываем.

І чалавек
«Нясе высока» галаву,
Не зверне з ім жа
выбранай дарогі.
І чалавек
Заўсёды будзе на плаву
Той, хто глядзіць
наперад, не пад ногі.

## Адзінота

Пасля першых замарозкаў,
Напярэдадні зімы,
Скінуў з плеч свае абноскі
Аднаногі клён храмы.

Ён распра́нуты гібее,
Водар горкіх думак п’е.
Хутка, хутка ўжо завея
Калыханку прапяе.

Ён засне зімой глыбока,
Будзе бачыць казкі-сны.
Прастаіць ён «рукі ў бокі»
Заінелы да вясны.

А вясной расправіць голле —
Як не цешыцца яму!
Ён адзін у чыстым полі
Мужна перажыў зіму.

## Разважанні

Да Зямлі
Астэроід агромны імчыць,
Як шалёны.
Пэўна, Бог
Толькі здольны нам дапамагчы…
А ці вартыя мы
Дапамогі яго
Й абароны?

Мы загінем усе,
Пахавальны марш, грай —
Думка секла.
Вартым будзе лягчэй —
Пападуць яны ў рай,
А нявартыя — ў пекла.

Я — няварты і трошачкі варты,
Мне і мала бяды,
Мне і мала нуды —
Пападу і туды, і туды.

## Запазычанасць

Як вярнуць мне сваю
Запазычанасць вам,
Землякі мае, добрыя людзі?
Колькі й што не аддаў,
Што паспею, аддам —
Мала будзе.

Сярод шчырасці вашай
Утуліўся й рос,
Мары смелыя, вольныя крыліў.
Я на годнасці вашай
Выхоўваў сябе —
Дзякуй шчыры!

З вашым лёсам я звязаны
Лёсам сваім
І з Лагойскаю роднай зямліцай.
Дзе ні буду й калі,
Калыханка зямлі
Будзе сніцца.

## Скразняк мінулага

Ці гэта час такі,
ці гэта лёс такі,
Мы выраваліся з,
слоўмі створанай блакады.
Мы перайшлі з табой
на розныя бакі,
Уздвігнутай каханнем барыкады.

Паміж бяскрылых мар,
між выліняўшых дат,
З табой мы, як скразняк мінулага
між імі.
Узброеныя мы
ад галавы да пят
Астылымі пачуццямі сваімі.

## Не спяшайся...

Поспехі ў жыцці,
Няўдач асцё,
Святы, страты,
          яд ілжывых сведак…
Што яшчэ ёсць
          у цябе жыццё?
Што?
І чым ты здзівіш напаследак?

Ты, жыццё —
          выток дабра і зла,
Ты ўвесь час стракаціш —
          дні і ночы.
Калі будзеш біць —
          не з-за вугла,
Калі будзеш ганьбіць —
          не за вочы.

Каляндарны ліст не адрывай,
Іх так мала —
          бачыш? — засталося.
Не спяшайся
          мне сказаць: «бывай»,
Гэта слова —
          кропка ў маім лёсе.

## Вядома даўно

Перажытым душу наталю я,
А калі не усцешу душу,
Я — мастак,
Я жыццё дамалюю,
Я — паэт,
Я жыццё дапішу.

Але добрасумленныя словы
Не жадаюць хлусню рыфмаваць,
Ды і скончыўся колер ружовы,
Каб жыццё маё падфарбаваць.

Разагнаўся я ў марах
            без меры,
Хоць самому вядома даўно,
Што жыццё —
            і не аркуш паперы,
І не фарбы,
            і не палатно.

## Няўлоўная

Ці ж першы дзень такі?
А я раскіс.
Удача — то ў бакі,
То ўверх, то ўніз.

Няўлоўная яна,
Як сон, але ж,
Бывае, як вясна,
Як свет, без меж.

Мы з ёй адно?
Не факт,
Зазначу я,
Што сэрца б'ецца ў такт
З няўдачамі.

# Шкодна-модна

Сэлфі,
Шопінг,
Брэнд,
Драйв,
Онлайн
І трэнд.
Ўжо чужынцы словы —
Частка нашай мовы.
Мовы друкаванай
І тэлеэкраннай.
Ганарымся шкодным —
Ах, як гэта модна!
Да чужога цяга,
А да Беларусі
Гэта — непавага.

# Пераможны кліч

Зазімак не зіма,
але ж ужо й не восень —
Няўтульная мяжа
між «будзе» і «было».
Хоць сем адмерай раз,
няхай сабе, і восем,
А не дазволіць час
падняцца на крыло.

І ўсё такі я мар
не ведаю бяскрылых,
Хаця на іх і гіры —
няўмольныя гады.
З няўтульнае мяжы
мы узляцець не ў сілах,
Ды і куды ляцець?
Вядома нам — куды.

І ўсё-ткі чалавек
ў апошнюю гадзіну,
Прад вечнасцю душой
не прыпадае ніц.
Бо нават журавель
Перад сваёй канчынай,
Як выклік, смерці шле
свой пераможны кліч.

## Бульба на вячэру

Ах, што за раскоша —
бульба ў сагане,
Звараная ў грубцы
на агні адкрытым!
У руцэ гарэлік —
будзіць ён ўва мне
Успамін, калі
быў толькі бульбай сыты.

Я і сёння тое
з асалодай сню,
Я і сёння посны
успамін той тулю.
Бульба на вячэру —
вечнае «меню»,
Бульбінка з грыбамі,
бульбінка з цыбуляй.

Бульбінку пашанна
пасыпала соль,
А калі ж грыбкоў
з цыбулькаю не стала,
З бульбачкай і шчаўем
выжывала голь,
Толькі не заўсёды
бульбачкі хапала.

Я ў душы нашу
малечую пару
І яна мяне
не раз сагрэе — веру.

На здзіўленне жонкі,
        часта гавару:
— Ты звары мне сёння
        бульбу на вячэру.

Я ў душы хаваю
        успамінаў боль,
Пэўна, перад жонкай
        дзіўна выглядаю.
Я цішком мачаю
        бульбінку у соль,
І з цыбулькай гэту
        смакату з’ядаю.

І здаецца мне —
        пераступіў мяжу,
І гляджу ў саган
        з галоднымі братамі,
І нібыта я
        ля вогнішча сяджу,
Гатаваць «меню»
        дапамагаю маме.

Жончын смех вярнуў
        мяне з тае пары:
— Што ж ты бульбу й соль?
Ці ж іншага тут мала?
Ты ж да бульбы масла,
        каўбасу бяры,
Агурочкі вось,
        падсмажанае сала.

Я жыву ў мінулым
        памяццю святой,

Ці ж магу я есці
бульбу без падзякі?
Сёння перад ёю,
гэтай смакатой,
Нікнуць на стале
сучасныя прысмакі.

*

Ах, што за раскоша —
бульба ў сагане,
Звараная ў грубцы
на агні адкрытым!
У руцэ гарэлік —
будзіць ён ўва мне
Успамін, калі
быў толькі бульбай сыты.

## Лясны ручай

Я люблю журчанье перекатов…
*Константин Давидович*

Як стрымана пяе
ручай лясны,
Крынічную ўхваляе чысціню,
Нібы баіцца
распалохаць сны
Затоенай у лесе цішыні.

Як быццам флейты
казачнай матыў,
Струменіцца вады
крынічнай плынь.
Вакол зачараваны лес застыў,
І слухае ўлюбёна
неба сінь.

Яго ніколі не мінаю я,
Імкнуся
Праз няходжаны гушчар.
Прыемна пасядзець ля ручая,
Спіхнуць з душы
свайго жыцця цяжар.

## Ратацыя

Мне — семдзесят пяць…
Невясёлая дата.
Былое маё —
і маё й нічыё.
Грэх скардзіцца мне,
я мінулым багаты.
Наперадзе — толькі маё,
Бо — стар'ё.

Ўхваляем мы старасць,
ды больш на паперы,
Папера кіруе,
хоць мы больш мудрэй.
Як толькі пастукае
старасць у дзверы,
Не шмат беспаперных
ля гэтых дзвярэй.

На жаль, нашы лёсы,
як лёс аблігацый,
Набыў — і на сметнік,
знаёмы матыў.
Нам не абысціся
ў жыцці без ратацый —
Аджыў — і на сме…
Не! Аджыў — і ў архіў.

*20.VII.2017*

## Азарт

Грыбны сезон яшчэ далёка,
А грыбнікоў, хоць пруд прудзі.
Па лесе гойсаюць з падскокам,
Пакоцяць з ног, таго й глядзі.

А што за твары!
Мой ты Божа,
З губою сціснута губа,
Адзін на аднаго варожа
Глядзяць ваўкамі з-пад ілба.

Калі ж схіліўся раптам нехта,
Быццам папpавіць макінтош,
Другі яму — у адно месца
Гатовы садануць свой нож.

Тут — ліхаманкавы аўральчык
За кожным кожны наўздагон.
А ў Мінску — аттапырацць пальчык —
Культурныя: «мерсі», «пардон».

А ў лесе можна і па-свінску,
І без павагі, й на дыбы.
Як добра, што у нас, у Мінску,
Пакуль што не растуць грыбы.

## Ад Бога мы

З матуляю пяшчоціцца
Дзіця, дзіця.
Адтуль вытокі творчасці —
З жыцця, з жыцця.

Ад калыханкі мацінай
І ад зямлі,
Каб на духоўнай спадчыне
Мы ўсе раслі.

Шлях па жыцці то звілісты,
То зноў прамы.
Адкуль мы ўсе з’явіліся?
Ад Бога мы.

Шукаем мы настойліва
На ўсё адказ.
Мы будучыні дойліды —
Час выбраў нас.

## Часы міналі

З вяршыні свайго лёсу
Я бачу ўвесь свой лёс.
Спярша галодны, босы,
Безабаронна росшы
З часоў крыві і слёз.

Затым —
З часоў прынукі
І дырэктыўнай лжы.
І апускаў лёс рукі
З адчаем на мяжы.

Часы жыцця міналі,
Знікалі ў нікуды.
Вяршыню лёсу склалі
Маіх пакут гады.

## Ля Паперні прысады

Ля Паперні прысады
Белацелых бяроз.
Сустракацца быў рады
З гэтым цудам мой лёс.

Вашых кронаў прычоскі
Нас хавалі ў цяні,
Калі ехалі з вёскі
Аж у Мінск на кані.

Так было у юнацтве
І у сталасці так.
Вы дарылі нам шчасце,
Не чакалі падзяк.

Шчасце сэрцу і воку,
Як святое «Амінь!»
Нас вітала здалёку
Веліч вашых вяршынь.

Гарадскі ці вясковы
Ехаў хтось —
З двух бакоў,
Каравул ганаровы —
Прывітанне вякоў.

*

На машыне качу я,
Чаджу ім — чых ды пых.
А бяскрыўднае чую
Прывітанне ад іх.

Колькі чаду глынулі
Ў час сучасных падзей,
А усё-ткі хінулі
Водар свой да людзей.

Сэрца шчырасцю поўніць
Дух, часоў сівізны.
І бацькоў маіх помняць
Маладзенькіх яны…

Сто ці дзвесце год — мала.
Час — цана яму грош,
Бо прысадаў не стала,
Іх пусцілі «пад нож».

І пад корань бярозы —
Што ж не бачыў ты, Бог?
Словы шчымяць, як слёзы —
Я пішу некралог.

Еду — цуда не бачу,
Ненавіджу шашу.
І у сэрцы ім дзячу,
Й прабачэння прашу.

*25.VI. 2017.*

## Вітаю вас!

Вясковы чалавек
          бліжэй мне па душы,
Чым гарадскі…
Прабачце светапогляд грэшны.
Адрозніць лёгка іх,
          як сцежку ад шашы,
Па повязі з зямлёй, з жыццём —
          не толькі знешне.

Мне сцежка даражэй,
          чым велічны праспект,
І чым дарогі ўсе,
          дзе ёсць асфальт бясплодны.
На ёй утульна мне,
          на ёй я — чалавек,
Я — натуральны тут,
          я — частачка прыроды.

Чым на пярыне спаць
          у тлуме гарадскім,
Мне лепей у бары
          прылегчы на ядлоўцы.
Мне горад не чужы —
          я ўсё ж фізічна з ім.
А ў вёсцы я душой.
          Вітаю вас, вяскоўцы!

## Зруйнаваная памяць

Хтосьці шукае
падмурак ад хаты —
Рэшткаў былога
на хатнішчы — жмені.
Ціха, нібыта ў вушах
поўна ваты —
Час зруйнаваў і
падмуркаў каменне.

Ў Дворышчы
І на Псігурцы,
Ў Акопах,
І ў Рубяжы —
Час былым скупа пляміць.
Час, як знішчальнік,
шалёна галопіў,
Хатнішчы што!
Зруйнаваў нават памяць.

Зноў дзе-нідзе
натыкнешся у лесе
На камяніцы
падмуркаў астылых.
Часам нашчадкі
раскіданы недзе,
Продкі пакояцца
недзе ў магілах.

## Хто ж?..

Чалавек чалавеку…
Хто ж?..
І увогуле — хто, чалавек?
Здзек-пытанне, як востры нож,
Як пакуты, пытанне-здзек.

Кожны ўхваліць сябе:
— Я — такі!
Кожны ўзвысіць сябе:
— Я — гэткі!
А ад болю крычаць вякі,
А стагоддзі — трагедый сведкі.

Я ваўку перавагу аддам,
Чалавецтва няхай выбачае.
Не грызе ён такіх, як сам,
Воўк, падобных сабе не знішчае.

## Навокал – усё першароднае

Разбегліся хмаркі па небе,
як статак па полі,
А сонца то гляне з-за іх,
то схаваецца зноў.
І гоніць іх ветрык кудысьці
паціху, паволі,
Як той пастушок
гоніць з пашы каровак дамоў.

Да слыху данесліся словы —
Ісусе Хрыстос, Свя́ты Ойча…
Далей — не пачуць,
ці «скажы мне…», ці «дапамажы…»
Старая на крыж каля вёскі
хрысцілася тройчы,
Нібыта сам Бог быў распяты
на гэтым крыжы.

А вёсачка як выглядае
прыгожа і зграбна,
Пакуль што без дачных катэджаў,
што горш за быльнёг.
Навокал усё — першароднае,
ўтульна, прывабна —
Зямля — парадзіха жыцця,
над якою наш Бог.

*20.VII.2017*

## Юбілей

Туга глыбокая —
куды той Марыянцы?[1]
І ўсё-такі
пакуль я не на дне.
Амаль усе магчымасці
І шанцы
Я выкарыстаў…
правільна ці не?

Туга глыбокая —
а думкамі высока.
І ўсё-такі
вышэй ужо не быць.
А неабсяжнасць неба
цешыць вока
Й надзеі зорка
у душы гарыць.

Туга глыбокая —
а далягляд бязмежны,
Як і жыцця
не бачу берагі.
Я, дзякуй Богу,
сэрцам незалежны
Ад юбілея,
ад яго тугі.

---

[1] Марыянская ўпадзіна.

## Хітрун

Іду па вёсачцы —
хлапец-малец,
Да сябра, з канцавой,
апошняй хаты.
Іду па вёсачцы —
з канца ў канец,
Імкнуся несці гонар
мамы й таты.

Таму гляджу
на два бакі ўвесь час,
На кожны двор —
уважліва, старанна.
Фасонюся:
— Вітаю, дзядзька, вас!
Лагоджу:
— Прывітанне, баба Ганна!

У вёсцы ўсе —
нібы адна сям’я,
Мае вітанні —
не цяжкая праца.
Ды не такі ўжо
й выхаваны я —
Хітрую больш,
каб людзям спадабацца…

Эх, колькі год мінула
з той пары!
Не мала іх,
ды і падзей не мала.

Не толькі зніклі
хаты і двары
Не стала тых людзей,
Даўно не стала.

Іду па вёсцы
і душой крычу,
Бо мала што
ад вёскі засталося.
О, як я сёння
«хітраваць» хачу:
— Вітаю, дзядзька Юрка,
цётка Зося!

Вітаю ўсіх, аднавяскоўцы, ўсіх,
Без хітрыкаў малечых,
сёння — шчыра…
Не дакрануцца слоўмі
мне да іх —
Вяскоўцы адляцелі
ў вечны вырай.

## Джэнтльмен

У самога ў дзюбе
ні крупінкі
Й аніякай іншае яды.
І жывот, па сытасці памінкі
Дружна справіў
раз і назаўжды.

Раптам ён,
разгрэбваючы смецце,
Зернейка знайшоў —
як дзіўны сон.
Хтосьці быў бы
найшчаслівы ў свеце
І адразу б з'еў яго.

А ён
Азірнуўся —
Дзе яго паненкі?
І затым —
пяшчотным галаском
Кінуў кліч
прызыўны, джэнтльменскі,
Ўсім курам вядомае — ко-ко-о!

Да яго,
Узрушаныя куры
Збегліся,
Як дзеці на бліны.
Ля яго,
узнёслае фігуры

Адчувалі
        ўпэўнена яны.

Так зрабіў
        не кожны б з нас, напэўна,
Выхаваны —
        з горам напалам.
Джэнтльменству
        павучыцца ў пеўня
Не пашкодзіць,
        джэнтльменам нам.

## Сцяна часу

З мінулага — усё, што аджыло,
Як матылёк з даль-далечы,
Адчайна б’ецца й б’ецца
          ў часу шкло,
Ў адказ на покліч памяці.

А мы, з адчаем
          гэткім жа сваім
За гэтай сочым марнасцю.
На жаль, ніколі
          не спаткацца ім,
Мінуламу з сучаснасцю.

Мінулае мы клічам
          праз гады
І нас яно —
          без спыннасці.
Яно адтуль не можа —
          мы туды,
Між намі час бязлітасны.

## Чорны колер

У палітры жыцця
          чорны колер нікому не трэба,
Чорны колер, ён лішні,
          непатрэба усіх непатрэб.

Хтосьці можа спытацца —
          а як нам без чорнага хлеба?
І адказ будзе просты:
— Ці ж ёсць у жыцці чорны хлеб?

«Чорны» хлеб ма́е колер
          грачышнага мёду,
«Чорны» хлеб мае колер загару
          хлебаробавых рук,
«Чорны» хлеб мае колер
          ураджайнага кожнага году,
Калі ёсць умалот —
          сто цэнтнераў, не меней, на круг.

Я не ведаю што,
          можа чорнае быць у прыродзе,
Нават у岗 гругана —
          не, не чорнае, з сінім крыло.
Праўда, чорная зайздрасць —
          чамусьці завецца ў народзе,
Колер чорны ў жалобы,
          ды лепш бы яе не было.

## Бачыць рады

Зноў з табой я,
Родны краю!
Тут душу я разняволю.
Прывітанне, дружа — гаю,
Прывітанне бор і поле.

І ледзь бачныя сцяжыны
Й прыдарожныя прысады,
Клён чупрынны, дуб былінны —
Як я ўсіх вас бачыць рады!

Колькі ўжо гадкоў мінула!
Колькі цяжкасцяў спаткана!
Вы ахоўваеце чула
Лёс мой, як і ваш, складаны.

## Высакамоўна?

На словах і на справе
Патрыятызм пакажам:
Парадак у дзяржаве —
Парадуемся разам.

Дзень новы ў кожным лёсе,
Стары —
Ні ў якім разе!
Каб лепей нам жылося,
За гэта мы ў адказе.

Уславім дзень працоўны
Заўсёды!
Ўсенароднa!
Гучыць высакамоўна?
Не!
Жыццянеабходна.

## Сон у руку

Пагрэцца на сонцы прыемна,
Не блага пабыць і ў цяньку.
А сёння чамусьці нідзе мне
Няўтульна. Ці ж сон у руку?

Прыснiў я царкву і малебен,
Туды я, ды чую: — Э-э, брат,
Спыніся, ты тут не патрэбен,
Грашыў у жыцці ты зашмат.

Не варты ты літасці Божай,
Для іншых наш Божа святы.
У пекла ідзі, бо даўно ўжо
Смыляць там такія, як ты.

Я ў пекла.
Пастукаўся ў браму,
Знайсці тут прытулак рашыў.
А мне, без ніякага, прама
Задалі пытанне: — Грашыў?

Не буду прасіць прабачэння,
Я рот для адказу расшыў,
Сабраў сваю мужнасць у жменю
І шчыра прызнаўся: — Грашыў…

З-за брамы ізноў глухавата
Пытанне пачулася мне:
— А спраў Богаўгодных багата
Рабіў між грахамі ці не?

Успомніў грахі я, забавы,
На мне за ўсё тое віна.
Прызнаўся: — Якія там спавы?
Вось толькі хіба што адна.

Карміў я бяздомных жывёлак
І птушак гаротных зімой.
Я ведаю, я — не анёлак,
Апошні прытулак тут мой.

А мне адказалі з-за брамы:
— Не наш ты, вяртайся назад.
Хто корміць гаротных, той самы
Для пекла антыкандыдат.

Вось так і ад пекла я збочыў,
І рай застаецца ў баку.
Другой прычакаюся ночы,
Каб лепшы быў сон у руку.

## Супадзенне

Душыць дум перавясла
Горла стомленых дзён:
Хоць бы зорка не згасла —
Маёй творчасці плён.

Мушу несці ў дарогу
Ўвесь свой лёс на гарбе.
Мне бы злосць у падмогу
На самога сябе.

І бязлітаснасць духу,
І душы бізуны.
Для далейшага руху
Ой, згадзяцца яны.

Шкадаваў сябе мала,
А цяпер — менш таго.
Ўсё жыццё супадала
З рытмам сэрца майго.

Ад няўдач маіх — горка,
Сёння ўдачы — радзей.
Не згасай, мая зорка,
Над дарогай надзей.

## Жывы феерверк

У лесе не стала вавёрак,
З чыёй, невядома, віны.
Адкінуць, напрыклад,
Год сорак,
Ў лясах шчыравалі яны.

Вавёрачка —
Мар нараджэнне,
Бяскрыўднай прыроды
Дзіця.
Якое яны ўпрыгажэнне
Ляснога «жывога» жыцця!

Ідзеш —
А направа, налева,
То ўніз нечакана,
То ўверх,
То з фырканнем
            з дрэва на дрэва,
Пульсуе жывы феерверк.

То ладзяць
            гульню між сабою —
Маланкава скача камяк.
То цокаюць над галавою
Сярдзіта, прыветна — усяк.

Успомніць прыемна, ахвотна,
Насычаны жыўнасцю лес.
А сёння —
            у лесе самотна,

Лес —
Нібы драўляны пратэз.

І час наш —
            таксама ён грэшнік,
Мяняе аблічча зямлі.
Амаль што ўвесь
            звёўся арэшнік,
Грыбам знікнуць
            мы памаглі.

Грыбы дык бываюць часова,
Але ж, у грыбны
            самы пік,
Збіральшчыкі — напагатове,
Іх сто на адзін баравік.

Мы нішчым
            братоў меншых межы,
Зусім не зважаем на іх.
Не стала
Ў вавёрачкаў ежы,
Не стала, на жаль,
            іх саміх.

## Застацца б...

Застацца б мне
　　　над вёскай лёгкім ветрам,
Над родным краем
　　　лекавым паветрам.
Застацца б мне
　　　пад небам ціхім сумам,
Застацца б мне
　　　вясной птушыным тлумам.
Застацца б мне
　　　лясною прахалодай,
Застацца бы мне
　　　сонечнай пяшчотай.
Застацца б мне
　　　зямелькі-маці сынам —
А лепш застацца
　　　рэдкім успамінам.

## А і Б

Не бачыліся мы
          аж ад сканчэння школы,
І часу, і падзей
          не мала адгуло.
Ты выглядала кідка,
          нібы кароль той голы,
Хоць, праўда, сёе-тое
          ўсё ж на табе было.

Затым жыццё
          шляхі размежавала нашы,
Я ў ціхай вёсцы жыў,
          а ты ў жыцці сталічным.
Дарэчы, і вучыліся
          тады мы ў розных класах —
Я ў класе «а», ты ў «б» —
          і гэта сімвалічна.

## Такі вось дарунак...

Мне семдзесят пяць…
У мінулым шуміха.
Жыву паміж даўніх і будучых дат.
Мне семдзесят пяць…
Не святкую, бо ціха
Згасае сястра, умірае мой брат.

Такі вось дарунак жыццё прыпадносіць…
Які юбілей, калі вісне бяда?
Гучаць віншаванні, а сэрца галосіць,
Глытаю гарэлку — яна, як вада.

А быў жа, як цуд, юбілей папярэдні,
І прадпапярэдні, і іншыя ўсе.
Гады паміж імі, нібыта імгненні,
А што ўжо наступны з сабой прынясе?

Цяпер успамінаў вясёлкавасць тую
З апошняе сілы да сэрца цягну.
На іх і пакутую, з імі святкую,
І імі, пяшчотна спавіты — засну.

# Парог

Ступаю праз парог
Штодзённа з хаты ў хату,
Пачатак ён дарог,
За ім пакуты й святы.

Ў чужой далечыні
Сярод усіх блуканняў,
Гадзіны лічым, дні,
Да хуткага вяртання.

І ў пальмавых краях,
Хоць бачым цудаў многа,
Шчаслівыя ўдвая
Ля роднага парога.

Вы здзіўлены, чаму
Маленства наша сніцца?
Нам хочацца таму,
Найпершаму свайму
Парогу пакланіцца.

# Апошняе жаданне

*памяцi Настаровiча Вацiка*

Аб чым мы марым
у жыццi сваiм?
Аб розным —
i прылюдна, i без сведак.
Мы хочам без пакут
прайсцi па iм —
I ўсё-ткi ёсць
жаданне напаследак.

---

Ён быў прыгожы,
Дужы,
Малады,
Быў гаспадар —
руплiвы працавiты.
Час не спыняўся,
i жыцця гады
Няўмольна выпрацоўвалi лiмiты.

Але не ад гадоў
Ён занямог,
Зрабiўся ад хваробы
ў гiблым стане.
I як ён не змагаўся з ёй,
А злёг,
I ведаў, што нiколi
ўжо не ўстане.

Як цяжка пакiдаць
свой родны кут

Пад плач, нагамі ўперад
з роднай хаты.
Усё жыццё прайшло
з сям'ёю тут —
І радасці, і смуткі,
будні й святы.

Ён вечарам
«пераступіў мяжу»,
Але яшчэ паспеў
памарыць зрання:
«Няхай бы толькі
не было дажджу,
Каб больш людзей
прыйшло на пахаванне…»

## Вярніцеся...

Дарэмна вы адклалі кнігу ў бок,
Адклалі й па старонках падарожжа.
А ў кожнай кніжцы знойдзецца урок,
Які ў жыцці, магчыма, дапаможа.

Ці знойдзеце больш шчырае рукі?
Ці будзе болей шчыры суразмоўца,
Чым пісаныя ад душы радкі
Ці між радкоў затоенае слоўца?

Вярніцеся, вазьміце кнігу зноў,
У ёй пачуццяў, гукаў, пахаў — гама.
Не толькі ў ёй да бліжняга любоў,
А да ўсяго і ўсіх й да вас таксама.

## Вось такія справы...

Быў я вельмі жвавы,
Цяпер — ніжэй атавы.
Вось такія справы…

Ўзяўся я за розум,
Кінуўшы забавы.
Вось такія справы…

Лёс мой неласкавы
Сеў на крайчык лавы.
Вось такія справы…

Жыў я, Божа правы,
Жыў не дзеля славы.
Вось такія справы…

Я б сказаў і болей,
Каб не быў картавы
Вось такія справы…

А калі сур'ёзна —
Жыць мінулым мулка,
Жыць сучасным позна.

Сэрцу ў думках цесна,
Як пісьму ў канверце —
Хутчэй бы памерці…

## Жыцця адрыжка

Калі, бывала,
У маладосці
Псаваў мне справы
Наўмысна хтосьці,
Мне ўсе казалі,
Што гэты «хтосьці»
Ў жыццёвым мёдзе,
Як лыжка дзёгцю.

Лічыў бы сёння
За ўзнагароду
Я лыжку дзёгцю
У бочцы мёду.
Бо лёс мне дорыць
Жыцця адрыжку —
Аж бочку дзёгцю
І мёду лыжку.

## Якое ж гэта свята!

Узрушана-прыўзнята
Мы робім адкрыццё:
Якое ж гэта свята
Ўваходзіны ў жыццё!

Ёсць ісціна старая,
Ў ёй кожны — вы і я:
Юнацтва распірае
Ад велічнага «я».

Юнацтву па калена
Праблемаў акіян,
Што шчыра і нязменна
Вядзе юнацтва ў зман.

Часовыя няўдачы
Не лічацца за зло,
І добра — а іначай
Юнацтва б не было.

*

Я быў толькі зерне
Характарных рыс.
Я быў і не вернік,
І не атэіст.

Я, сходу без броду —
Ў плынь лёсу ракі.
Сабака да году
Звычайна такі.

Юнацтва да Бога
Не хіліць крыло.
Ад Бога нічога
Не трэба было.

Ў свет тайнаў бязмежны
Юнацтва грабе.
Я быў незалежны,
Я — сам па сабе.

У гору ахвотна
Ідзем, як з гары.
Жывем бесклапотна,
Але да пары.

Юнацтва растлуміць
Свавольствы свае —
Жыццё абразуміць,
Жыццё абаб'е.

Уцехаў нямнога,
А клопатаў шмат.
Ужо і да Бога
Кіруем пагляд.

Падзей шматгалоссе
Віруе ў жыцці.
І мне давялося
Праз гэта прайсці.

І я перад Богам
Схіліў галаву.
З яго дапамогай
І сёння жыву.

І крочыцца горда
Па сцежках, дзе рос.
І хто ж гэтак шчодра
Адорыў мой лёс?

Ніхто адназначна
Не знойдзе адказ.
Усім я удзячны,
Хто дбае пра нас.

## Прагноз

Абяцаюць заўтра навальніцу,
А яна ў маёй душы штодня.
Адпачынак —
Зубы на паліцу,
А з паліцы —
            тлум і мітусня.

На тым тыдні
Абяцаюць спёку —
Што мне спёка
            з той далечыні!
Халадку у сэрцы —
            ні намёку,
Бо яно —
            усё жыццё ў агні.

Абяцаюць лекавую цішу,
Тую, што з бяроз
            азон ліе.
У душы яе я ненавіджу,
А ў прыродзе —
            благаслаўлю яе.

## Госць

Прыйшоў да гаспадыні
Госць у госці,
Яна яму — цудоўны суп пад нос.
— У гэтым супе не хапае штосьці! —
Ён лыжку пераборліва абтрос.

— У ім жа лісцік, перчык,
соль і кропчык,—
Сказала Гаспадыня —
ўсё ў ім ёсць.
— А, можа, ёсць салоны агурочак? —
На дзіва смачна аблізнуўся Госць.

Ледзь не зляцелі з яе вуснаў слоўкі:
«От ўжо пераборлівы які…»
Яна схадзіла моўчкі у кладоўку,
Й прынесла на талерцы агуркі.

А Госць зазначыў
Гаспадыне важка,
Якая стала ля яго, як слуп:
— А каб да гэтых агурочкаў пляшку,
Вось гэта быў бы
найсапраўдны суп!

## Парады

Чым сядзець на печы,
Лепш язык на плечы,
Ды — у рукі ногі,
Ды — у рытм дарогі.

Чым чужая шынка,
Лепш свая скарынка,
Хлеб чужы ў накладзе,
Свой не перасядзе.

Над суседскім горам
Пацяшацца сорам.
Бо свае нягоды
Сцерагуць заўсёды.

З’едлівая чутка
Рушыць сем’і хутка.
Пазбягай таму ты
Гэтае атруты.

Нават сярод ночы,
Праўда светліць вочы.
Іх жа (й так бывае)
Сорам выядае.

## Залатое вяселле

Залатое вяселле,
Я на ім — «малады».
Адгулі, адляцелі,
Залатыя гады.

Ў вечны вырай умчалі,
У нябыт-ненажэр.
На часовым прычале
Разам з жонкай цяпер.

Тут, ля левага боку,
«Маладая» — і мы
З ёй здалёка-далёку
Шлях прайшлі не прамы.

Нас круціла, ламала,
Быль нуды і бяды,
Але й шчасця нямала
Нам дарылі гады.

А да шчасця ў нагрузку —
Успамінаў алей.
І цяпер на закуску
Залаты юбілей.

Ой вы, госцікі, госці,
Без прынук піце ўсмак.
Шлюбы — гімн маладосці,
Сёння — крыху не так.

Залатое вяселле —
Менш святла, болей цень

Надыходзіць пахмелле
Ад жыцця ў гэты дзень.

«Горка!» — нам аднагодка,
А таму, як наказ,
Лепш крычыце: — Салодка!
Для гасцей і для нас.

*22.VII.2017*

## «Горб вясковы»

Мой «горб вясковы»
 й дамавіна, пэўна,
Не выправіць…
 Упэўнены, што не.
Як сёння ў вёсках
 не хапае пеўня,
Які будзіў бы сонейка й мяне.

Не чуцен стук калёсаў
 за платамі
І фырканне руплівага каня,
І гоман гаспадынь
 паміж дварамі,
Кароў вяртанне
 на зыходзе дня.

Нібыта ў сне
 таго жыцця штодзённік,
Чаму так хутка
 ўсё сыйшло? Куды?
Кароўкі, коні,
 спеў дзяўчат, гармонік
І шчырасць вёскі —
 зніклі назаўжды.

## Эпілог

Жыццё згубіла колер,
водар-пах,
І стрыжань свой,
на ўсё жыццё адзіны.
І неба болей —
не блакітны дах,
А выцвілае века дамавіны.

Ці ёсць каму карысць
з імя майго?
Штó я ў жыцці?
І сёння штó яно мне?
Як я ў жыцці з'явіўся
й для чаго?
Ніхто і не адкажа, і не помне.

Такі вось невясёлы эпілог,
Глынуўшага шмат солі чалавека.
Я б мог абагульніць —
над намі Бог,
Але і ён над намі —
тое ж века.

*20.VIII.2017*

## Плюс і мінус

Бывае так —
            ні смеху і ні слёз,
Адны пустыя лёсу абяцанні.
Я да яе свае надзеі вёз,
А ад яе — свае расчараванні.

Расчараванні, што патраціў час,
Удзячнасць, што з душы дакуку скінуў.
А ўвогуле, што можа звязваць нас?
Нічога, апроч кволых успамінаў.

Загадка душ — трыནож ці не трынож,
Віруе, нібы вецер
Ў полі чыстым…
А ўбачыцца нам трэба было ўсё ж,
Хаця б таму, што мы антаганісты.

Што там, пачуўшы «так»,
            скажу я «не»,
Пачуўшы «не», яе не падтрымаю.
А гэта забаўляе і мяне,
Ды і яна такі расклад прымае.

Адказваў я падкусам на падкус,
Таму ні ў чым мы не прыйшлі да згоды.
Усім вядома — мінус, як і плюс,
Прыцягваюцца, хоць і антыподы.

Напэўна ў гэтым тоіцца адказ
На ўсе пытанні будзе ён адзіны.
Настолькі розных, што яднае нас?
Хутчэй за ўсё, не толькі ўспаміны.

У розных нас,
          адзін агульны груз,
Пытанне без адказу — назаўсёды:
А хто з нас будзе мінус?
А хто плюс?
Упэўнены — і тут не будзе згоды.

Яшчэ між намі — і не першы год
Пытання груз,
І зноў адзін агульны:
Чаму мы разам — як агонь і лёд,
А жыць адно без аднаго —
Няўтульна?

## Каб сабраць...

Каб сабраць у адно
боль і гора людское,
Лік малых і вялікіх
трагедый і бед,
На зямлі атрымалася б, пэўна,
бязмежжа такое,
Для якога зрабіўся б
маленькім сусвет.

Як жа мы выжываем
у гэтым бязмежжы,
Дзе жыве двухсэнсоўе —
як хочаш жыві?
Мы, мільярды сумленных,
ад кучкі вар'ятаў залежым,
І бязмежжа трагедый
расце і расце на крыві.

Каб сабраць у адно
усясветныя радасці й святы,
Атрымалі б бямежжа,
якога і ў сне не прысніш.
Толькі радасці ўсе не паменшаць
трагедый праклятых,
А трагедыі ставяць
на святах і радасцях крыж.

## Пара адчаю

Прысуд пасля сямідзяці пяці,
Як нож у грудзі —
Не будзе болей радасці ў жыцці,
Не будзе.

І гэта ні слюнцяйства, ні хандра,
А сэрца рана.
Такая ўжо прыйшла жыцця пара
Неспадзявана.

Згубіў спакой і не магу знайсці,
І не знайду я.
І справа не ў сямідзяці пяці —
Узрост святкуе.

А вось душа і сэрца — напавал
І думкі — ў сечку.
Бязлітасных падзей — дзевяты вал…
Запальвай свечку.

Я аптыміст па духу, без «ура!»,
Удар трымаю.
Такая ўжо прыйшла жыцця пара,
Пара адчаю.

*22.VIII.2017*

## Кеша

Вось і Кеша загінуў…
Быццам мала бяды.
Востры боль успамінаў
На гады, назаўжды.

Да цябе вельмі дужа
Я душой прыкіпеў.
Як жа мала,мой дружа,
Ты пажыці паспеў.

Спі, каток незабыўны,
Свет  для жорсткіх падзей.
Ах, які я наіўны,
Веру ў добрых людзей.

*23.VIII.2017*

## Душа продкаў

Якую душу
Мелі продкі калісьці!
Калісьці —
Адвечнай нядолі радня.
У хаце,
На працы,
Ў дарозе кудысьці —
Ні кроку без песні,
        без песні ні дня.

У хаце спявалі,
        пры кожным застоллі,
І ў дзень Вялікодны
        за кожным акном.
А як жа спявалі
        жанчыны у полі,
Над жытам з сярпамі
        альбо над ільном.

А ужо, як граблямі
        варочалі сена,
Зграбалі ў валокі,
        ды клалі стажкі,
Ў паветры над лугам
        лунала нязменна
Мелодыя працы —
        спявалі жанкі.

Нялёгкая доля,
Нялёгкая праца,
І людзям здавалася

ў тыя гады —
Без песні не будзе
касіцца, арацца,
Без песні жыцця
не ўяўлялі тады.

Мы песню згубілі,
без песні нязвыкла,
Часы ўжо другія —
і іншы матыў.
А песня пакуль што
са сцэны не знікла,
Але фестывалі,
як той партактыў.

Магчыма таму й надышло
наша «сёння»,
Што «песня и строить, и жить» памагла.
Ды наша заможнасць
ў няспеўнасці тоне,
Ні з горада песні не чуць,
Ні з сяла.

# Мала трэба

*брату Косціку*

Як для шчасця мала трэба.
Для няшчасця значна меней.
Мне б для шчасця — крайчык хлеба
На дарогу у кішэні.

Мне б для шчасця — вецер вольны,
Пажадана, каб сустрэчны.
Паразмежыліся б межы
Даляглядшчыны адвечнай.

Мне для шчасця — мець бы веру
Ў еднасць з зоркай самай дальняй.
Я б нязбытачнасць-хімеру
Ажывіў, зрабіў рэальнай.

Я для шчасця нічагуткі,
Апроч шчасця, не жадаю.
Для няшчасця хопіць чуткі,
Што ў няшчасці хтось канае.

*25.VIII.2017*

## Расчараванне

Вясна пераблытала планы мае
І думкі мае,
І намеры —
То квеціцца,
То салаўямі пяе,
То кліча і кліча за дзверы.

І я не ўтрымаўся.
Ці ж мог сказаць «не»?
І выйшаў:
— Вітаю, спакуса!
Змагла ты між справаў
Заўважыць мяне —
Я ўсцешаны і ганаруся.

О сорам!
Памылка па сэрцы скрабе,
І расчараванне дзе дзену?
Гукала вясна
Не мяне да сябе,
А клікала лета на змену.

## Будзе горш

З усіх бакоў падпёрла,
Настрою — ні на грош.
Бязвыйсце душыць горла,
А будзе яшчэ горш.

Душэўныя пакуты
Вастрэй, чым востры нож.
І верасень, як люты,
А будзе яшчэ горш.

Бяда, яна сляпая,
Прыблудзе, хош ні хош.
Што ж, горай не бывае…
А будзе яшчэ горш.

## Я – бульбаш

Беларус я, бульбаш,
Без утайкі кажу.
На базар, на кірмаш,
Сваю бульбу вязу.

Бульбу танна прадам,
А прыгожай жанцы
За усмешку аддам,
Не сярдуйце, людцы.

Не пускайце слязу,
Не сумуйце наўздых.
Я яшчэ прывязу,
Хопіць бульбы на ўсіх.

Суайчыннік-бульбаш,
Бульбу ў печы вары
І таўчы яе й смаж,
І для бабкі дзяры.

І пячы у агні,
Каб дымілася аж.
І мяне памяні —
Беларус я, бульбаш

Назаўсёды я ваш
І карміцель, і друг.
Беларус я, бульбаш,
Я працую за двух.

Гаспадар тлустых глеб,
Беларускіх палёў.

Наш другі, смачны хлеб,
Ў свеце славу знайшоў.

І вядзерца вага,
І мяшэчык вага,
І да бульбы маёй
Не спадае чарга.

Ма́ю гонар спрадвек,
Што на бульбе узрос,
Што на ёй чалавек
Не прынізіў свой лёс.

Дый на бульбе мой стаж —
Шмат працоўных гадоў.
Беларус я, бульбаш,
І няма лепшых слоў.

## Ні лучыніны

Напалю я спраўна печ
Вечарам у хаце.
Прыгарну цяпло да плеч,
Буду панаваці.

Я ў паветку — мой ты Бог!
Пуста… й мышы збеглі.
Я вярнуўся ў хату й лёг
На халоднай цэгле.

Ні лучыніны няма,
Вецер пад паветам.
Ў дзверы стукае зіма,
Што я думаў летам?

## Узяць бы гармонік!

Узяць бы гармонік — ды з хаты,
Ды рэзнуць па вёсцы фарсіста.
Збірайцеся, хлопцы, дзяўчаты,
Падтрымлівайце гарманіста.

Частуйце частушкай гармонік,
Каб спеў ваш узнёсся над часам.
Скачыце, дзяўчаты, як конік,
Прытопніце, хлопцы, абцасам.

Няхай вашых спеваў галоскі
Ажывяць зямельку і хаты,
Бо вёскі без песень — не вёскі,
Без моладзі ўвогуле — краты…

З гармонікам выйсці магу я
І рэзнуць наўшыркі й да неба.
Ды ў вёсцы другое пануе,
Сучаснаму гэта не трэба.

## Яблычак ад яблыні...

Беларусь адзіная,
дарагая, слынная
Ды зямля Лагойская,
неба жураўлінае.
Залатая спадчына —
калыханка маціна.
Сэрцам не растрачана
ўсё, што лёсам дадзена.

Як царква для верніка,
родны дом для сэрцайка.
Ў роднай глебе й зернейка
памагае зернейку.
У замежжы ўхваленым
сум — вярнуцца хочацца…
Яблычак ад яблыні
далёка не коціцца.

## Кожны сам па сабе

Памажыце ў бядзе!
Людзі добрыя,
Дзе вы?
Слова мовіце хоць,
Працягніце руку.
Памажы, дабрыня
Беззаганнае Дзевы,
Жыватворныя сілы,
Не будзьце ў баку.

Ні гу-гу — у адказ…
Сум адзін?
Шмат іх, сумаў,
Мне здаецца,
Што й час
Прыпыніўся ў журбе.
Я й дагэтуль маўчаў,
Не прасіў,
Толькі думаў,
Бо глухія вакол —
Кожны сам па сабе.

## Бязмежная, ды залежная

Памяць —
Яна бязмежная,
Памяць —
Яна бяздонная,
Памяць ад часу залежная,
Як стужка магнітафонная.

З часам —
Штосьці сціраецца.
З часам —
Штось размагніціцца.
Многае з часам губляецца
Ці непатрэбным лічыцца.

Памяць нам —
Не спадарожніца,
Лішняя —
Лічаць многія.
Тут ужо бездапаможныя
Й лічбавыя тэхналогіі.

## Вось гэта талент!

Перад спектаклем рэжысёр
Звярнуўся да свайго Атэла:
— Ты дай фантазіі прастор,
Сыграй Атэлу дзёрзка, смела.

Ён быў тыран,
Быў антыпод,
Напніся, падтрымай Шэкспіра,
Каб крытыкі запхнулі рот,
Каб ажно млеў
Глядач-прыдзіра.

Калі на сцэне не ігра,
А гістарычныя прыгоды,
Тады спектаклі на «ура»
І ўспрымаюцца заўсёды.

Характар маўра пакажы,
Як ён лютуе падазрона,
Хай па-сапраўднаму дрыжыць
Перад табою Дэздэмона.

Запомні!
Гэта твой дэбют
Уразіш —
Быць табе народным.
Ну, ты усё уцяміў? Гут?
Акцёр прамовіў ціха:
— Згодны.

І вось спектакля
Йдзе прагляд —

Пасля пытанняў і адказаў,
На Дэздэмону,
Як вар'ят,
Уссеў Атэла чарнамазы.

І так у ролю
Ўжыўся ён,
І так пачаў
Душыць актрысу,
Што у яе душа ўжо вон,
Атэлу ж цягнуць за кулісы.

Ён, хоць у гледачоў кумір,
Яго міліцыя скруціла…
Шкада, не ведае Шэкспір,
Якая ў яго творах сіла.

## Прайшлі канікулы

Настаў руплівы верасень.
— Прайшлі,
Прайшлі канікулы!
Крычалі недзе ўверсе
Узрушаныя кнігаўкі.

— Прайшлі,
Прайшлі канікулы!
Крычалі ўверсе ластаўкі,
Дзяцей у школу клікалі
Прыветна, як настаўнікі.

І хітавачкі кволыя
Зазыўна ў небе пікалі,
Над дахамі, над школамі:
— Прайшлі,
Прайшлі канікулы!

Ляцела сумна з вышыні:
— Прайшлі,
Прайшлі канікулы!..
Ці не сябе ўвесь час яны
Ў далёкі вырай клікалі?

## Сумная замалёўка

Жыве сяло —
Усё ў парадку,
Наўскраі гэтага сяла
Стаіць пахіленая хатка,
Ў зямлю якая урасла.

А побач —
Бабка гаспадынька,
У крук сагнулася
З кійком.
Здаецца,
Што яна з будынкам
Ў зямлю кіруецца цішком.

Тут — курка
Каля ног сакоча,
Яна за бабку маладзей…
Павісла тут
Жыцця прадночча —
Без варыянтаў,
Без надзей.

## Што было...

Усё ў жыцці
За доўгі час было —
І смех, і грэх,
        і соладка, і горка.
А што было, яно…
Не! Не сплыло,
Дарэмна нам
Лагодзіць пагаворка.

Нам ад «было»
Не дзецца нікуды,
У тым было —
        і святы, і нягоды.
Ўсё, што было,
        яно ў душы заўжды,
Як груз цяжкі і лёгкі —
Ў нас заўсёды.

Наш лёгкі «груз»
Шмат успамін нясе,
Нібыта крылы
        казачнае феі
У ім і ўзлёты,
        й святкаванні ўсе,
Ўсе радасныя,
Светлыя падзеі.

Але хвіліны шчасця —
Вось бяда,
Хоць грэюць моцна,
        але й хутка стынуць,

Ў мінулае,
              амаль што без сляда
Спяшаюцца,
Імкнуцца нас пакінуць.

А груз цяжкі —
              і безліч чорных дат,
Й памылак безліч,
              даўніх і нядаўніх
І шмат балючых,
              беззваротных страт,
І дзеянняў бяздумных,
Непапраўных.

А груз цяжкі —
              пакуты ўсіх пакут.
Ён не прымае
Самаапраўдання.
Тут і сумлення
              непадкупны суд,
Й благіх учынкаў
Самакатаванне.

На шалях часу —
              цемра і святло,
Дабро і зло,
Жыцця трыумф і смецце.
Каб тое, што было,
              усё сплыло,
Мы б сталі горш, чым ёсць
На гэтым свеце.

## Асобы

Як золата, асобы
Бываюць рознай пробы.
Ёсць класікі — тытаны,
Наш гонар ўшанаваны.

Нямала і сучасных
Паэтаў першакласных.
Нясе і проза слова
Высока, паспяхова.

Бярэ на ўлік асобы
Дзяржава ўсе асобы
Чытач душой адданай
Да твораў іх з пашанай.

Быль сведчыць векавая,
Што іх няшмат бывае,
Больш тых, хто есь вантробы
І шчыміцца ў асобы.

Вось тут ужо пытальнік:
А ён хто, укладальнік?
Павінен быць ён значнай
Асобай — адназначна.

Інакш — асоба кожны,
Так і пакрыўдзіць можна
Асобаў, не так званых,
А творчасцю абраных.

Амбіцыёзнасць нашу
Астудзіць кніга часу,

Сам час — ён укладальнік
Не наш самаўхвальнік.

Нібыта ад хваробы,
Ад часу лжэасобы
Памруць, ім не вярнуцца,
Асобы ж застаюцца.

*

Ёсць і такі заробак
Праз золата-падробак.
Яно таксама ззяе,
Ды вартасці не мае.

## Няма адказу

Чуў я некалі, як дзеўкі,
Можа жартам, мо ўсур'ёз,
Пелі дзіўныя прыпеўкі,
Словы — па спіне мароз.

— Я гуляю ўсе дзянькі,
На які мне лях бацькі?
— Наелася, напілася,
Нашто й мамачка здалася?..

Як не стала бацькі й маці,
Дні насталі хісткія.
Перасталі штось спяваці
Дзеўкі галасістыя.

Я пытаюся у іх:
— Што ж ваш спеў вясёлы сціх?
Не спяваеш ты і ты,
Падцягнула жываты.

А ў адказ… Няма адказу.
Ўсё я зразумеў адразу.

## Скрыпка

У скрыпку ўкладзена
душа ўсіх душ,
Якія перапоўніў
боль адвечны,
І енк сіроцкі
ўсіх завеяў-сцюж,
Й таемны сум агульначалавечы.

У скрыпцы чуецца
й жалобны плач
І памінальная туга
навокал вісне,
У ёй гучыць
і пакаяннае «прабач»,
І развітальнае «бывай»
за горла цісне.

Але ж у той жа скрыпцы
вытанчанасць ёсць,
Нібыта ў промнях
веснавое ранне
І ў кожным сэрцы,
як жаданы госць,
Гучыць чароўная
мелодыя кахання.

## Я часова ад'еду

Лета ўжо адыйшло,
          хутка восень міне,
Ды і сам на зіму я ад'еду.
Засумуе бацькоўская хата па мне
З цішынёй будзе
          весці бяседу.

Снег за вокнамі ткаць
          будзе бель-чысціню,
Я тугу тваю сэрцам адчую.
Я прыеду й зімой,'
          белы сум праганю
Грубку я распалю, заначую.

Я зімою і сам —
          целам там, сэрцам тут,
Ты ў душы маёй невыпадкова.
Я часова ад'еду,
          прабач, родны кут,
Я ад'еду,
          дай, Бог, каб часова.

## Як вы

Жыццё пражыў, амаль, як вы,
«Кастрычнікам» памазаны
І хоць на нешта меў правы
Ды больш быў абавязаны.

Правы меў на жыццё, як вы,
Як вы, па канстытуцыі.
Пакуль, як бачыце, жывы
Й жыццё не надакучыла.

На працу меў правы, як вы,
У сацгады багатыя.
Да пасівелай галавы
Ішачыў, пэўна, як і вы,
Рабіў амаль без платы я.

І скончыліся ўсе правы —
Бы сонца закацілася.
А у астатнім я, як вы,
Быў абавязаны, як вы,
Ды сёння ўсё змянілася.

## То ўверх, то ўніз

Душа чалавека —
бязмежнае мора,
Ў якое сцякаюць
прытокі падзей,
Прытокі святочнасці,
суму і гора —
Станоўчага — сола,
адмоўнага — хорам
Ад добрых людзей
і нядобрых людзей.

А гэта ж ліецца ў душу
і ліецца,
І перапаўняе
Душы берагі.
І здольна не ўсякае
вытрымаць сэрца,
І — рукі уверх,
то адзін, то другі.

О, каб гэта мора
лагодзіла з намі,
Дрымоціла ў штылі,
бы шкло на вадзе.
Дык не!
Вал эмоцый дзевяты, цунамі
Раскачваюць лёс
і не дзецца нідзе.

І б'юцца эмоцый
няспынныя хвалі

У наша штодзённе,
нясуць свой капрыз.
Шугае жыццё,
як шалёныя шалі —
То ўверх, то уніз,
то ўверх, то уніз.

І мы ад народзін
у шторме так званым,
І я з ім валтужуся,
колькі жыву.
Якім жа патрэбна быць
Загартаваным,
Каб не хістануцца,
каб быць на плаву.

## Ад народзінаў да...

Зваліўся дуб магутны,
          як падкошаны,
Не ад спякоты ўпаў
          і не ад сцюж.
Не, ён не састарэў,
          ён быў не зношаны,
Ды раптам ніц абрынуся.
Чаму ж?

Ляжаў ён,
Нібы воін абязжызнены,
Якому хтосьці
          стрэліў у спіну,
Хаця нядаўна —
          над усімі ўздвіжаны,
Глядзеў вартаўніком
Ўдалечыню.

Ляжаў ён абяздвіжаны,
Абпалены,
Трагічны ўвасабляючы
Спакой.
Якою сілай
          волат быў павалены?
Нядоляю якой?
Бядой якой?

Пікнікавала тут
          турыстаў зборышча,
Якое наязджала зноў
Праз час.

Ля дуба і раскладвалася
Вогнішча,
Раскладвалася шмат разоў,
Не раз.

І памятае час
яго народзіны,
І бачыць дзень
заўчаснай гарчыні.
Ён рос тут і мацнеў
Дзесяцігоддзямі
А вось людзьмі
быў знішчаны за дні.

## Будзь што будзе

Ўсё ў жыцці не будзе гладка,
Быццам на парадзе.
Нават першая аладка
Ў горле перасядзе.

Я пайду праз невядомасць
Там, дзе іншы блудзе,
Праз знямогу, непрытомнасць
Рушу — будзь што будзе.

І пакуль жыццё бязмежыць,
І яно ж — падмога,
Хоць няўпэўненасць бянтэжыць,
Вынік спраў ад нас залежыць,
Праўда — пасля Бога.

## **Фантазія на тэму...**

Што б я параіў чалавеку
Узяць *туды*, дзе ўсё няміла?
Сусветную бібліятэку
Я пажадаў бы ўзяць ў магілу.

Да крыўднага, з яе мы мала
І прачыталі, і спазналі.
То ўсё нам часу не хапала,
А калі й быў — мы гультавалі.

То забываліся ў згрызоце
На скарбніцу шматвекавую.
Вось там я, ў ціхай адзіноце,
Перачытаў бы ўсё ўжывую.

Якія гучныя імёны
Я б адкрываў сабе ў запале.
Яны і розных кніг трыльёны
Мне б там узнагародай сталі.

Мне гэта думка сэрца шчырыць
І ад яе нідзе не дзецца.
Адна праблема — дол пашырыць
Для гэтай мэты давядзецца.

## Жыццё нанова

Я дажываю век
          амаль што без астатку,
І раптам задае
Гасподзь пытанне мне:
— Ці хочаш ты пражыць
          сваё жыццё спачатку?..
Звычайна, ўсе ў адказ
          адпіхваюцца: — Не!

Маўляў, мы пражылі
          сваё жыццё у працы,
Адказна і сумленна,
          стваралі, што маглі.
Нам жыць нанова? Не!
Навошта паўтарацца?
Няхай бы нашы дзеці
          сваё так пражылі.

І я пражыў жыццё
          адказна і талкова,
І я аб «заўтра» дбаў,
          праз сілу кожны раз.
І ўсё такі жыццё
          хачу пражыць нанова
На вельмі шмат чаго
          хачу знайсці адказ.

І тым не менш раблю
          на іншае спасылкі,
Мне іншае баліць,
          душа гарчыць ад слёз —

Вярнуцца б мне ў той час
і выправіць памылкі
Якімі неяк мог
пагоршыць нечы лёс.

Якімі раніць мог
кагосьці незнарокам
Я выпраўлю свой грэх,
я іх перапрашу,
Бо многае і мне
вылазіць сёння бокам
Ад тых, хто шмат разоў
параніў мне душу.

А у астатнім я
ўсё б паўтарыў агулам,
Бо што ні гавары,
А быў цікавы баль.
Не, не вярнуцца мне
ў той час, што стаў мінулым,
Не выправіць сваіх
памылак мне, на жаль.

## Маці і дзіця

Пакуль я ў свеце ёсць,
пакуль жывы,
Без тлумачэння —
што і да чаго,
Зямля мая,
Ты маеш ўсе правы
Мяне караць,
як пасынка свайго.

Ў табе навечна
спяць мае бацькі,
Тут будзе усыпальніца й мая.
Я толькі па прапісцы гарадскі,
А у душы —
як ёсць вясковы я.

З табой я сэрцам,
думкамі, да слёз,
Мне без цябе,
хоць не жыві — павер.
Так склаўся мой
пасляваенны лёс,
Я ад яго залежу і цяпер.

Не міл мне тлумны горад
І не люб,
Хоць звязвае нас штосьці
шмат гадоў.
Мы з ім —
нібыта вымушаны шлюб,
Ў якім смыліць
Ўзаеманелюбоў.

Я хоць амаль
          усё жыццё пражыў
У горадзе —
          на тое шмат прычын,
Зямля мая,
          я літасць заслужыў,
Не пасынак я твой,
          а родны сын.

Я да цябе лячу
          у вольны час,
Ты снішся мне
          на працягу жыцця
Святое пачуццё яднае нас,
Як родных, кроўных —
Маці і дзіця.

## Завітвайце

Бадзяжніца, бяздомніца,
Ну й ноч, стварэнне гулкае —
То ў дзверы вецер ломіцца,
То дождж у шыбы стукае.

Чакаеш, хоць бы вецер сціх,
Сядзіш, нібы зняволены.
А колькі у дарозе тых,
Хто безгалоўем злоўлены.

Лютуе непагодзіна,
Каля дзвярэй зачыненых,
А колькі там жывёлінак
Бяздомных, некім кінутых.

Чарнее поўначы крыло,
Гудзе, ліе бязлітасці.
Я зараз запалю святло —
Бяздомнікі, завітвайце.

## Кожны час

Як свіння, ён носам рые,
Хоць падставы і няма:
— Мой ты Бог!
Які стары я!
Хутка, хутка ўжо зіма.

А калі узяў у рукі
Фотаздымак праз гады:
— Гляньце, дзеці!
Гляньце, ўнукі!
Я ж зусім тут малады!

Як тады глядзелі вочы
Сталасць ганьбячы маю?
Вось цяпер я, каля ночы,
На краі жыцця стаю.

А калі усё ж, нарэшце,
Час апошні надыйшоў,
Папрасіў ён, каб прынеслі
Фотаздымкі ўсіх часоў.

— Вось што, ўнукі,
Вось што, дзеці,
Ўсе гады цаніце вы.
Даражэй за ўсё на свеце.
Кожны год, пакуль жывы.

# Вечнасць

Мы прымаем, як бясспрэчнасць,
Што пасля зямнога шляху,
Чалавек ідзе у вечнасць,
Ў ноч, з-пад сонечнага даху.

Гэта так…
Але й не гэтак,
Шлях у вечнасць наш —
З народзін.
Немаўлятка й малалетак,
Ўсе туды, няма сакрэта —
Не адкруцімся ніводзін.

Ледзь пусцілі мы карэнне
У жыццё — й жыццё мінае.
Вечнасць нам дае імгненне
І навечна паглынае.

## Жывая паэзія

Глядзіць, бывае, хтосьці
  ў гэты свет.
І здзіўлена,
(Як гэта і бывае)
Адкрыць імкнецца
  для сябе «сакрэт» —
А дзе ж яна,
  паэзія жывая?

Як хочацца сказаць:
— Ты страціў шмат,
Паслухай салаўя,
  як ён спявае,
Душа святкуе
  ад яго рулад —
Ці ж гэта
Не паэзія жывая?

А вунь бярозка —
  прыгажосць сама,
Ідзе насустрач,
  ветліва ківае.
Нічога ў свеце
  прыгажэй няма —
Ці ж гэта не паэзія жывая?

Ачніся сэрцам,
  ў неба погляд кінь,
Яно ў палёт нас вабіць,
Заклікае.

А ці ж не цуд
Загадкавая сінь?
Ці ж гэта не паэзія жывая?

Ёсць шмат чаго,
          што крыліць нас даўно…
А вунь дзяўчыну
          хлопец абдымае,
Два сэрцы
Аб'ядналіся ў адно —
Ці ж гэта
          не паэзія жывая?

Маленства, сталасць,
          старасць, маладосць —
Дарунак лёсу,
          існасць векавая.
Шмат цудаў у жыцці
          заўсёды ёсць,
Жыццё само —
          паэзія жывая.

## Магнітафонная стужка

Па магнітафоннай стужцы
Ў маладосць вярнуўся.
У мінулым, ў самай гушчы
Раптам апынуўся.

Паміж розных пустамеляў,
Жартаў запіса́ных,
Загуло маё вяселле,
Дзіўна, нечакана.

Таго часу цьмяняць зоркі —
Паўста год мінулі.
Сум салодкі, выдых горкі
Сэрца агарнулі.

Звон і «пах» сталоў накрытых
Стужка адраджала,
Галасы гасцей забытых,
Шмат якіх не стала.

Вось і мама зычыць шчасця
Нам — за ёй і тата.
І жадае, зноў жа шчасця,
Тост сястры і брата.

Голас жонкі, як анёла,
Голас мой — блазнючы…
Нас жыццё перамалола,
Лёс складаны, невясёлы,
Нас пераагучыў.

На магнітафоннай стужцы
Розных гукаў веча.
Чую — толькі год дачушцы
І яна шчабеча.

Чую песні пад гітару
Ў маім выкананні.
Мне і радасць, мне і кару
Дорыць час той ранні.

Тое, што са стужкі чутна,
Часам тым сагрэта.
Менш — прыемна,
Больш — пакутна,
Сэрцу чуці гэта.

## Сумны шлюб

*Быль*

Стаяў наўскраі лесу дуб
З бярозаю ў абдым.
Такі вось незвычайны шлюб —
Няхай жа шчасціць ім.

Над імі хуткі час мінаў,
Прад імі з траў дыван
Ён моцным голлем абдымаў
Яе бялёсы стан.

Жылося смела побач ім,
Жыццё — вялікі цуд.
О колькі вёснаў, колькі зім
Яны сустрэлі тут.

І падаваўся ім таму
З гадоў бясконцых свет.
Ён ёй шаптаў, яна яму,
Аб чым — для нас сакрэт.

Тут ім зайздросцілі усе,
Лес сталы й маладняк.
Ды, часам, час бяду нясе,
А ратавацца як?

Раўнулі на увесь абшар
І бура, й перуны —
Стыхіі прынялі удар
Пярвей за ўсіх яны.

Не утрымалі карані
Гаспадароў сваіх.
Жыццё ім адлічыла дні
Пароўну, на дваіх.

Яны і ўпалі, як раслі,
Бяроза й волат дуб.
Ляжалі побач на зямлі —
Такі вось сумны шлюб.

## Цёмна ў вачах

Бывае цёмна
У вачах ад гора,
Якое сэрцы раніць
Без разбору,
Якое душы
Без разбору раніць,
Якое сонечнасць жыцця
Туманіць.

Бывае цёмна
У вачах ад думак,
Якіх, адмоўных,
Што ні дзень —
То клунак,
Якіх балючых,
Што ні год, то болей,
Грызуць якія,
Не шкадуюць болю.

Бывае, у вачах
Ад сонца цёмна,
Якое дорыць нам святло
Нястомна.
Але ад сонца
Сэрцу не балюча,
Бо сонца з сэрцам
Б'юцца у сугуччы.

Вось так, бывае,
Й чалавек знаёмы —
Адзін сустрэне
І адорыць стомай,

А вось другі
Ў душы святло пакіне —
Прыемны ён
І лёгкі на ўспаміне.

Бывае, з некім
Не ідзе гаворка,
Пачуеш слова —
І на сэрцы горка.
Ды, дзякуй Богу,
Што другіх багата,
З другім размова,
Што ні тэма — свята.

## Спрэчкі

Мінуўшы
Старадаўнія гады,
Наш чалавек,
            пакінуўшы запечак,
Як рыбіна не можа
Без вады,
Не можа уявіць сябе
Без спрэчак.

Пустыя спрэчкі —
            колькі іх вакол,
Яны стамляюць,
            зводзяць час на смарку:
Аматары футболу —
            пра футбол,
А «алканаўты», як заўжды —
            пра чарку.

Адных узносяць,
            а другіх клянуць,
Хто ганьбіць,
            а хто хваліць перамены.
У кожнай спрэчцы
            секс не абмінуць,
У кожнай спрэчцы
            закрануць і цэны.

У кожнай спрэчцы —
            полымя і лёд,
Каса і камень,
            хрэн і рэдзька у роце.

А ўжо палітыка —
        для спрэчак мёд,
Тут, хлебам не кармі,
        тут — цырк на дроце.

Спрачаюцца,
Як кажуць, задарма,
Пра курс валют,
        пра золата каштоўнасць.
Ды мала спрэчак,
        іх амаль няма,
Пра вартасць кніг,
        пра нацыі духоўнасць.

## Сяннік

Маленства,
Галеча,
Ні крошкі у роце
Затое быў іншы
 у кожнага шык —
У горы
І пасляваеннай бядноце
Быў нашай пярынай
 звычайны сяннік.

Сушыліся травы
 ад першага ўкосу
І пхнуліся ў сшыты
 з тканіны матрац.
О колькі ў дзяцей
 было радасці, форсу
Ў той час, як укладвала
 мама нас спаць.

Ды сенам такім
 напіхалі й наўлечкі —
Ад пахаў духмяных
 заходзіўся нос.
З якой асалодай
 мы лезлі ў запечкі,
Нібыта у лузе
 на свежы пракос.

На ім шапацелі,
 як мышы ў запечку,
На «лузе» запечным
 качаліся мы.

Ды з часам
          сціралася сена у сечку,
Губляла свой пах,
          набывала камы.

Ды ну яе,
          нашу сучасную моду —
Вунь колькі прыдумак
          на нашым вяку.
Я й сёння б, як колісь,
          паспаў з асалодай
На траўнадухмяным,
          на тым сенніку.

## Сумны жарт

З чужых мазгоў
          мы пішам свой дыктант,
Мы п’ём і п’ём
          самападмана чашу.
Мы ў бессмяротнасць верым,
Але Кант
Сказаў, што ўсё смяротна,
Апроч часу.

І стала менш
          утульна на зямлі,
Бо хутка давядзецца
          скласці рукі,
Як тыя, хто
          сваё ўжо аджылі,
Без Кантавых
Страшылак і навукі.

Каму патрэбна
          твая праўда, Кант?
Я жыў больш-менш
Дагэтуль бесклапотна,
А колішні філосаф-дылетант
Пазбавіў нас
          надзеі ў бессмяротнасць.

## Паважаны ўзрост

Як будзённа гучыць гэта
Й проста
У жыцці, наўздагон чалавеку:
Чалавек паважанага ўзросту,
Чалавек паважанага веку.

Думка гэта
Заўжды азначала
Без прыдуманасці,
	без двухкосся,
Што пражыта гадоў —
Ой, не мала,
Значна болей,
	чым жыць засталося.

Але ўсё-такі,
	скажам між намі,
Як бы што ні гучала прыгожа,
Чалавек кожны
	толькі гадамі,
Паважаным лічыцца не можа.

Я скажу
Без запінкі-хвілінкі,
Калі, можа, не ведае хтосьці:
Паважацца павінны
Учынкі
І паводзіны ў кожным узросце.

Я дадам,
Каб развеяць сумненні,
Й светапогляд змяніць учарашні:

Паважацца павінны
Здзяйсненні,
Незалежна ад сталасці нашай.

Патлумачу,
Каб знікла туманнасць —
І ваганне з туманнасцю згіне:
Паважацца павінна
Адданасць
Роднай маці і маці-Радзіме.

Вось калі
Мы жыццё будзем поўніць
Творчай працай,
Без заклікаў шкодных,
Вось тады
Нас нашчадкі запомняць,
Як людзей
Паважаных і годных.

## Ручнік не кіну

Удар у грудзі,
У спіну,
І па душы не выпадкова.
З бакоў удары не міну —
І ўсё спачатку,
Ўсё нанова.

Не раз паказваў лёс ашчэр,
І ўсё-ткі у жыцці складаным,
Я зразумеў толькі цяпер,
Што значыць быць
У кут загнаным.

Затужваецца бед сіло,
І ўсё ж напрыканцы дарогі,
Як бы складана не было,
Усім абставінам назло,
Ручнік не кіну я пад ногі[1].

---

[1] У боксе кідаюць ручнік на рынг, калі датэрмінова прайграюць, здаюцца.

## Праверaныя догмы

Дзякуй вам, мае сумненні,
Зноў правераныя догмы.
Каб не вы,
Я б на калені
Ісціну паставіць мог бы.

Муліце вы,
Як нарывы,
Колкасцю сваёй суровай.
Колькі выправіць
Змаглі вы
Маёй праўды памылковай.

Заднім розумам асілак
Кожны —
Ёсць чым ганарыцца.
О, каб не было памылак,
Дык на чым
Было б вучыцца?

## Назаўсёды з намі

Тое, што здавалася
        калісьці важным
І амаль галоўным
        на той дзень,
Сёння — у мінулым,
        як вагон багажны,
У якім ўспамінаў драбядзень.

Сёння мэтаў,
Планаў неадкладных — мора,
Мы кіпім,
Нервуемся,
Гарым.
Сёння ж пераходзіць,
        як заўжды, ва ўчора,
Ўчора хутка робіцца старым.

Мы губляем штось,
        губляемся і самі
Сярод планаў,
        дзеянняў і слоў.
Толькі застаюцца
        назаўсёды з намі
Хлеб, Радзіма, Маці і Любоў.

# Хлеб

Я помню маму й
тых людзей,
Калі жылося —
не да тлушчу.
Хлеб прыціскалі
да грудзей,
Нажом адкройваючы лусту.

Мы сёння сытыя
і ўсё ж
У новы час
каменьчык кіну:
Хлеб рэжучы,
кладзём пад нож,
Як галаву пад гільяціну.

## Меню

На першае —
Нядолі воз,
А на другое —
Боль душы.
На трэцяе —
Гаркота слёз —
Еш, чалавеча,
Не тужы.

І хоць у стравах
Я гурман
Й скарынку хлебную
Цаню,
Не буду ўводзіць
Вас у зман,
Абрыдла гэтае
Меню.

# Неўраджай

Садзіў я бульбу пад рыдлёўку,
А некалі — з канём.
Цяпер каня й за сторублёўку
Не знойдзеш днём з агнём.

Мяняю пляц напераменку,
А вынік — вер не вер:
Садзіў насенку — і насенку
Выкапваю цяпер.

Ў няўдачах ні пры чым насенне,
Што я кладу ў раллю.
Няма каровак, і ўгнаенне
Не ўтлушчвае зямлю.

І ўсё ж жыву я не ў адчаі,
А з горам напалам.
Хто вінаваты ў неўраджаі —
Ці конь, ці гной, ці сам?

## Шчаслівага вяртання

Мы восенню
з трывогай і тугой
Глядзім на неба
ўсёй душою шчырай,
Дзе кожны дзень —
то клінам, то дугой
Галосна адлятаюць
птушкі ў вырай.

І кожны год
ляцяць у белы свет,
І чарада за чарадою тае.
І за птушыным плачам
сумна ўслед,
Часцінка нашых душаў
Адлятае.

Як цяжка пакідаць
свой родны край,
Хоць неба
халадзее тут і стыне.
Там цёпла будзе,
там птушыны рай,
Ды холадна
іх сэрцам на чужбіне.

І адлятаюць птушкі
з году ў год
Мы іх праводзім
з мокрымі вачыма.

Зімой нам будзе сніцца
іх адлёт,
Вясною будзе
іх чакаць Радзіма.

І ўжо пасля
Пастылае зімы,
Між справамі,
ад вечара да рання,
Штодзённа зноў
глядзім у неба мы,
Чакаем іх шчаслівага вяртання.

Ўзаемаповязь атуляе нас —
Прыроды вечны свет
І чалавечы.
І, як узнагароду,
дорыць час
Пасля разлук
жаданыя сустрэчы.

# Заклік

Гэй ты, крытык!
Стой за праўду,
Па-сапраўднаму судзі!
Кінь ты аўтара пасаду,
Ты на твор яго глядзі.

На пасадзе
Й графаманы
Ўсе «таленавітыя».
Будзь жа творчасці адданы,
Апраўдай свой лёс складаны
Крытыкай адкрытаю.

## Згубіўся

Паціху вечарэла,
Рабілася наўколле
Спачатку чорна-белым,
А вось і ноч-вуголле.

Нічога і нікога
Не ўбачыць, хоць кладзіся.
Згубілася дарога,
Ды я і сам згубіўся.

І вось яна надзея!
Гукнуў, ды ночы сажа
Маўчыць.
Гукнуў яшчэ я,
Мне рэха і адкажа.

Няўжо ўсю ноч гукацца?
Як выйсці з цемры меха?
Няма ў каго спытацца,
Хіба што, ў свайго рэха.

## Толькі не спыніся!

Я сябе,
Як пугаю каня,
(Хаця той і так імкнецца ў высі)
Штохвілінна думкаю,
Штодня,
Падганяю: — «Толькі не спыніся!

Толькі не сцішай
        свой бег-алюр,
Час чакаць не будзе,
        ён імчыцца.
Я баюся —
        кожны перакур
Можа ў кропку
Пераўтварыцца».

Я́ ганю каня?
Альбо мяне
Ўперад падганяюць
        думкі-коні?
Час паўз нас імчыць,
Жыццё міне,
І яго, прыстаўшы,
        не дагоніш.

Я, між незавершанасці спраў,
Шкадаваць сябе
        не маю права.
Тое, што ў душу
        мне Бог уклаў,
Жыць павінна,
        творчасць — не забава.

Ў тлуме будняў
        творчасці прамень
Не дае запанаваць
Адчаю.
У жыцці,
Свой кожны міг і дзень,
Ў творчасці
        жыццю і прысвячаю.

Хоць паветра —
Менш і менш для крыл,
Час няўмольна
        перашкоды чыніць.
І хоць сілы —
        на зыходзе сіл,
Рух наперад
        толькі смерць і спыніць.

## Надзейны сродак

Я адзін, у хаце ціха,
Ноч, аконнай рамы крыж.
За шпалерамі мышыха
Шапаціць, а, можа, мыш?

Ёсць жа і ў мышэй «жанчыны»,
Як адвеку ёсць у нас.
Без ніякае прычыны
Я не сплю, хоць позні час.

Асабліва у бяссонне
Повязь з думкамі не рву.
І не выключэнне сёння —
Глупства лезе ў галаву.

Так ці не, а сон на смарку,
Ўпадабляюся саве.
А ці не кульнуць мне чарку?
Для надзейнасці і дзве.

## Двайнік

*Сон*

Імчаў я наўздагон,
Ускочыў на хаду.
Ды сеў не ў той вагон,
Прыпынак — і сыду.

Заблытаны клубок
Падзеяў і сустрэч.
І поезд не ў той бок
Аказваецца прэць.

Ў вагоне — мой двайнік,
Такіх не бачыў свет,
У форме праваднік,
Настырны, як цягнік,
Пытае: — Ваш білет?

— Які білет, чурбан?
Я ўскочыў на хаду.—
Схапіў я за стоп-кран
І ўляпаўся ў бяду.

Бо поезд знік ураз,
Як злодзей з крадзяжу.
А я, на гэты раз,
Ў міліцыі сяджу.

Складаюць пратакол,
І не стрымаў я крык,
Зірнуў — і брык пад стол,
Складае мой двайнік.

У званні капітан,
У форме МУС — ого!
Я зноў крычу: — Чурбан!
А ён схапіў наган
І да ілба майго.

Я зноў бы «сеў на мель»,
Не адкруціцца б мне,
Ды жонка ў бок — таўкель:
— Што ты крычыш у сне?

Прысніцца ж гэта муць,
Няўцям — што да чаго?
Баяўся зноў заснуць
І двайніка свайго.

## Рэальнасць няўхільная

Бачылі луг,
 да карэньчыкаў скошаны,
Спалены потым
 засушлівым летам?
Прыкладна так,
 я душой апустошаны
Разам з бязмежным
 унутраным светам.

Нешта балючае,
 штосьці драпежнае
Грудзі сціскае —
 і мала паветра.
Чорнае штось,
 ад мяне незалежнае
Цягне ў сябе,
 як пякельныя нетры.

Коціць у вочы
 рэальнасць няўхільная,
Вянуць галінкі,
 бо сохне карэнне.
Чуецца пах
 благавоння кадзільнага
І далятае царкоўнае пенне.

## Прыпевак пераклічка

Суботні вечар,
Як жыцця разынка —
Была заўсёды
Ў вёсках вечарынка.
Ліліся з вокнаў спевы,
Як вадзічка,
Альбо прыпевак-жартаў
Пераклічка.

*хлопцы*

Дзяўчатачкі,
Сыраежачкі,
Засалілі б мы вас,
Ды няма дзежачкі.

*дзяўчаты*

Ой, хлопцы вы,
Усе фарсістыя,
Затое мы
Ўсе галасістыя.

*хлопцы*

Спяваць вы ўсе
Спраўна ўмееце.
А што ж вы так
За намі млееце?

*дзяўчаты*

У будучым
Мы вашы жоначкі,

Без нас вы, як
Без самагоначкі.

*хлопцы*

Прыміце ўсё ж
Прызнанне шчырае —
Без вас было б
Жыццё нямілае.

*дзяўчаты*

Ні танчылі б,
Ні пелі б мы,
І мы без вас
Не расквітнелі бы…

Я гэта чуў не раз,
Бо быў музыкам,
І спевамі была душа сагрэта.
Такое не пачуці
І ў Вялікім
Тэатры нашым
Оперы й балета.

## (Ня) – назаўсёды

Ёсць доля —
Пера́каці-поле.
Камусьці —
Жывецца іначай,
Іх доля, як камень ляжачы.
У нечых кішэнях —
Зацішша,
Камусьці —
Дзяцей чорт калыша.
А хтось —
Як бярозка у полі,
Пад бурай жыццёваю
Гнецца,
Каб выжыць —
З апошняга пнецца,
Ды так —
Пазайздросціш нядолі,
Каб нас
У жыцці выбіралі
(Ня) ўдачы,
(Ня) шчасце,
(Ня) годы,
Мы іх бы агулам паклалі
Й нядолю і долю на шалі,
Адкінуўшы (ня) — назаўсёды.

## Зайздрошчу Рабінзону

На скрыжаванні віцязь
Меў выбар накірунку.
А я на схіле жы́цця
Не маю паратунку.

На ўсе бакі дарогі,
І ўсе твае, здаецца.
Але вакол нікога,
Ані жывога сэрца.

Святое правасуддзе!
Што там, крыжы ці рукі,
Ці міражы, ці людзі,
Ці прывідныя глюкі?

Грызе туга-брыдота,
То ўпотай, то з разгону…
Такая адзінота —
Зайздрошчу Рабінзону.

## Круглы год

Мы прывыклі —
Для вяселляў
Восень — самая пара.
П’ецца ўсмак кахання зелле
І зімою на «ура».

Ды і летам
Ладзяць шлюбы —
Сустракайце маладых!
Была б любая і любы
І каханне ў сэрцах іх.

А вясною для каханых
Салавейка цёх ды цёх.
Шлюб вясною для абраных,
На якім за сведку Бог.

## Як і астатні свет

Пасля сямнаццатага года,
Які быў сто гадоў таму,
Нялёгкі лёс быў у народа —
Як нам не спачуваць яму?

Не будзем варушыць гісторыю,
Мы сведкі перамог і бед.
Мы іншымі ўжо катэгорыямі
Жывём, як і астатні свет.

Малыя пенсіі? Пабольшаюць!
Заробак нізкі? Падрасце!
Дзялкі і цэны аблапошваюць?
Не доўга быць ім на куце.

Жыццё па-іншаму ацэнена,
І грошы нам — не камандзір.
Жывём стабільна і упэўнена,
Над намі і спакой, і мір.

І раптам выбухнулі медыя,
Нібы агнём Гарыныч Змей:
Нацыянальная трагедыя —
Мы прайгралі у хакей!

## Пакуты і свята

Лета — мая аддушына,
Дні для мяне, як святы.
Летам душу загушквае
Святасць бацькоўскай хаты.

Летам — нібыта з выраю
У вёску маё вяртанне,
У Карпілаўку мілую,
Жыць без якой каранне.

Тут я душу распутваю,
Горада тут не чую.
Тут я душой пакутую,
Тут я душой святкую.

## Мы ці яны?

Чым больш я спазнаю людзей,
тым больш хачу жыць толькі
сярод братоў нашых меншых.

З людзьмі цяжка ладзіць,
Да многіх — сцяна.
Сабака, чым здрадзіць,
Загіне яна.

Міне перашкоды —
Праз буры, агонь,
Надзейна, заўсёды
Нас вынесе конь.

Кароўкі нам служаць
Аддана, заўжды.
Без іх не адужаць
Стагоддзяў гады.

Сабе боль наш прыме
Ласкавы каток.
Настрой нам уздыме
Яго біяток.

І не разабрацца
З сівой даўніны —
Хто меншыя брацця,
Ці мы, ці яны?

## Складана пець хвалу

Бог, мудрасцей палата!
Спытацца мне ў каго —
Нашто забраў ты брата,
Апошняга майго?

Ці ж ён у чым свалачыў
На працягу́ жыцця?
Ці ж ты аслеп, не бачыў,
Што ён душой — дзіця?

Жыццё з капейкі ладзіў,
Не прасыхаў ад спраў,
Нікога не абразіў,
Нічога не украў.

Усяк яму жылося,
(Ты, Бог, праспаў, відаць)
А колькі давялося
Яму пагаладаць.

Прыветлівы, на дзіва,
Між жорсткасцей падзей
Ён жыў дабразычліва
Да ўсіх!
Да ўсіх людзей.

Піў з творчае крыніцы,
Каб сэрца наталіць.
Жыццю бы павучыцца
У яго сумленна жыць.

Ў сям'і ён самы першы
Духоўнасць гадаваў —
Ўзносіў іншых вершы
І ўжо свае складаў.

Такі разбег жыццёвы…
І ты спрыяў яму.
Ды твой прысуд суровы
Спыніў яго. Чаму?

Спыніў яго зарана
Ты, саступіўшы злу.
Мне, Бог, цяпер складана
Спяваць табе хвалу.

## Бывай...

Бывай, мой родны брат,
з табой ужо ніколі
Не ладзіць ні сустрэч вясёлых,
Ні сталоў.
Да мамы ты пайшоў,
да таты, Міці, Колі,
Праз мукі, боль,
праз «не хачу» пайшоў.

Бывай, мой брат Кастусь,
ты быў мне больш, чым братам,
Не мог я адхіліць
хваробу, Кастусёк.
Я гнуся, нібы той,
адзін на полі зжатым,
Пакінуты гібець
увосень каласок.

Мы па жыцці ва ўсім
былі адзінаверцы,
Прад тым, што адгуло,
схіляю галаву.
Ты не памёр, мой брат,
жывеш у маім сэрцы,
Ты будзеш жыць, Кастусь,
у ім, пакуль жыву.

## Ў канцы жыцця

Ў канцы жыцця
                    жыццё тугой імжыць,
Жывеш —
І ні на што не спадзяешся.
Ў канцы жыцця
                    вучыцца трэба жыць
Без сэрца,
                    бо ад болю захлынешся.

Калі жыццё ўсё
                    на жыцці ляжыць,
Не дапаможа жыць
                    і свя́ты Ойча.
Ў канцы жыцця
                    вучыцца трэба жыць
Без памяці,
                    інакш яна прыкончa.

Жыць неабходна —
Што тут варажыць!
Заўсёды будзе з намі
                    памяць сэрца.
Ў канцы жыцця
                    вучыцца трэба жыць,
Хоць толькі дзень адзін
І застаецца.

## Трэба ў снах лятаць

Звацца сокалам —
Мала птушкай быць,
Мала крылы мець,
У паветры жыць.
За аблокамі
Сокал неба п’е.
Званне сокала
Вышыня дае.

Каб паэтам быць,
Мала скласці штось
Й заміловацца
Рыфмай гучнаю.
Калі ў сэрцы верш
Не жыхар,
А госць
І паэзія будзе штучнаю.

Каб паэтам стаць,
Трэба ў снах лятаць,
Сэрцам свет абняць.
Каб паэтам стаць,
Трэба ў творчасці
Мець сцязю сваю —
Не сябе любіць,
А паэзію.

## На вёслах

Хутчэй хацеў я стаць дарослым
Ў малечыя гады.
Не ведаў,
Што сядзяць на вёслах
Імклівыя гады.

І што яны імчаць па плыні
З кароткай назвай «час».
І вось маленства —
Ва ўспаміне,
Прайшла дарослацсць,
Хутка згіне
Маіх гадоў запас.

Я — не дарослы-перарослы,
У старасць я урос.
Эх, лепш бы сам я
Сеў за вёслы
У лодцы з назвай «лёс».

## Час жыцця майго

Том прачытаць — гэта не сшытак,
А восем?..
Час жыцця майго…
Прабач, чытач, не злуйся, крытык,
Я — летапісец — і ўсяго.

Я — засяроджаны аматар,
Саўдзельнік многіх спраў, падзей,
У большасці — я іх сааўтар,
Сучаснік лёсаў і людзей.

Падзеі роднае старонкі,
Ўсё, што перажывалі мы,
Ляглі у творы на старонкі,
Старонкі клаліся ў тамы.

Шукаў з прыродай раўнапраўя,
Яна — аркестр, я — струна.
Усё праз сэрца прапускаў я,
Што надыктоўвала яна.

Я быў жыццём і біт, і кручан,
Я быў яму, як першы блін.
Я — ёсць яго старанны вучань
І не заўжды любімы сын.

Ў пакутах, радасцях і горы
Зашмат дылем і тэарэм,
Таму у творах, праз паўторы
Вяртаўся да балючых тэм.

Ёсць тэма «мама», ёсць «каханне»,
«Маленства» ёсць, «Радзіма» ёсць.
Яны і вабяць да вяртання,
Іх глыбіня і прыгажосць.

Каб іх раскрыць, тамоў не хопіць,
Жыцця не хопіць на «Паўтор».
Яны ва ўсе часы шматкропяць,
Бо кропка — памяці дакор.

Чытач і аўтар паасобку
Не могуць праз вякі ісці.
Я і ў тамах не стаўлю кропку,
Не стаўлю кропку і ў жыцці

## Як душа жывая

Пазяхае хліпка
Ноч у цемры-цішы,
Месяц жоўтай зыбкай
Зорачку калыша.

Над ракою — кіпень
Вербаў кучаравых.
А на лузе ліпень
Блытаецца ў травах.

Па нябачных нотах
Хор цыкад спявае —
Нібы казка гэта.
Днём і ноччу лета,
Як душа жывая.

Прыйдзе ранак срэбны
Весела і тлумна.
А пакуль што цемра
Пазяхае сумна.

## «Смерць невінаватым»!

*Светлай памяці*
*роднага брата Косціка*

Хто наслаў такую смерць на брата,
Хай цябе такая ж не міне.
Ў чым перад табой ён вінаваты?
Будзь ты, невядомы, тройчы кляты!
І прымі нянанавісць ад мяне.

Хто б ні быў ты —
Бог ці д’ябал люты,
«Смерць невінаватым!» — ваш пароль.
Вам бы тыя, братавы пакуты,
І фізічны, і душэўны боль.

Ён з грахом не зведаўся —
Ні з водным,
Ён так жыў, яму бы жыць і жыць…
Дык няўжо,
Каб звацца богаўгодным
Трэба красці,
Злыднічаць,
Грашыць?..

## Душа паэта

*Светлай памяці*
*роднага брата Косціка*

Пакойся з мірам, родны брат,
Там цішыня — сястра паэта.
Але маёй душы набат
Гудзе, крычыць над цэлым светам.

І ўсё ж крычыць душа дарма,
Для ўсіх вакол — мой боль дарэмны.
Ёсць гэты свет — цябе ж няма,
Ёсць гэты свет — мая турма,
Ён без цябе такі нікчэмны.

Ах, як балюча жыць цяпер.
Няўжо жыццём завецца гэта?
Загрыз цябе бяды ашчэр,
Ды не тваю душу паэта.

А я адзін,
Зусім адзін,
Як той блукацель раздарожны.
Сярод стагоддзяў і хвілін —
Бязрадасны, бездапаможны.

Не будзе болей светлых дат
З табою радасна-агульных.
Пакойся з мірам, родны брат,
У душы маёй — табе утульна.

*22.10.2017*

## Вось і ўсё...

*На смерць роднай*
*сястры Яўгеніі*

Вось і ўсё...
З усёй сям'і вялікай
Я адзін застаўся на зямлі
Пасярод душы балючых крыкаў,
Ў сэрцы з тымі,
 хто ў нябыт сыйшлі.

Смерць сваім
Ганебным, чорным святам
Крыкнула чарговы раз «ура!»
З яе ласкі,
След за родным братам,
Назаўжды пайшла
 з жыцця сястра.

Вось і ўсё...

*22 кастрычніка 2017 г.*
*памёр родны брат Косцік,*
*3 лістапада — сястра Яўгеня*

## Пісьмо ў мінулае

Днём непакоіць,
  будзіць сярод ночы,
Ці звон на веча,
  ці жалобны звон.
Адразу ж бачу,
  ледзь заплюшчу вочы,
З жыцця пайшоўшых,
  цэлы пантэон.

Абклаў душу
  сум успамінаў шчыльны
Трагедый, горкіх страт
  дзевяты вал.
Не ў радасць нават
  тэлефон мабільны,
Яго нервовы,
  нежывы сігнал.

Сучаснасць нас
  не гладзіць па галоўцы,
Сабе мы можам
  толькі спачуваць,
Мабільнік —
  нецікавы суразмоўца,
Ды і каму мне тэлефанаваць?

А вось было!..
Без вестачкі — ні кроку,
Яны для душ —
  надзейныя масты,
Прыходзілі —
  і зблізку, і здалёку,

Хвалюючыя,
Важныя лісты.

Канверт адкрыеш —
          і глытаеш словы,
Якія, як нішто,
          зближалі нас.
Чытаеш,
Перачытваеш нанова —
І — хуценька за стол,
          пісаць адказ.

О колькі ў гэтых
          пісьмах таямніцы
Схавана,
Асабліва між радкоў.
Чытаеш —
І не можаш надзівіцца
З такіх звычайных
          і чароўных слоў.

Паслаць бы мне пісьмо
          камусьці сёння…
Але каму?
Не прагучыць адказ,
Бо часу ненажэрнага
Бяздонне
Глынула родных,
          разлучыла нас.

*

Не праўда!
Час нам душы не ўрачуе.
Паверце
Жыццявопыту майму.
А што, калі пісьмо сваё
          пашлю я
Ў мінулае?
Там ёсць чытаць каму.

Мінулага так шмат…
У ім я.
Дзе я?
Там столькі лёсаў,
Год,
Падзей
І дат.
З каго пачаць?
З чаго?
З якой падзеі?
Застыў я, азірнуўшыся назад.

Я з мамаю
          дзялюся успамінам:
Я быў табе апорай,
          бачыць Бог,
Любіў цябе я,
Неблагім быў сынам,
І ўсё-ткі горшым быў,
          чым быць я мог.

Я значна б мог
          табе аблегчыць працу,
І шмат дапамагаў
          ў свае гады.


Вы у маім жыцці,
ў душы заўсёды
Я з мамаю дзялюся успамінамі
Я быў табе апорай, б:
Я да цябе хачу звярнуцца тата.
Касіў з табой я.
І Косціка.
Мне не хапае брата
і ўсіх братоў і родных...

Ды больш любіў
з ружжом штодня цягацца
І лынды біў
ў вольны час тады.

Я да цябе
хачу звярнуцца, тата,
Хістаўся ты ад працы
й розных спраў.
Я быў блазнюк,
не памагаў я надта,
І ўсё ж касіў з табой,
сяк-так араў.

І для зімы мы
гатавалі дровы,
Калолі
І смалілі парсючка.
Таму твае
не дакаралі словы
Ніколі
Твайго сына-блазнюка.

Даруйце мне,
у чым я вінаваты,
Я ўсё, што з вамі звязана,
Збярог…
Я штось рабіў тады
для мамы й таты,
Наколькі сіл і розуму
даў Бог.

*

Сяджу цяпер
          над іншымі лістамі,
Пішу для тых,
          хто мне вярэдзіць сны.
Не абміну ў пісьме
          сястру з братамі,
Як і бацькі,
          мне родныя яны.

Што вам сказаць?
Ні вы, ні я — ніводзін
Жыць не маглі
          адно без аднаго.
Мы звязаны
Адной крывёй з народзін,
Мы — свет адзін,
          мы — кропелькі яго.

Вы ўсе ў мінулым
          назаўжды патоплі,
І дзякуючы,
Што й не я у ім,
Цяпер ўва мне,
          ў апошняй нашай кроплі,
Праз успамін
          ўваскроснуць можна ўсім.

Дык будзем жа цяпер,
          як колісь, разам,
Бацькі, браты, сястра —
          усе ўва мне!

Такога ўжо не будзе
          іншым разам,
Калі й мяне
          мінулае глыне.

Збіраліся мы шумна,
          ўсім на зайздрасць —
І працаваць мы,
          й спяваць маглі.
Паўторым
          нашу колішнюю радасць,
Яе так не хапае
На Зямлі.

Пішу пісьмо,
          пішу другое, трэцце,
І так карціць пісаць
          пяру майму,
Ў мінулае,
          якое на тым свеце,
Пісаць мне трэба
          вельмі шмат каму.

І сваякам, й сябрам,
          знаёмым людзям,
Усім, з кім быў
          «знамо і незнамо».
Мы хутка,
Вельмі хутка разам будзем…
Хто мне прышле
          ў мінулае пісьмо?

## Вяселле

Дзіўны свет наш Боскі —
Свя́ты і прыгоды.
На вяселлі вёскі
Шчодрыя заўсёды.

Дзе жыве каханне,
Шлюбаў там багата.
Вось і красцы Ганне
Бог паслаў Ігната.

Хлопец ён вядомы,
З адной вёскі, свойскі.
Ды павестка, з дому
Запрасіла ў войска.

Слёз было нямала,
Провады — не свята.
Ганна абяцала
Прычакаць Ігната.

А Ігнат храбрыўся
Толькі хмурыў бровы.
Ганне ён бажыўся
Ў вечнае любові.

*

Дні ішлі і тыдні,
Час з нудой хаўрусіць.
Вось і плёткі-злыдны
Свайго не упусцяць.

Слаў лісты ён спраўна,
А затым з прабелам.
Пляткарам цікаўна —
Ці не схаладзеў ён?

Распускалі слыхі
(Верце ці не верце),
Што ў балоце ціхім
Завяліся чэрці.

І папоўз між хатаў
Слых неспадзяваны,
Што Ігнат ў салдатах
Верне нос ад Ганны.

Ганне ўжо залішне
Не даюць прадыху —
Што? Маўчыць? Не піша?
Ні духу, ні слыху?

І ад роднай маці
Гэткая ж «падмога» —
Не сядзі ты ў хаце,
Ды найдзі другога.

Тут яшчэ ў дадатак,
Як на тое ліха,
Пачала у хату
Лезці Базыліха.

Што ні дзень — прыкрочыць,
Што ж, была прычына —
Лезла Ганне ў вочы,
Каб усватаць сына.

Быў Захар някідкі,
Як быльнёг між жыта.
Ён лістаў, як сшыткі
Ў Ганнін дом візіты.

Нібы госць нязваны,
Ды не без надзёгі,
Распачаў у Ганны
Абіваць парогі.

З ім, нібы наседка,
Й Базыліха ў хаце.
— Трэба вам, суседка,
Залатога зяця.

У цябе ж дачушка,
Ганначка, як ружа.
Ёй вось Бог прыгушкаў
Залатога мужа.

Мой Захар — багаты,
Ён надзейны, просты.
Гэта ж там, салдаты,
Хлопцы-вярціхвосты.

І Захар лье вязка
Ў вушы словы-мёды:
— Мне ж для вас не цяжка…
Я ж для вас заўсёды…

*

Маці кажа слушна,
Хоць і неўспадзеўкі:
— Ты ж глядзі, дачушка,
Не закісьні ў дзеўках.

Вернецца ён з войска,
Ці адчыне дзверы?
Лёс дзявочы коўзкі,
Хлопцам мала веры.

Кажуць, лішні трэці,
Каб не стала гэтак.
Дзевак шмат у свеце,
Як у полі кветак.

Возьме й не прыедзе,
Хоць спярша маніўся.
Хто ж там знае — недзе
Можа й прыжаніўся.

Мо й не раз там запар,
Ты ж тут сохнеш, вянеш.
А душа, не пашпарт,
Ў яе не заглянеш.

Ганна уздыхае,
Ўсмешкай квеціць губы:
— Ён мяне кахае
Й майму сэрцу любы.

Маці кажа Ганне:
— Абы што гутарыш.

Ты сваё каханне
Ў сагане не зварыш.

Гэта не багацце —
Каля боку любы,
Калі пуста ў хаце,
На паліцу зубы.

Кажуць жа ў народзе,
З'еўшы процьму солі,
Што каханне пройдзе,
Голад жа ніколі.

— Мамачка, прыпомні,
Ты ж сама кахала.
— Маці мяне мала
Дзягай лупцавала.

Лупцавала б болей,
Не з тваім я татам
Да заможнай долі
Рушыла б з багатым.

Ой, глядзі, паплачаш
З гэным небаракам.
Ад кахання ўбачыш
Толькі кукіш з макам.

Уздыхнула Ганна:
— А што кажа тата?
Можа ты зарана
Зганьбіла Ігната?

Маці не здаецца:
— Ён табе не пара!
Перакручвай сэрца
Лепей да Захара.

У яго й карова,
У яго і свінні.
Што яшчэ другога
Трэба гаспадыне?

Паўтаруся, дзітка,
Лёс дзявочы коўзкі.
— Мамачка, ён брыдкі,
Як той пан Быкоўскі.

— Што ты, Ганна, скачаш?
Пабаіся Бога.
Ты глядзі, бо страціш
Гэтага і тога.

*

Слізкі, зухаваты,
Нялюбы дзяўчыне,
Шусь, Захар у хату —
Лёгкі на паміне.

Ён — да маці Ганны,
Цмок руку кабеце
— Самы ўсхваляваны
Я на гэтым свеце.

У мяне ж карова,
Чулі? Прадацельна.

Я жыву талкова
З думкай аб вяселлі.

Я не ладжу гулі
Дня не палайдачыў…
Ой, прабач, ГануляГануля,
Я ж цябе не ўбачыў.

У руку, як маці,
Ён і Ганну цмокнуў.
— Вы ж тут будзьце у хаце,
У царкву я скокну.

Ажаніцца можна
Нават без кахання.
А вось жыць бязбожна
Будзем без вянчання.

Ляснуў ён дзвярамі
Й знік неспадзявана.
З мокрымі вачамі
Засталася Ганна.

— Ну, што, мама, скажаш
Ў яго абарону?
Хочаш, каб пайшла я
За яго з разгону?

— Як, дачушка, мне тут
Разгадаць сакрэты?
Хто іх разбярэ тут,
Гэтых прайдзісветаў.

Гэны, дзесь далёка —
Ні ліста з намёкам.
Гэты хоць пад бокам,
Тут, навідавоку.

Што табе надзея,
Ды кахання чара?
Раіла б табе я
Гэтага Захара.

Розум, Ганна, ззадзі,
Як хвост у кабылы.
Я скажу папраўдзе —
Ён і мне нямілы.

*

Думкі ужо зрання
Ў Ганне ўсе абмёрлі.
Для яе вянчанне,
Нібы костка ў горле.

Ад нуды аблогі
Уцякла бы ў вырай
Трэба ж перад Богам
Быць праўдзіва-шчырай.

Як ёй думку-згубу
Утаіць ад Бога,
Што ідзе да шлюбу
З жаніхом нялюбым?

Тут святар Захара
Спытаў прынародна:

— Ганну ўзяць за па́ру,
Узяць за жонку згодны?

Той ажно падскочыў
Не стрымаў паводзін.
Святару у вочы
Крыкнуў: — Згодзен! Згодзен!

— Ну, а ты што, Ганна,
Пахмурнела дужа?
Гэтага вось пана
Згодна ўзяць за мужа?..

Цяжка Ганне-красцы,
Што ж яна рашыла?
Не, схаваць не ўдасца
У мяху ёй шыла.

Не, свае пачуцці
Ганна не падмане.
З не́любам ў пакуце
Жыць яна не стане.

Зноў святар кіруе
Да яе увагу,
Быццам бы лупцуе
Ёй па сэрцы дзягай.

Як твае намеры?
Што маўчыш халодна?
Хтосьці зычна ў дзверы
Крыкнуў — Не, не згодна!

Ўсе аслупянелі,
Глянулі — нікога!
Хто ж перад вяселлем
Баламуціць Бога?

І святар пытае:
— Хто сказаў «не згодна»?
— Я — душа святая,
Голас Богаўгодны.

Просіць поп: — Не трэба
Тут разводзіць жарты.
— Ўсё я бачу з неба,
Ён яе не варты!

Да Ігната ў Ганны
Сэрца прыкіпела.
Ён яе абраны —
Заяўляю смела.

Ціха, благачынна
Зноў святар пытае:
— Ганна, адкажы нам,
Хто каго кахае?

Ты, як маладзіца,
Растлумач нам тонка —
Згодная зрабіцца
Ты чыёю жонкай?

— Чулі ж,— Ганна кажа,—
Голас Богаўгодны?
Ён, Ігнат-прапажа,
Любы мне і родны.

Ойца! Выручайце —
Свята й паўнамоцна
Сёння ж абвянчайце
З ім мяне завочна.

— Не! Завочна нельга! —
Крыкнуў голас зычны.—
Будзем на вяселлі
Мы ў сваім аблiччы.

Раптам з-за заслоны
Выйшаў статны хлопец,
Ў форме, пры пагонах —
Сам Ігнат-вайсковец.

— Я прашу прабачыць
Жарт мой, веры шкодны
Голас мой нябачны,
Голас Богаўгодны.

Мой прабачце опус,
Грахоўныя словы.
Я прыбыў у вотпуск
Хуткатэрміновы.

Вы, святар пашанны,
Моцна не карайце.
Лепш мяне вы з Ганнай
Зараз абвянчайце.

Пасля заканчэння,
Як міне малельня,
Ўсіх, без выключэння
Просім на вяселле.

Будзе там і чарка,
Будзе там і скварка.
Просім, калі ласка,
І цябе, Захарка.

*

Адгуло вяселле,
Адслужыў Ігнаце.
Хата — не пустэльня,
Шмат дзяцей у хаце.

Час не скаламуціў
Лёс сям’і праз чуткі —
Ў сэрцах шмат пачуццяў
І саган паўнюткі.

## Адвечны лёс

Час спраўляе свой баль,
Лад мяняе і нас.
І у вёскі, на жаль,
Завітаў новы час —

Незапрошаны госць,
Нібы той знак бяды.
Калі новае штось —
Лепшае не заўжды.

Вёскі стогнуць, хоць плач,
Без ніякай віны.
І пад націскам дач
Адступаюць яны.

Свой бяздушны ўжо лад
Між платоў, сцежак, меж.
І растуць паміж хат
За катэджам катэдж.

Што ж благога у тым,
Што ёсць гмахі-дамы?
Ды ў катэджы «крутым»,
«Я» вышэй за ўсе «мы».

*

У вёсках моладзі
            няма амаль,
Адвечны лад жыцця
            пайшоў наўскос.

Ўсё той жа час няспынны,
зноў, на жаль,
Абезмалодзіў
Нашых вёсак лёс.

Сум змардаваны
каля хат брыдзе,
Паміж платоў
пахіленых, старых.
І ўсё-ткі засталіся,
Дзе-нідзе,
Дзяўчаты, хлопцы,
хоць і мала іх.

Вось і ў маленькай
вёсцы Слабада,
Праблемы гэтай
час не абмінуў.
Час вымыў моладзь,
як пясок вада,
Але дзяўчыну
захаваў адну.

Яна не памяняла
родны кут
На абяцанкі
гарадскіх уцех.
Ёй пасля школы
значна лепей тут,
Сярод палёў,
Лясоў,
Платоў,
Застрэх.

Каля бацькоў,
на сцежках светлых мар,
Дзе родны сэрцу
кожны далягляд,
Дзе поўніць свет душы,
душы абшар,
Вясковага жыцця
адвечны лад.

Юнацтва тут яе,
яе вясна,
Тут
Лепшыя гады яе прайшлі,
І адчувае тут
сябе яна
Часцінкай гэтай
продкавай зямлі.

Ішлі,
Жыццём напоўненыя дні,
За што й падзяка
часу-кавалю.
Штогод
Пускала Ганна карані
Усё глыбей
у гэтую зямлю.

*

Ніхто не хоча жыць,
Каб жыць абы,
Ўсе рупяцца —
хто ўкраў, хто з мазаля.
Катэджы вырасталі,
як грыбы

І ў Слабадзе,
яны відаць здаля.

Катэдж ля хат —
сучасны антыпод,
Ён вёсцы —
ні прыяцель, ні радня.
А хаты ля яго —
Наадварот:
Утульнасць,
Натуральнасць,
Цеплыня.

І людзі ў іх,
як кажуць, розны сорт —
Аднолькавых
Ніколі не было.
Ў катэджах хто —
не разбярэ сам чорт,
У хатах — шчырасць
і душы святло.

Далей чытайце,
суніміце злосць,
Мы ісціну
раскінем напалам.
Адзначым шчыра —
выключэнні ёсць
У вёсках і катэджах,
Там і там.

Дык вось —
У гэтай вёсцы Слабадзе,
Катэджнікі папаліся,

Бадай,
Культурныя, на дзіва,
як нідзе,
Хоць іх бяры,
да раны прыкладай.

Вітаюцца,
Пытаюць пра жыццё,
Усмешка не зыходзіць
з вуснаў іх,
Хаця, магчыма,
за душой асцё,
Ды душы нашы —
прыцемкі ва ўсіх.

У іх быў сын Алег —
сам, хоць куды,
Смяяліся —
Пярэйдзе мора ўброд.
Ён, як і Ганна,
вельмі малады,
Ім усяго —
па васямнаццаць год.

Узрост — ў якім і святы,
й шмат таго,
Што у душы
сіло спакус віе:
Спакус і небяспекаў —
Для яго,
Спакус і небяспекаў —
Для яе.

Алег таксама
          пасля школы быў,
Такіх ваенкамат не абміне,
Бо ўвосень меўся
          ў войска быць прызыў —
Лагодзіў бацька,
          бо і сам служыў:
— Хай лета перад гэтым адпачне.

Знаёмства іх —
          без нейкіх там інтрыг:
— Я — Ганна:
— Я — Алег.
— Пакуль!
— Бывай!
І ўсё-ткі іскра
          ўспыхнула між іх,
Яна была —
Хавай ці не хавай.

Не мог ён не заўважыць
Гэты цуд,
Дзяўчыну-краску,
          ў вачах вясна.
Заўважыць лёгка,
          асабліва тут,
Яна тут, быццам,
          на зямлі адна.

У горадзе —
Сябры,
Дзяўчаты,
Тлум,
Усё калейдаскопіць
          паўз вачэй.

Землянин дни,
Живя под солнцем,
Но душой в тени,
К своим делам
Теряя интерес,
И жизнь сама
Утрачивала вес.
В календаре
Не видно чистых мест,
На прожитые дни
Он ставил крест
И с дрожью в теле
Вспоминал о том,
Что с каждым новым
Прожитым «крестом»,
Всё меньше дней
Имеет на счету,
Что он всё ближе
К главному кресту.
И сделке той с Творцом
Он не был рад
Ведь жизнь из жизни
Превратилась в ад.
За то платил он
Страшною ценой,
И этот мир
Сменил на мир иной;
Похоронив
Надежды и мечты,
Не дожив
До намеченной черты…
С тех пор Творец,
Оберегая нас,
Утаивает наш последний час.

## Фальш

Жизнь, фальшью нами созданной
Полна,
В ней мысли,
Как букеты из крапивы
Природа натуральна —
Лишь она!
А люди?
В большинстве своем —
Фальшивы.

И я фальшивлю,
Есть за мною грех,
Сказав, что всех люблю…
Мечта поэта!
Люблю людей,
Но далеко не всех —
Простите,
Нелюбимые, за это.

И я, возможно,
Кой кому не мил,
Живу, творю,
Не предаюсь отчаю.
Тех, кто меня
За что-то невзлюбил,
Прощаю вас, нелюбящих,
Прощаю.

Дела нас сводят
За одним столом,
Слова звучат
Подчеркнуто учтиво.

Ненатуральность
Нашей жизни в том,
Что льстим и улыбаемся
Фальшиво.

Ведь мы —
И нами же подтверждено,
Живём, во многом,
Противоречиво…
И золото —
Известно всем давно:
Искусственно оно —
Значит фальшиво.

То, что забыто нами:
«В корень зри» —
Для истины
Трагично и печально…
Сегодня
Лишь природа натуральна,
Но что природа?
Мы — ее цари.

## Ах, какие ночи были!

Ах, какие ночи были!
Тьму теснили прочь.
Мириады лунной пыли
Серебрили ночь.

А морозец!
Звонкий ухарь,
Скрытен, да удал —
То за щеки, то за уши
На ходу хватал.

Ночью я такой, бывало,
В хате спать не мог —
За ружьишко и вприпрыжку
Мчал скорей под стог.

Грыз мороз меня, страдальца,
Но мороз не в счет —
Вдруг какого-нибудь зайца
Сено привлечет.

Лунностью вокруг залито,
Словно молоком.
Зайчик не проскачет скрытно —
Видно далеко.

Весело смотрели зорьки,
Как «с последних ног»,
Заяц чуткий, заяц зоркий
Оббегал мой стог.

Уходил я, коченея,
Есть всему предел.
Заяц был меня умнее,
Да и жить хотел.

Шесть десятков лет крылатых
С той поры прошло.
Рад я очень, что когда-то
Мне не повезло.

Срок прошедший смыслом ёмок —
Умный заяц тот
Жил не зря — его потомок
В наши дни живет.

## Свобода и любовь

Свобода — не свобода,
когда не всем дана —
В семье,
В кругу ль международном.
И будет проклята она,
Заклеймена
Тем, кто рожден
и умер несвободным.

Один лишь несвободен был?
Один — какая малость!
И всё ж свободе минус —
она не состоялась.

А что любовь для нас?
Ей каждый был пленен,
Но не всегда взаимно
Чудо это.
И если б из людей
был лишь один влюблён,
Один — на миллион,
Любовь в веках
одним будет воспета.

Любовь — не поголовность,
а индивидуальность
В бессмертии любви —
ее же уникальность.

## Поспешаю

Почему я такой «торопыга»?
Нос расквашу — того и гляди.
Впереди —
Манит новая книга,
Темы новых картин —
Впереди.

Необъятное —
Не обниму я,
Неподъемное —
Не подниму.
Ну а то, что Господь мне дарует,
Я спешу воплотить посему.

Воплотить —
В бесконечность сюжетов,
И в волшебную образность слов.
Я всю жизнь без остатка на это
Без усталости тратить готов.

Тороплюсь!
Тороплюсь!
Поспешаю!
Дышит холодом царство теней.
Жизнь — большая, но…
Все ж не большая,
Если замыслов больше, чем дней.

## Голод

На столе изобилие
Каждый день на году.
Но с огромным усилием.
Я глотаю еду.

Жизнь моя к ночи клонится —
Размышлений пора.
Детских лет голод помнится,
Словно был он вчера.

Ел он нас, без усталости,
Годы после войны.
Он вгрызался без жалости
Даже в детские сны.

Нет, не всё перемолото
Временем навсегда.
Ощущение голода
Я несу сквозь года.

Детство богоугодное
Бог тогда обошел…
Эх, его бы, голодное,
За сегодняшний стол!

## Быстро и торжественно

Неужто в необъятном мироздании,
И мне витать
в котором суждено,
Кроме страданий —
новые страдания,
И кроме мрака в сердце,
Вновь темно?

Живем мы тем,
что каждому назначено:
Всё было у меня —
любовь, весна
И много солнца…
Нынче всё потрачено,
Смешалось с прошлым,
впереди стена.

Что всё проходит
быстро и торжественно —
Естественно всё это —
сеем — жнем.
Потеря близких —
противоестественна,
И мирозданье смотрит
в сердце бедственно,
Сегодня неестественен я в нем.

В делах я сам себе —
плохой поверенный,
Да и какие могут быть дела,
Когда ориентиры все
Потеряны
И жизнь, как дар бесценный,
Не мила?

## Ого!

Лес весь в золоте! Ого!
Манит красотой.
Где найти бы от него
Ключик золотой?

Я ищу, сбиваюсь с ног,
Ключика не видно.
Отыскать его б помог
Только Буратино.

Но сбывается мечта —
Ключик здесь не нужен.
В лес ведь дверь не заперта
Тем, кто с лесом дружен.

Потому вхожу в него,
В рощи и чащобы.
Сколько золота! Ого!
Самой высшей пробы!

## Не хватает

Говорил со мной он
Страстно, пылко,
Дружелюбно,
Хоть и невпопад.
Распрощались мы —
И я затылком
Ощутил
Его недобрый взгляд.

Что же сделал
Я ему такого?
Чем ему я насолил?
Когда?
Да и не одна
У нас дорога,
Вдаль нас манит
Не одна звезда.

Вот в чем дело!
Понял я отчасти —
Он о книге
Говорил своей,
Я ж прочесть ее
Имел несчастье,
И пред ним
Не восхищался ей.

Более того —
Себя виню я,
Если в правде
Кроется вина,

Я ему,
Подробности минуя,
Коротко сказал о ней:
— Скучна!

Тот, кто пишет
И других читает,
Не падет
От правды наповал…
Нам — и мне, конечно,
Не хватает
Дружеских и честных
«Непохвал».

## Любовник и муж

С делами и проблемами
Я дружен,
Которые
Судьбою мне даны.
К тому ж я стал
Любовником и мужем
У женщины одной —
Своей жены.

Казалось —
Похоть и святые чувства
Не совместить,
Как флегматизм и пыл.
Но проявил я гибкость
И искусство,
И их, несовместимых,
Совместил.

Ведь это просто —
Успокойся критик!
Не напрягай
Напрасно головы.
Я каждый день —
Кормитель и добытчик,
А каждой ночью…
Догадались вы?

Но, главное,
Что и жене по нраву
Быть днем женой,
Любовницей в ночи…

Идущий —
Да осилит переправу!
Чтобы открыли дверь —
Сильней стучи!

Немало тех —
Ни рыба и ни мясо,
Кто под пятою у…
Простите, баб.
Тогда у мужа есть
Двойник ужасный —
Он днем альфонс,
А ночью —
Жалкий раб.

## Замкнулся круг

О эта суета —
мирские страсти,
Они людьми играют
с давних пор.
Кто только ни побыл
у них во власти —
Был кто-то вознесен
к вершине счастья,
Низвергнут кто-то
ими же в позор.

О эти страсти —
суета мирская,
Ей от ворот
не скажешь — поворот.
Она нас, то пленя,
то отпуская,
Без спроса всех
в заложники берет.

Замкнулся круг —
и из его объятий
Мы выход ищем,
мечемся в тщете,
Но неизбежно,
словно от заклятий,
То мы в сетях страстей,
То в суете.

## Познайте истину...

Познайте истину!
 В конце тоннеля свет
Вы без нее
Увидите едва ли.
Познайте истину,
 пусть и на склоне лет,
Коль в молодые годы
Не познали.

Познайте истину,
 она вас вознесет
С земли,
К досель неведомой вершине.
Познайте истину —
 и прежнее не в счет,
Прозренье начинается
Отныне.

Она —
Всем толкованьям голова,
Раскрепощает,
Восторгает,
Дивит.
Она —
Стара бывает
И нова,
Познайте истину —
 она вас осчастливит.

---

Познавши истину,
 лишитесь вы прикрас

Реальности —
И вы уже не гений.
Познайте истину —
        она опустит вас.
На землю грешную
        с вершины заблуждений.

Познавши истину,
        уйдет из головы
Весь бред витиеватый
        догм напрасных.
Познайте истину —
        и ощутите вы
Себя несчастным
        изо всех несчастных.

## Переплетенье лет

Мы тем живём,
          что на роду написано,
Судьбы своей
Не зная наперед...
Коль жеребенок
          уродился с «лысиной»,
Состарится он с нею
И умрет.

О, знать бы нам
          судьбы предначертания,
Переплетенье
Лет,
Недель,
Минут.
Возможно, изменили б мы
Заранее
Деяния свои
          и свой маршрут.

Но нет!
Предусмотреть судьбу бессмысленно,
Которая внезапностей полна.
У каждого
Своя по жизни «лысина»,
И будет с нами
          до конца она.

# Сад

Васіль Тонкавіч, адарваны ў свае сорак год вайной ад сям'і, ад роднай вёскі, ад касы́ і плуга, прайшоў праз усю яе, праклятую, аж да Берліна, дзе і сустрэла яго такая доўгачаканая Перамога.

Васіль, думаючы пра перажытыя страшныя гады, напоўненыя жахамі і стратамі, адчаем і надзеямі, горка ўсміхаўся: «Хапіла нейкіх двух-трох хвілін, каб памяць высветліла бачанае і перажытае, а за гэтымі хвілінамі — дні і ночы, месяцы і гады змагання з лютым зверам і яго знішчэнне…»

Вяртанне дамоў было радасным. Нават вагоны, так званыя цялятнікі, перапоўненыя гэткімі ж, як і ён, пераможцамі, здаваліся ўтульнымі.

Поезд імчаў хутка, амаль без прыпынкаў і Васіль зноў жа горка ўсміхнуўся.

«Не верыцца,— думаў ён,— што гэту далеч давялося вытупваць сваімі нагамі, пешшу. Ды не ўвесь час можна было карыстацца нагамі — часцяком, па-пластунску, на пузе, па вушы ў гразі, па счарнелай ад крыві зямлі, абпаўзаючы сваіх забітых таварышаў. О, каб гэтак хутка мы імчалі да Берліну!..»

На рэдкіх прыпынках, асабліва ў Польшчы, удзячныя, вызваленыя ад фашысцкіх нелюдзяў людзі, закідвалі кветкамі вагоны, падавалі хто што мог з яды, шчыра дзячылі тых, хто цаной велізарных страт, вярнулі жыццё на іх зямлю, у іх лёсы.

Бачачы паўсюдна зруйнаваныя населеныя пункты і гарады, у Васіля шчымліва сціскалася сэрца: — А як там дома?

І хоць поезд імчаў шыбка, Васілю здавалася, што ён ледзь кратаецца, што час марудна застыў на месцы.

Нарэшце — Мінск!

І тут ненажэрная вайна зруйнавала ўсе будынкі, знявечыла лёсы, нарабіла бяды.

Да вагонаў спыніўшагася поезда рынуўся натоўп людзей, сустракаючы франтавікоў. Хтосьці, пэўна, спадзяваўся ўбачыць родных, знаёмых, большасць аддавала даніну ўдзячнасці пераможцам.

Васіль з цяжкасцю праціскаўся праз натоўп. Яго абдымалі зусім незнаёмыя людзі, дзячылі за перамогу, цалавалі. Было кранальна і ўрачыста.

Нарэшце, выслабаніўшыся з гэтай узрушанай табалы, Васіль натыкнуўся на хлопчыка гадоў дзесяці, схуднелага і абшарпанага. На шчацэ, крыху ніжэй вока, хлопчык меў зарубцаваны шрам літарай «г».

— А ты каго сустракаеш? — спытаўся Васіль у белагаловага мальца.

Хлопец шмаргануў носам:

— Я?.. Я — нікога. Татка загінуў даўно, а мамка дома… А прыйшоў я паглядзець на тых, хто ваяваў. Вось…

Васіль усміхнуўся:

— Ты сказаў, што нікога не сустракаеш. Лічы, што ты сустракаў мяне і табе за гэта дзякуй. А завуць цябе як?

— Васілём…

— О, дык мы, браток, цёзкі! А шрам гэты ў цябе адкуль?

Хлопчык ціха адказаў:

— Асколак…

Васіль абняў хлапчука:

— Значыцца і ты паранены… І цябе вайна не абмінула.

Тут Васіль успомніў, што ў яго, акрамя лыжкі за халявай бота, ёсць у рукзаку трафейны губны гармонік.

— Трымай, цёзка! Гармонік хоць нямецкі, але наша «кацюша» гучыць на ім пераможна. Прывітанне мамцы!

Ад Мінску да яго вёскі нейкіх дзесяць вёрстаў. Што яны, гэтыя невялікія мірныя вёрсты чалавеку, прайшоўшаму ўсю Еўропу! Васілю здавалася, што ён не ідзе, а яго нясуць крылы. Ён не чуў зямлі пад нагамі. У вочы кідаліся неўзараныя, непасеяныя палі, спаленыя вёскі.

Ужо здалёку, Васіль з болем заўважыў на месцы сваёй вёсачкі слупы пачарнелых комінаў.

Васіль подбегам рынуўся насустрач невядомасці — як там сям'я? Ці жывыя?

*

Прайшло пятнаццаць год. Жыццё вярталася на нашу пакутную зямлю. Васілёва вёсачка адбудавалася. Яго сям'я, якую ён, вярнуўшыся з вайны знайшоў у зямлянцы, таксама перайшла жыць у новую хату, пабудаваць якую, нягледзячы на свае цяжкасці, дапамог калгас.

Праўда здароўе яго пахіснулася. Давалі пра сябе ведаць франтавыя раненні, асабліва ў нагу. Давялося карыстацца кійком. Але гэта дробязь у параўнанні з мірным жыццём, ды і ўзрост ужо не малады — не так даўно пайшоў на пенсію.

Радавалі дзеці, ўнукі, мацнела гаспадарка.

Аднаго дня, сын прынёс газету, у якой была аб'ява аб тым, што ля Мінску, у Лошыцы, у наступную суботу будзе адбывацца продаж садовых саджанцаў.

Садоў у тыя часы ў вёсках было небагата, саджанцаў купіць не было дзе, таму Васіль запаліўся:

— Паеду! Свой садок не пашкодзіць! Я, магчыма, яго і не дачакаюся, але вам, маладым, яблычак не пашкодзіць. Ды і вясной ён будзе цешыць вас сваім квіценнем. Чакайце!

Жонка ўставіла сваё:

— Ты, Васілька, надзень усе свае баявыя ўзнагароды, у цябе вунь іх колькі! З ветэранам шальмаваць

не стануць, не падсунуць якую-небудзь дзічку. Ды і павагі да цябе будзе болей.

Васіль адмовіўся катэгарычна:

— Не! Пасведчанне ветэрана вазьму на ўсякі выпадак, а ордэны і медалі не для сажанцаў мне ўручалі.

У Мінску яму паведамілі, які аўтобус давязе да Лошыцы, таму Васіль без цяжкасцяў туды даехаў.

Якое ж было яго здзіўленне, калі ля садовага пітомніка ён убачыў мора людзей. Усе прагнулі абзавесціся садам.

Сажанцы прадавалі аднагадовыя — маленькія дубцы. Таму тыя шчаслівіўцы, якім удалося купіць іх, з гонарам неслі у руках штосьці падобнае на венік, з абкручанымі цэлафанам карэннямі.

«Ну, дык я без праблем з такім венікам улезу ў аўтобус» — падумаў узрушаны Васіль.

Але дзе ж тут канец чаргі?

Ён спытаўся, хто апошні, але яму паказалі на нейкую канторку, да якой была чарга яшчэ большая, чым да сажанцаў:

— Вы спачатку займіце чаргу туды, там у вас возьмуць грошы і выпішуць квітанцыю, а ўжо з ёй кіруйцеся сюды.

У Васіля пацямнела ў вачах. Такой чаргі, такога натоўпу людзей ён нідзе не бачыў. Праўда, у сорак пятым, было таксама няпроста праціснуцца да Рэйхстага, каб паставіць свой подпіс. Але там былі свае родныя, добразычлівыя браты па зброі, а тут усе натурыліся адно на аднаго, як апошнія чужынцы.

Крыху наблізіўшыся да канторы, Васіль убачыў нейкую аб'яву і пачаў праціскацца бліжэй, каб прачытаць яе.

На яго шыкалі з усіх бакоў.

Нарэшце Тонкавіч прачытаў: «Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны абслугоўваюцца без чаргі».

«Вось гэта здорава! — у душы засвяціўся Васіль,— Паважаюць нас, удзячныя нам.»

Ён дастаў з кішэні пасведчанне ветэрана і ўжо смялей пачаў праціскацца да ўваходу ў кантору.

Тут перад ім вырас моцнага складу ці хлопец, ці мужчына.

— Куды прэшся?

— Я па аб’яве… Я — ветэран… — Сарамліва адказаў Васіль.— Вось маё пасведчанне… Я ваяваў, сынок…

— Ды не пускайце яго! — пачулася з натоўпу,— Усім сажанцаў не хопіць! Адпіхніце вы яго, мы тут стаім, а ўсякія будуць лезці!

Хлопец, загарадзіўшый дарогу Васілю, хмыкнуў:

— Чуеш, што народ патрабуе? Валі адсюль!

Васіля гэта закранула за жывое:

— Ды я маю права! Я ветэран! — і зрабіў спробу абмінуць хлопца.

Той схапіў за каўнер Васіля і моцна штурхнуў з усходцаў:

— Я сказаў, валі адсюль! Панапладзілася вас, ветэранаў! Ваяваў — а хто бачыў?

Ад штуршка Васіль выпусціў з рук кіёк і паваліўся на зямлю. Пасведчанне ветэрана пляснулася пад ногі таго хлопца.

Хтосьці хмыкнуў, а хтосьці паспачуваў:

— Не трэба так чалавека штурхаць. А калі ён і сапраўды ветэран.

Нехта падтрымаў:

— А што, калі не ветэран, дык можна так пахабнічаць з ім?

Васіль устаў з зямлі, зірнуў на хлопца і дрыготкім голасам выдыхнуў:

— Эх, сынок…

Ён узяў свой кіёк, падняў пасведчанне і сабраўся пайсці прэч, але затрымаў погляд на твары крыўдзі-

целя. Той шрам, крыху ніжэй вока на твары пасляваеннага хлопчыка ён запомніў назаўсёды.

— Адкуль у цябе такі шрам, мілы чалавек? — спытаўся Васіль у незнаёмца.

— А табе што? — гыркнуў той.

Васіль спытаў нанова:

— А ці іграеш ты, цёзка, на губным гармоніку? І як жыве твая мамка?

Хлопец шырока раскрыў вочы і аслупянеў.

— Вы-ы-ы?..— выдыхнуў ён.

Васіль з горыччу спытаўся:

— А што б сказаў твой татка, які загінуў на вайне? І што б ты яму сказаў, Васілёк?

— Вы-ы-ы? — зноў выдыхнуў Васіль.

Ён схапіў руку свайго старэйшага цёзкі і нечакана бухнуўся перад Тонкавічам на калені.

— Прабачце… даруйце…

Гаманіўшы ўвесь час натоўп, імгненна сціх. Ніхто не разумеў, што адбываецца.

— Прабачце… Злітуйцеся… — як заклінанне паўтараў малады Васіль, з вачэй якога цяклі слёзы.

Тонкавіч ціха вымавіў:

— Я табе дарую… Але што я? Ты абразіў мільёны ветэранаў і, што самае брыдкае, свайго загінуўшага бацьку.

Тонкавіч крутануўся і, абапіраючыся на кіёк, рашуча пашыбаваў прэч.

*

Дома яго здзіўлена сустрэла сям’я:

— А дзе наш сад? Дзе сажанцы?

Васіль праглынуў камяк у горле і найграна беспапотна адказаў:

— Дарэмна з’ездзіў. Сёння сажанцы не прадавалі, перанеслі на другі раз. Жылі ж без саду…

## Несапраўднахворы

Забалела Паўлюку ў правым баку.

Ён гукнуў суседа праз плот:

— Хвядос, а Хвядов! Забалела мне раптоўна ў правым баку. Што гэта можа быць?

Хвядос адгукнуўся:

— Пачакай,ты ж ведаеш, што мая жонка працуе ў амбулаторыі прыбіральшчыцай.

Хвядос павярнуўся ў бок сваёй хаты і крыкнуў туды, дзе павінна была быць яго, свядомая ў медыцыне, жонка:

— Параска! Ходзь сюды!

З-за вугла хаты выклыпала Параска:

— Што табе?

— Ды не мне! Вунь у суседа ёсць пытанні па медыцынскай тэматыцы.

— А-а, Паўлюк! — усміхнулася Параска,— Што ў цябе за пытанні?

Паўлюк шмаргануў носам:

— Ведаеш, суседка, забалела мне раптоўна ў правым баку. Што там магло скруціцца?

— Параска прафесійна ставіць пытанні:

— А дзе? Зверху ці знізу? І ў якім баку? Справа ці злева?

Паўлюк яшчэ раз шмаргануў носам.

— У правым баку знізу.

Параска ўдакладніла:

— Зусім знізу ці дзе?

— Знізу! — адказаў Паўлюк,— Ніжэй не бывае — у самай пахвіне.

Параска паглядзела ў неба і выдыхнула:

— О-о, суседзе! У цябе, мусіць, апендыцыт. Рыхтуйся пад нож.

Паўлюк жахнуўся:

— Сплюнь ты, суседка! Адкуль ён мог узяцца? Я ж нічога такога не еў.

Параска скрывілася:

— Табе што, так ужо неабходна ведаць, адкуль бяруцца апендыцыты?

— А што ж рабіць? — занепакоіўся Паўлюк.

— А што ў такіх выпадках робяць? — адказала пытаннем на пытанне суседка.

— А што?! — наблізіўся бліжэй да плоту Паўлюк,— Што?!

— Ідуць да доктара, вось што! — важна адказала Параска.— Потым падумала і працягнула сваю кансультацыю: — Я чула, што перад аперацыяй неабходна пагаліцца…

— Дык я паголены! — усклікнуў Паўлюк.— А што, непаголеных не аперыруюць?

— Балда ты! — аж падскочыла Параска,— Пагаліць трэба, як яго… ну, ніз жывата і нават ніжэй.

— Для чаго? — здзівіўся Паўлюк.

— Для таго! — пачала злавацца медыцынская прыбіральшчыа.— Ты лепш не губляй часу, а пагалі сябе сам. На усякі выпадак. Калі пачнецца прыступ, цябе, гатовенькага хуценька пляснуць на аперацыйны стол — і ўсё.

— Дык прыступа ж пакуль няма… — завагаўся сусед.

Параска ўскіпела:

— Які ты сапраўдны балда! Калі пачнецца прыступ, будзе позна.

Паўлюк паціснуў плячыма:

— Табе відней, суседка… Ты ў медыцыне ўжо не першы год… Пайду галіцца.

— Вось яшчэ што! — гукнула Параска,— Пажадана, каб ты перад аперацыяй быў галодны. Ды не

проста галодны, а каб перад прыступам не еў дні тры, а то і болей.

— Во навалілася! — абурыўся Паўлюк,— Калі гэты прыступ пачнецца, і калі мне перастаць есці?

На наступны дзень, цяпер ужо Хвядос гукнуў праз плот свайго суседа:

— Ну што, Паўлюк, пагаліўся?

— Пагаліўся, увесь жывот сабе пазразаў лязом! — з болем адказаў той.

— Трэба было з мылам, а ты, мусіць, усухамятку,— раіць Хвядос і пытаецца далей: — А есці перастаў?

— Пакуль трываю, не ем,— адказаў Паўлюк.— А колькі яшчэ вытрываю, не ведаю.

Хвядос зноў раіць:

— Ішоў бы ты, сусед, да дактароў.

— Ага! — запярэчыў прытворнахворы,— А раптам у мяне няма апендыцыту.

Хвядос не вытрываў:

— Ну, дык еш тады!

Паўлюк запярэчыў:

— Ага! А раптам у мяне ёсць апендыцыт! Ён толькі і чакае, калі я наемся.

— А баліць у баку? — спытаўся Хвядос.

— А халера яго ведае! — завагаўся Паўлюк,— Не думаю пра хваробу больш — не баліць, падумаю, штосьці, быццам, заные.

На трэці дзень, пасля «захворвання», вясёлы Паўлюк даклаў суседу праз плот:

— Слухай, Фядос, дык, аказваецца, няма ў мяне ніякага апендыцыту.

— А куды ён дзеўся? — дзівіцца сусед.

Паўлюк зарагатаў:

— Гэта спражка ад рэменя намуліла мне пуза, ліха яе бяры, а я, дурань, і жывот пагаліў і тры дні пасціўся. Во закавыка!

— Дык пачаў хоць есці? — засмяяўся і Хвядос.

— Ем! Нават ад радасці кульнуў трохі. Затым Паўлюк наблізіўся да суседа:

— А твая жонка, Хвядос, у медыцыне сабаку з'ела. Больш бы такіх дактароў!

# Буслянка

Дзеда Філіпа нечакана і неспадзявана напаткала бяда. Памёрла яго жонка Юсця.

Па-сутнасці бяда напаткала яго жонку, але ж нябожчыка ўжо не кранае ні гора, ні радасць, таму бедаваць давялося старому. Бедавалася яму ўдвая, паколькі вясна была на падыходзе, а вясной усё ў прыродзе прачынаецца, ажывае, лезе з зямлі да сонейка, а вось Юсця наадварот — пайшла ў зямлю. Здаецца, памры гэты ж чалавек безгаловіцай, калі ліе з неба альбо завірухі выюць, было б лягчэй. Але гэта толькі так здаецца. Адыход чалавека з жыцця — нясцерпны боль, незалежна ад надвор'я і пары году.

Адбядаваў дзед Філіп, пахаваў жонку і вымушаны быў ладзіць сваё жыццё, дакладней, дажыванне ў адзіноце.

Але ж, нездарма кажуць, што бяда не прыходзіць адна, яна цягне за сабой хвост ці новых бедаў, ці розных непрыемнасцяў.

Зноў жа неспадзявана захварэў сам дзед Філіп. І як было не захварэць, калі рупіўся вакол сваёй жалобы, праводзіў жонку на могілкі з лысай галавой, без шапкі. А надвор'е вясной здрадніцкае, снег пад нагамі расквасіўся, вецер, здаецца, лагодны, а пранімае наскрозь. Вось дзед і схапіў запаленне лёгкіх.

Цяпер, лежачны на бальнічным ложку, хваляваўся за сабаку і за курак, але добры людзі — суседзі, запэўнілі яго, што жыўнасць будзе дагледжаная і накормленая.

На дзяцей дзед не крыўдзіўся — яны, каб і хацелі, не здолелі б дапамагчы яму ў гаспадарцы, бо самі былі звязаныя па руках і нагах працай і гарадскімі клопатамі.

Дзякуй, што прывезлі да дактароў і наведваюць яго тут.

З такой хваробай, ды яшчэ ў такім паважаным узросце, дзед Філіп «прасанаторыўся» ў лячэбніцы ажно цэлы месяц. Ужо і снег растаў, і дрэвы, асабліва бярозы, пачалі пакрысе зелянець.

Вяртанне дамоў было і радасным, і сумным. Раней яго сустрэла б Юстына, ды яшчэ і адчыхвосціла б: «Я ж табе казала, каб апранаўся ды захінаўся, а ты ўсё малодзішся!..» Цяпер яго сустрэла маўклівая, ненапаленая хата.

Таму сын, які прывёз яго на машыне з бальніцы, хуценька прынёс дроў і падпаліў у печы.

— Зараз, тат, пацяплее,— супакоіў ён бацьку,— печ выпхне настыласць з хаты.

Якое ж было здзіўленне, калі дым шугануў у хату. Дзед Філіп гукнуў сына:

— Ты юшку забыўся адкрыць!

— Адкрыў я юшку, тата,— азваўся сын.

Тады стары выказаў новую здагадку:

— Дровы адкуль браў? Пэўна, з двара, сырыя. А трэба было з паветкі, сухенькія.

— З паветкі дровы, тата.— зноў азваўся сын.

Стары занепакоіўся:

— Хутчэй выцягвай паленне з печы і вынось на двор. Задушымся ад дыму!

Сын выцягнуў дровы з печы, парасчыняў вокны і дзверы, запытальна зірнуў на бацьку:

— Што можа быць, тата?

Стары зазірнуў у печ і выдыхнуў.

— Мусіць цагліна ў люфтах вывалілася і закаркавала выхад дыму ў комін.

— І што з гэтым рабіць? — спытаўся сын.

Дзед зноў выдыхнуў:

— Трэба шукаць майстра, ды перабіраць печ. А гэта вялікі кавалак работы. А, галоўнае, часу.

Сын ажно падскочыў:

— Дык у нас жа ёсць грубка ў другой палове хаты! Зараз яе распалім.

У сваю чаргу і дзед радасна схамянуўся:

— Ай ды малайчына, сынок! Я ж пра яе забыўся. Распальвай!

Якое ж было расчараванне, калі і грубка са сваёй пашчы пачала пыхкаць клубамі дыму на хату.

— Тушы! Вынось! — замітусіўся дзед Філіп. Гэта вінаваты комін. Не можа быць, каб адначасова дзве цагліны закаркавалі люфты і ў печы, і ў грубцы. З комінам разбярэмся самі, без майстра.

Раптам у хату ўвайшоў Філіпаў сусед Зэнусь.

— Фу-у-у! Што ў вас тут за параджэнне пекла? Адкуль дым?

Дзед Філіп закашляўся і выдыхнуў:

— Разумееш, суседзе, і печ, і грубка сапсаваліся. Дым не ў комін ідзе, а верне ў хату.

Зэнусь штосілы зарагатаў:

— Пакуль ты, Філіпка, адлежваў бакі ў лячэбніцы ды жыў на казённых харчах, на тваім коміне буслы зладзілі гняздо. А ты наводзіш напрасліну на печ і грубку.

— Няўжо?! — ажно прысеў ад нечаканасці дзед Філіп,— А мы ж з сынам, на радасці адразу ў хату, а на комін не звярнулі ўвагі. Толькі гэтага не хапала!

Мужчыны дружна высыпалі на двор і задзёрлі галовы.

І сапраўды на коміне красавалася бусліная гняздо, ў якім важна сядзела бусліха, пэўна, на яйках.

Да Філіпавай хаты, учуўшы, што гаспадар вярнуўся з лячэбніцы, пачалі збірацца людзі. Як заўсёды, у такім выпадку, знайшлося шмат дарадцаў і знаўцаў.

Пачулася:

— Во, Філіп, прываліла табе шчасце!

— Якое тут шчасце? Будзе дзед рабіць сабе яешню, а буслы яму ў патэльню — гасцінец.

— Бусліха адна, без бусла, відаць да ўдаўца цэліць.

— Хопіць балаболіць! — не сцярпеў дзед Філіп,— Што цяпер рабіць? Ні печ, ні грубку не распаліш.

Тут павольна, аднекуль з неба, вынырнуў бусел і таксама важна апусціўся побач з сваёй сяброўкай.

Той жа пад'ялдыка з'едліва заўважыў:

— Бусліха не да дзеда падмазваецца, у яе ёсць свой муж.

Дзед перапытаў:

— Дык што мне цяпер рабіць?

— А нічога! — пачуўся дарадца,— Жэрдкай спары гняздо з коміну і ўся праблема.

— Ты што! — падскочыў дзед Філіп,— Вунь бусліха сядзіць на яйках, а, можа, ўжо на буслянятах. Бог падказвае буслам, дзе рабіць гнёзды, а ты — жэрдкай!

Дзед абвёў усіх сваім рашучым поглядам, затым звярнуўся да сына:

— Пайшлі, сынок, у хату! Самі разбярэмся!

У хаце сын запытаўся:

— Ды што на самой справе будзем рабіць? Гняздо чапаць нельга, а што будзе з печчу і грубкай?

Стары пацвердзіў:

— Буслянку бурыць не будзем! Тым больш, калі ў ёй зараджаецца жыццё. А па-другое, можа, душа маёй Юстыны, тваёй маці, перайшла да гэтай бусліхі?

— А з печчу што? — перапытаў сын.

Дзед падумаў і адказаў:

— Там, на гарышчы, ідуць лежакі ад печы і ад грубкі да аднаго, агульнага коміну. Вось мы, сынок, з табой адвядзем новы ляжак і выведзем другі комін, далей ад гэтага, каб не курадыміць птушкам. Ці ж мы злыдні? Ці ж у Бога мала месца для нас усіх?

А, галоўнае, успомні, сынок, якое у нас з табой прозвішча. Бацян! Вось тут, хочаш вер, хочаш не вер, а, відаць, усе мы пароднены матухнай-Прыродай. Ды і жыць мне, аўдавеламу, будзе цяпер весялей, будзе з кім словам перакінуцца.

Гэта, сынок,— дарунак Бога!

# Санаторшчыкі

На пасяджэнні праўлення калгасу горача абмяркоўвалі кандыдатуры калгасных перадавікоў для накіравання лепшых у рэспубліканскі прафсаюзны санаторый.

Нарэшце тры кандыдаты былі зацверджаныя і з пуцёўкамі на руках адбылі да месцу адпачынку і аздараўлення.

Як вядома, кожны адпачывае па-свойму, ды і ўражанні ад адпачынку ў кожнага свае.

Калі ж адпачывальшчыкі вярнуліся ў родны калгас, у іх пацікавіліся, што і як было.

— Вось ты, Агафья Гіляраўна, як адпачыла, што бачыла, чым узбагацілася?

Агафья Гіляраўна горача ўскочыла з месца:

— Во адпачыла! — і яна паказала сціснуты кулак з адтапыраным уверх пальцам,— Во! Міраво! Кармілі чатыры разы на дзень! Як на ўбой!

— І ўсё-ё? — кісла скрывіўся старшыня калгасу,— І гэта ўсё, Агафья Гіляраўна?

Жанчына зноў падскочыла з месца:

— Не, не ўсё! Бывала, і пяць разоў на дні давалі есці! Еш, хоць расперажыся!

Старшыня калгасу звярнуўся да другога адпачывальшчыка, які сціпла сядзеў у куточку:

— Ну, а ты, Сымон, што скажаш? А ты чым узбагаціўся ў рэспубліканскім санаторыі?

Сымон, як сядзеў сціпла, так сціпла і адказаў:

— А чым там узбагацішся? Грошы пры сабе было небагата, ледзь на гарэлку хапала…

Старшыня занерваваўся:

— Ды я пра духоўнае ўзбагачэнне! Там жа бібліятэкі, там жа кіно, экскурсіі.

— Нічога такога бачыць не давялося… Агафья праўду казала, кармілі не блага. Спіртнога ў санаторным буфеце не было, у нас і то лепей. Які ж гэта адпачынак? Добра, што было даміно, дык хоць «казла» забівалі з другімі адпачывальшчыкамі.

— Ну, а ты, Рыгор,— звярнуўся да чарговага санаторшчыка старшыня,— ты хоць чым там займаўся? Ці і ты там толькі еў пяць разоў на дні? А болей што?

— Ха-ха! — зарагатала Агафья і ёй падрагатаў Сымон,— Мы яго ў санаторнай сталоўцы амаль не бачылі. Як паехаў худы ў санаторый, такі ж і вярнуўся. Я дык на пяць кіло пацяжэла, ці як вы кажаце, узбагацілася.

— Гэта так? — спытаўся старшыня.

— Так! — адказаў Рыгор.— Там жа кожны дзень для жадаючых, ладзіліся экскурсіі па сталічных вернісажах, па музеях ды па тэатрах. У нацыянальнай бібліятэцы адбылася сустрэча з вядомымі пісьменнікамі, а таксама канферэнцыя на тэму: «Па жыцці з цікавай кнігай». У філармоніі быў выдатны канцэрт з удзелам вядомых беларускіх спевакоў. А галодны я не быў, бо там арганізоўвалі і буфеты, і фуршэты. Я сапраўды ўзбагаціўся духоўна на ўсё сваё астатняе жыццё.

Агафья і Сымон разгублена пераглянуліся:

— А мы, дурныя, дзе былі?..

Старшыня калгасу задаволена заключыў:

— Дзякуючы табе, Рыгор, калгасныя грошы не былі выкінутыя на вецер. Як бачым, і адпачываць, і аздараўляцца трэба ўмець.

На наступны год, на чарговым пасяджэнні праўлення калгасу, зноў горача абмяркоўваліся новыя кандыдаты «ў санаторшчыкі», а каго зацвердзілі, і як яны так «узбагаціліся», нам, на жаль, невядома.

## На дзве сям'і

### *Знаёмства*

Калі Раман упершыню ўбачыў яе, ён быў унутрана аглушаны, раздушаны, знішчаны. Хутчэй, ён убачыў не яе, а яе вочы — тую знакамітую кроплю расы, у якой адлюстроўваецца ўвесь свет з яго бязмежнасцю і разнастайнасцю. Ён адчуў сябе палонным, і не хацеў пазбаўляцца палону, ён адчуў сябе чалавекам, апынуўшымся пасярод акіяна, які не даплыве да берага і патоне — і ён не хацеў, каб яго ўратоўвалі, бо патануць у блакіце гэтых вачэй было б за шчасце.

Не стала гэтага свету, не стала яго ўласнага жыцця, засталіся толькі яе, ўсепаглынаючыя вочы.

Раман не так даўно вярнуўся з арміі, быў фізічна прываблівым і даволі сімпатычным. Яго начытанасць надавала яго ўнутранаму свету рамантычнасць, што было ўласціва яго маладосці. Пра такіх кажуць — гарманічна адораны чалавек.

Сёння, упершыню сустрэўшы гэту чароўную дзяўчыну, у яго гарманічнасці не хапала рашучасці, смеласці. Раман гэта адчуў з усёй катастрафічнасцю сітуацыі і пахаладзеў.

А катастрафічнасць сітуацыі была даволі простай. Не падыдзе ён зараз жа да яе, не загаворыць, і тратуарны натоўп людзей паглыне гэты цуд, і зноў яе ўбачыць у вялікім горадзе не пашчасціць. Падыдзе, загавора — і ў вачах дзяўчыны, магчыма, будзе выглядаць звычайным вулічным прыставалам.

Раман перабароў свой «гарманічны недахоп», нагнаў дзяўчына і крануў яе за руку.

Незнаёмка азірнулася.

— Што вам?

Раман ліхаманкава вышукваў нейкі, патрэбныя для такога моманту словы, і не знаходзіў іх.

Дзяўчына, не пачуўшы ні слова, крутнулася, каб ісці далей. Раман абмёр. Ён прымусіў язык варухнуцца і выціснуў з сябе:

— Скажыце, як прайсці…

— Куды? — даволі холадна спытала яна.

Раман маўчаў, як зачараваны.

Дзяўчына перапытала:

— Дык куды вам неабходна прайсці?

Раман нечакана выдыхнуў:

— Не ведаю… А хоць куды….

Пэўна, у яго быў настолькі разгублены і смешны выгляд, што незнаёмка ўсміхнулася і больш мякка спыталася:

— Вы заблудзіліся ў Мінску? Адкуль вы?

Раман зразумеў, што патануць у гэтых вачах прыемна, але не быць жа невядомым тапельнікам, пра якога гаспадыня вачэй праз дзень не ўспомніць. Ён старанна «намаляваў» на сваім твары ўсмешку і зноў выдыхнуў:

— Прабачце… я не заблудзіўся. Я жыву ў Мінску і не блага ведаю яго… Прабачце….

— А-а-а! — голас незнаёмкі зноў пахаладзеў,— Дык вы шукаеце на вуліцах горада прыгоды? Бывайце!

Дзяўчына зноў, цяпер ужо больш рашуча, крутнулася, каб крочыць далей.

Але і Раман праявіў рашучасць. Ён схапіў незнаёмку за руку:

— Стойце! Калі ласка, стойце! Я не люблю прыгоды… дакладней люблю іх, але не на вуліцах горада! Не думайце пра мяне блага, прашу вас!

— А як загадаеце пра вас думаць?

Раман яшчэ больш разгубіўся:

— Не ведаю… Думайце як-небудзь, толькі не блага. Я не хацеў вас пакрыўдзіць.

Дзяўчына праявіла характар:

— Яшчэ чаго не хапала! Ды не так проста гэта зрабіць, як вы думаеце.

Незнаёмка з першага погляду заўважыла нерушасць і сціпласць хлопца, ёй спадабалася яго нерашучасць і, безумоўна, прываблівая знешнасць.

— Дык навошта вы мяне спынілі? — ужо зусім мякка спытала яна, хаця, добра ведала, навошта.

Раман шчыра сазнаўся:

— Я ведаў, што не спыніўшы вас сёння, я ўжо больш ніколі не ўбачыў бы вас… Я гэтага вельмі баяўся. Каб я не закрануў вас, я б дакараў сябе ўсё жыццё, я б сябе ненавідзеў.

— Ого! — усклікнула яна. І ў гэтым «ого» чулася захапленне і павага. Дзяўчына працягнула яму руку:

— Тады давайце знаёміцца! Мяне завуць Валянцінай. А вас?

Раман далікатна ўзяў руку дзяўчыны ў сваю і з дрыготкім ад хвалявання голасам назваў сваё імя:

— А я Раман.

### *Сямейнае шчасце*

Давясельнае знаёмства Рамана і Валянціны завяршылася даволі хутка. Тут асабліва і распавядаць няма аб чым, бо нічога новага ў іх каханні адкрыць не ўдасца. Праўду ж кажуць, што ўсе шчаслівыя каханні і шлюбы, аднолькава шчаслівыя. Вось і нашы закаханыя не выйшлі за межы адвечнага канона адвечнага кахання.

Былі ў іх і абдымкі, і пацалункі, і гарачыя, узнёслыя словы прызнання ў першым каханні, і клятвы ў вечнай вернасці адно аднаму. Словам, усё тое, Богам дадзенае палкім і чыстым сэрцам, усё тое, што прызначаецца не для чужых вушэй.

І лагічным працягам іх рамантычных адносінаў стала вяселле. І ўсе вяселлі падобныя адно да аднаго, праўда, з адной даведкай. Гарадскія вяселлі значна адрозніваюцца ад вясковых. Але і яны розныя толькі знешне, а, па-сутнасці, і гарадскія, і вясковыя вяселлі — гэта непаўторнае (дай Бог, каб непаўторнае) свята двух сэрцаў, двух лёсаў, якія з першага паслявясельнага дня, пачынаюць будаваць дах жыцця над адным, агульным лёсам.

А што тычыцца сэрцаў, дык яны ўжо да вяселля зліліся ў адно — і сэрца, і пачуцце. Няхай ім шчасціць у жыцці!

Валянціна, пасля заканчэння філфака, працавала ў дзіцячай бібліятэцы, загадчыцай. Яе работа ёй вельмі спадабалася. Кожны дзень вакол яе — цікавыя кніжкі, дзеці, настаўнікі, бацькі дзяцей, тэматычныя вечарыны і віктарыны.

Праўда, яе праца вымагала і самааддачы, і, што галоўнае, патрабавала яе прысутнасці ў бібліятэцы нярэдка і ў выхадныя дні.

Гэта крыху псавала настрой Раману, які ў суботу і нядзелю быў вольны ад сваёй асноўнай працы. А ён, паколькі пакуль не меў ніякай спецыяльнай адукацыі, працаваў на Галоўным паштамце, ўпакоўшчыкам на складзе. Па-сутнасці, ён быў звычайным работнікам, які перакладаў, сарціраваў і нават грузіў розных габарытаў пасылкі.

Але гэту работу ён лічыў часовай, бо цвёрда вырашыў восенню пайсці вучыцца. Куды — пакуль не ведаў.

Тое, што Валянціна часцяком адсутнічала дома ў выхадныя дні, лёгка кампенсавала іх узаемнае каханне.

Раман не саромеўся ніякай дамашняй працы, а, бывала, ў выхадны дзень з задавальненнем бавіў час у той жа дзіцячай бібліятэцы побач з жонкай.

Праз даволі хуткі час іх сумеснае жыццё рэзка змянілася. Пры тым, змянілася ў лепшы бок.

Валянціна зацяжарыла. І маладыя, і іх бацькі з радасным нецярпеннем чакалі прыбаўлення ў сям'і.

Цяпер, самы час сказаць пра тое, а як жа маладажонцы вырашылі самае складанае пытанне ўсіх маладых, ды і многіх не маладых сем'яў — кватэрнае пытанне.

У Рамана і Валянціны гэта пытанне вырашылася, як кажуць, без вялікіх патрасенняў.

Валянціна жыла з маці ў трохпакаёвай кватэры, у даволі ціхім раёне на вуліцы Лермантава. Яе бацька, вайсковы афіцэр, ужо шмат гадоў таму, пайшоў з сям'і да другой жанчыны, пакінуўшы жонцы з дачкой кватэру.

Валянціне было дзесяць год, калі гэта адбылося, і больш свайго бацьку яна не бачыла. Вось Раман і перайшоў ад сваіх бацькоў, якія жылі ў двухпакаёўцы, да маладой жонкі і яшчэ не старой цешчы.

Маці Валянціны, Ганна Гаўрылаўна, працавала галоўным бухгалтарам у адной дзяржаўнай установе, і была вельмі рада паяўленню мужчыны ў іх сям'і.

Бацькі ж Рамана былі звычайныя, простыя людзі — бацька працаваў шафёрам, маці прыбіральшчыцай ва ўнівермазе.

Нарэшце, такое хвалюючае і ўсімі чаканае прыбаўленне ў сям'і адбылося. Валянціна нарадзіла хлопчыка. Ганна Гаўрылаўна не магла стрымаць радасці:

— Цяпер у нашай сям'і два мужчыны — Раман і… Яна запытальна паглядзела на шчаслівых маладых бацькоў і спыталася:

— Раман і?..

Валянціна дапамагла маці:

— Мамачка! Мы з Раманам вырашылі — калі будзе дачушка, назавем яе Алесяй, а хлопчыка Глебам. Так што, мамачка, у нас ёсць Раман і Глеб.

— Цудоўна! — пляснула ў далоні Ганна Гаўрылаўна.— Глеб Раманавіч! Гучыць!

Затым спыталася ў зяця:

— А твае бацькі, Раман, не супраць Глеба?

— Што вы, Ганна Гаўрылаўна! Мае бацькі не супраць Глеба, былі б рады і Алесі.— засвяціўся шчасцем Раман.

Ганна Гаўрылаўна засмяялася:

— Будзе і Алеся! Месца ў сэрцы ўсім хопіць!

Маладыя зачырванеліся і прамаўчалі — значыць далі згоду і на дачушку.

## *Новае знаёмства*

Раман, як і планаваў, паступіў на завочнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ. Валянціна настойвала, каб ён пайшоў па яе слядах і вучыўся на філфаку, але Раман аджартоўваўся:

— Два філолагі ў адной сям'і будуць дома спрачацца над кожнай коскай. Не! Лепш я буду табе, Валянцінка, тлумачыць твае правы і абавязкі.

— А пра свае абавязкі не забудзешся? — у сваю чаргу жартавала яна.

Глеб, ці як жартавала Ганна Гаўрылаўна, Глеб Раманавіч, рабіў ужо першыя крокі, што вельмі цешыла маладых бацькоў і іх бацькоў таксама.

Аднойчы Рамана, які вяртаўся з працы дамоў, спыніла дзяўчына.

— Скажыце, кал ласка, як мне прайсці…— яна зачырванелася і змоўкла.

— Куды вам трэба? — спытаў Раман.

Дзяўчына палезла ў сумачку.

— Ой, прабачце, не памятаю… Я зараз знайду назву вуліцы.

Пакуль яна корпалася ў сумачцы, Рамана агарнуў свой успамін, калі вос, амаль што так, ён чырванеўся перад сваёй будучай жонкаю.

— Ага, вось! — дзяўчына дастала паперку і прачытала: — Мне трэба знайсці Возніцкую вуліцу. Не падкажаце, дзе яна знаходзіцца?

— Ого! — здзівіўся Раман,— Даўно ў Мінску няма коннага транспарту, а вуліца такая ўсё ж ёсць. Гэта такі даволі ціхі куточак Мінска з драўлянымі дамамі. Ён, калі вы ведаеце горад, побач з вуліцай Розы Люксембруг.

— Знайду! — бадзёра адказала дзяўчына,— Галоўнае, што ёсць арыенцір.

Тут вочы Рамана сустрэліся з поглядам незнаёмкі. Божа! — жахнуўся ён. Той жа акіян блакіту, які калісь убачыў ён у вачах Валянціны. Але сёння ў блакіце вачэй сваёй жонкі, ён згодзен купацца, патануць жа ў ім ужо не хацелася. А тут!.. Ён унутрана абамлеў.

— А вы не мінчанка? — прамармычаў ён.

— Мінчанка! — адказала дзяўчына, але вуліца нейкая старадаўняя, вось я і шукаю-блукаю.

— Ведаеце што! — прапанаваў узрушаны Раман,— А давайце я вам дапамагу адшукаць яе, тую вуліцу. Каб вы не блукалі, я праваду вас туды. Згодны?

Дзяўчына згадзілася:

— Ну, калі ў вас ёсць вольны час, я буду вам вельмі ўдзячна за дапамогу. А які транспарт туды ідзе? Спадзяюся, не конны?

— Пешшу! Толькі пешшу! — запаліўся Раман,— Вечар цудоўны, а часу ў мяне хапае.

— Тады, давайце знаёміцца! — прапанавала яна,— Мяне завуць Нінай. Я не замужам, жыву з бацькамі, вучуся ў медінстытуце. Вось уся мая анкета. Цяпер вы!

Раман горача і ўсхвалявана пачаў:

— Я — Раман… — Тут ён асекся. Яго запал як узнік, так і знік. Што ён мог пра сябе расказаць? Што жанаты? Што ёсць сям'я, сын і любая жонка? Ён пахаладзеў і ліхаманкава падумаў: «Любая? Так, любая. Але ж, маючы любую, не знаёмяцца з першай сустрэчнай. І не губляюць з першых хвілін галаву настолькі, што гатовы патануць у блакіце яе вачэй…»

Ніна здзівілася паўзе:

— Вы Раман і ўсё? Раманы звычайна вялікія, а ў вас і паўстаронкі няма.

Ён пачаў выкручвацца і на хаду прыдумляць:

— Пакуль што, я Раман і ўсё… Мне не ўсё дазволена пра сябе распавядаць… Магчыма, пазней…

Дзяўчына паціснула плячыма:

— Разумею… У вас такая работа ці служба… А я і не настойваю. Пазней дык пазней. У гэтым нават болей цікавасці, інтрыгі.

Ніна аказалася на дзіва гаваркая, вясёлая, як кажуць, камунікабельная. Раман жа, звычайна таксама лёгкі на слова, сёння быў стрыманы і сур'ёзны. Ён старанна падбіраў словы, пазбягаў непрыемных і недазволеных у такой сітуацыі тэм, што, у сваю чаргу, сапраўды, заінтрыгоўвала яго субяседніцу.

За размовай, непрыкметна прыйшлі на вуліцу Возніцкую, ціхую і ўтульную, быццам гэта была не гарадская, а вясковая вуліца. Драўляныя дамы патаналі ў садах і розных дрэвах, сярод якіх узвышаліся велічныя таполі. Амаль на кожным двары чуўся сабачы брэх, на шпагатах сушылася бялізна.

### *На мяжы разладу*

Жанчына, у адносінах з мужчынам, асабліва з блізкім мужчынам, з мужам, не благі псіхолаг. Яна сваім унутраным пачуццём улоўлівае нават самыя нязначныя адхіленні ў паводзінах свайго «пацыента».

Вось і Валянціна адразу ж заўважыла ў паводзінах Раман штосьці, дагэтуль нябачнае яе сэрцам. Ён заставаўся, быццам, ранейшым Раманам, і ў той час, быў іншым, нават у нечым незнаёмым. Валянціна далікатна не лезла з роспытамі.

Але і Раман, будучы, здавалася б, меншым псіхолагам, перахопліваў яе занепакоеныя погляды і супакойваў яе:

— Усё добра, Валёчак, усё добра. Складанасці на працы, ды і вучоба патрабуе намаганняў. Гэта ўсё часова…

Ён шчыра верыў у тое, што ўсё «гэта» часова. Ніна забудзецца, звычайнае знаёмства. Але не думаць пра яе не мог.

«Нейкае насланнё.— думаў ён,— ці ж я не кахаю Валю? Глебу два гадочкі, сям’я як сям’я, многія нават зайздросцяць нам. Ой, трэба брацца за розум…»

Але ж, каб сардэчныя справы падпарадкоўваліся розуму, не было б разводаў ды дзяцей сірот пры жывых бацьках. Уся бяда ў тым, што, як кажуць людзі, розум ззаду. Бывае, спахопіцца чалавек, кінецца да

свайго запозненага розуму, а шмат ужо чаго не вернеш. Тады гэты ж, запознены розум, да канца жыцця крывавіць душу, як бязлітасны суддзя.

Валянціна, бывала, адкідвала далікатнасць і больш настойліва пыталася:

— Ды што з табой, Рома? Размаўляеш са мной, а думкамі далёка, гуляеш з Глебам, а глядзіш міма яго. Раней ад тваіх абдымкаў можна было захлынуцца, настолькі яны былі гарачымі і моцнымі, сёння яны, вялыя і абыякавыя. Мы ж толькі тры гады як ажаніліся.

Маці Валянціны, Ганна Гаўрылаўна, застаўшыся без мужа, употай ад Рамана вучыла дачку:

— Ты, дачушка, асабліва не лезь яму ў вочы з допытам. Мужчыны гэтага не любяць. Невядома яшчэ што ў яго — можа і сапраўды на працы непрыемнасці, а магчыма… усё, дачушка, магчыма.

Валянціна выглядала падраненай птушкай, у якой адно перабітае крыло не дае ўзляцець.

— Дык што ж рабіць, мама?

Маці супакоіла яе:

— Чакаць, дачушка, і спадзявацца. Галоўнае, пакуль рабі выгляд, што нічога незвычайнага не адбываецца, што цябе нічога не непакоіць. Хачу верыць, што час будзе за нас.

## *Час супраць*

Раман, адчуўшы палёгку з боку паводзінаў жонкі, змяніў і свае паводзіны. Дома выглядаў весела, праяўляў большую ўвагу да Валянціны і зацікаўленасць да сына. Нават сваім абдымкам надаваў, хоць і не зусім шчырую, але моцнасць і гарачасць.

Але, у гэты ж час, праяўлялася і большая гарачасць у яго адносінах да Ніны.

Сустракаліся яны рэгулярна, спачатку не надоўга, затым расставацца яму з ёй было ўсё цяжэй і цяжэй.

Але для таго, каб іх сустрэчы доўжыліся, неабходна было гэты час выкрадаць у сям'і. Раман выкручваўся, наколькі дазваляла яго фантазія і сумленне. Дапамагала вучоба. І хоць сесія заканчвалася, ён, быццам бы, бег з курсавой работай да сябра ці на кансультацыі да прафесійных юрыстаў.

Яго адносіны з Нінай даўно выйшлі з рамак звычайнага знаёмства. Цяпер ужо Ніна трапятліва адчувала яго моцныя і гарачыя абдымкі, цяпер яна захлыналася ад яго пацалункаў і ап'яняльных слоў. Паміж імі ўзнікла сапраўднае каханне.

Але якое каханне з боку Рамана было больш сапраўдным? Да Валянціны, да сям'і, ці да малазнаёмай дзяўчыны.

Раман балюча шукаў адказ на гэта пытанне і не знаходзіў яго. Пакахаўшы Ніну, ён працягваў кахаць і сваю жонку.

«Ці ж бывае так?! — палахліва думаў ён,— Відаць, усё ж бывае»,— няўпэўнена адказваў сабе.— «А што ж рабіць мне? — зноў задаваў пытанне Раман і з горыччу адказваў сабе — Ой, не ведаю!»

Надышоў час, калі Ніна прадставіла Рамана сваім бацькам. Хаця прадстаўленне адбылося, як і знаёмства з Раманам, рэбусным. Яна не ведала пра Рамана сама амаль нічога, таму і бацькам рэкамендавала яго даволі туманна:

— Вось гэта Раман… мой блізкі сябар. А гэта, Рома, мае мама і тата — Сафія Фёдараўна і Глеб Антонавіч.

У Рамана ледзь не саскочыла з языка.— «Ого! Твой бацька цёзка майго сына…» — але ён своечасова прыкусіў язык.

Бацька Ніны ўдакладніў:

— Твой блізкі сябар? А наколькі блізкі?

Сафія Фёдараўна прыйшла на выручку маладым:

— Табе з першай хвіліны ўсё хочацца ведаць. Прыйдзе час і яны самі ўсё нам дакладуць.

Бацька не адступаў:

— І ўсё ж, і для першай хвіліны малавата… Раман і ўсё. Мне цікава, малады чалавек, даведацца крыху болей. Кім і дзе вы працуеце, хто вашы бацькі? Такі няпісаны закон усіх знаёмстваў, асабліва такога спецыфічнага, як наша.

Тут ужо «кінулася на амбразуру» Ніна:

— Татачка! Давай падрабязнасці пакуль апусцім. Я за Рамана магу толькі сказаць, што ён, па роду сваіх заняткаў і службы, не мае права раскрываць сябе. Пакуль не мае права…

Бацька пакруціў галавой:

— Ого… Гэтак дык гэтак… Я ў службовыя тайны не лезу. А вось у нас з Сафіяй Фёдараўнай біяграфічная анкета без грыфу «сакрэтна». Яна працуе настаўніцай, а я брыгадзір мантажнікаў-будаўнікоў. Шмат да якіх будынкаў у Мінску прыкладаліся мае рукі. Стаў, жонка, самавар на стол, будзем піць чай.

## ***Пятля зацягваецца***

Пасля гэтага знаёмства, Раман амаль фізічна адчуў, як зацягваецца пятля на яго шыі. Гэтым візітам, на якім настойвала Ніна, ён пасадзіў сябе на ланцуг нейкіх сваіх далейшых канкрэтных дзеянняў і абавязкаў перад Нінай.

Гэты ж віртуальны ланцуг не дазваляў яму па-сапраўднаму набліжацца да сваёй сям’і — да Валі, якую ён працягваў, няхай і не па-ранейшаму палка кахаць, да любімага сына.

Зноў неадступнае пытанне: — «Што рабіць?» Па-ранейшаму ўжо ўсё не магло быць. Кінуць сям'ю? Не! Гэта зрабіць Раман не мог. Кінуць Ніну? І гэта не!

Ніна ж успрымала Рамана, як звычайнага, халастога хлопца, прыгожага і ўнутрана цікавага. Яна не хацела яго губляць, таму настойвала на лагічным, у такіх выпадках, завяршэнні іх вольных адносінах.

Калі Раман пачуў ад яе прапанову аб шлюбе, у яго пацямнела ў вачах. Ён катэгарычна аднекваўся, але пачуўшы ад Ніны, што яна цяжарная ад яго, пахаладзеў. Яму стала цяжка дыхаць — пятля сціскалася.

— Я павінен падумаць, усё ўзважыць,— выдыхнуў ён,— Увогуле, я не супраць, але…

— Што, але? — здзівілася яна.

Раман настойваў на сваім:

— Я павінен усё ўзважыць.

— Доўга будзеш узважваць? — пацікавілася яна,— Я пачакаю, але вось ён ці яна,— Ніна паказала на жывот,— доўга чакаць не могуць.

## *На дзве сям'і*

У такіх абставінах і жалезны чалавек паводзіў бы сябе нервова, а што ўжо казаць пра маладога мужчыну, які нечакана аказаўся між молатам — сям'ёй, і накавальняй — Нінай.

Валянціна бачыла, што з мужам адбываецца нешта складанае і балючае. Яна адчувала і складанасць свайго становішча, і боль уласнага сэрца.

— Раманчык, выкладзі ўсё, што ў цябе на душы, даверся мне і табе стане лягчэй. Што адбываецца, любы?

— Не цягні мяне за душу! — узмаліўся ён,— Не цягні, прашу цябе!

Забыўшыся, што ён перад жонкай, а не перад Нінай, Раман выдыхнуў:

— Мне трэба ўсё ўзважыць…

— Што ты хочаш узважыць? — жахнулася Валянціна.

Раман адсутнічым поглядам паглядзеў на яе і перапытаў:

— Узважыць?.. Так, нічога…

*

Раман усё «узважваў». Кінуць сям'ю ён не мог. Без Валянціны і Глеба сябе ён не ўяўляў. не бачыць Ніну таксама не мог. Тым больш цяпер, калі яна носіць пад сэрцам дзіця. Яго дзіця!

З гэтага бязвыйсця ён бачыў толькі адно выйсце — карыстаючыся сваім інкогніта перад Нінай, працягваць захінацца ад рэальнасці сваёй засакрэчанасцю. Ён усё прадумаў да драбніц і, калі Ніна чарговы раз загаварыла аб шлюбе, бадзёра падтрымаў яе:

— Я згодзен! Згодзен на ўсе сто! Пара кідаць нам нашы пазавугольныя адносіны і пераходзіць да сямейнага ладу жыцця. Дзіця, убачыўшы гэты свет, адразу ж павінна ўбачыць і сваіх бацькоў.

— Цудоўна! — радасна ўсклікнула Ніна,— Які ты малайчына! Гэта я і чакала пачуць ад цябе. Скажу табе па сакрэту, што мае бацькі не могуць дачакацца таго імгнення, каб блаславіць нас.

Раптам Ніна пахмурнела.

— Дарэчы, а ты мяне нават не прадставіў сваім бацькам. Ды і гаворку ты пра іх ніколі не пачынаў і не падтрымліваў. Ці ты лічыш мяне такой ужо страшненькай, што не знаёміш з імі?

Пахмурнеў у сваю чаргу і Раман.

— Давай лепш не кранаць гэту тэму… У мяне няма бацькоў, я сірата і выхоўваўся ў дзіцячым доме. І жыву я пакуль у інтэрнаце, таму ніколі не запрашаў цябе да сябе.

— Ой… — уздыхнула Ніна,— Прабач, Раманчык. Не гаруй ужо так — цяпер мае бацькі будуць і тваімі. Ды і жыць ты пярэйдзеш да нас.

— Але,— і Раман набыў рашучы выгляд,— У мяне ёсць адно пажаданне, нават умова.

Ніна насцярожылася:

— Умова? Якая ўмова?

Раман працягваў больш рашуча, даючы зразумець, што другога варыянту не прыме:

— Мне не вельмі даспадобы розныя там ЗАГСы-шмаксы. Хіба ж людзей аб'ядноўвае нейкая паперка? Людзей яднае каханне. Не будзе кахання і ЗАГС не ўтрымае. Вунь колькі людзей жывуць у грамадзянскім шлюбе. Думаю, што і мы можам гэтаксама жыць.

Ніна напалохалася.

— Ды што ты гаворыш, Рома? Я ж мару ўзяць тваё прозвішча. А наша дзіця! На чыё прозвішча яго запішам? А мае бацькі? Што я ім скажу? Дзіўная твая ўмова.

Раман абняў Ніну:

— Сонейка маё! Не хвалюйся ты так. Пажывем з табой год-два без рэгістрацыі шлюбу, упэўнімся у сваіх пачуццях і — гайда ў ЗАГС.

— Ты не ўпэўнены ў сваім ці маі каханні? — жахнулася Ніна,— Ці ты ўвогуле не кахаеш мяне?

Раман ласкава пацалаваў яе:

— Кахаю! Яшчэ як кахаю! Ты ж сама гэта бачыш і ведаеш. І нікому цябе не аддам, толькі саступі мне ў гэтым… і яшчэ ў адным.

— У чым? — разгубілася яна,— Я ўжо баюся тваіх прапаноў і ўмоў.

Раман, як мага мякчэй, сказаў:

— Жыць мы будзем не ў тваіх бацькоў, а здымем сабе асобную кватэрку. Сям'я павінна быць незалежнай нават ад самых лепшых бацькоў. Сумеснае жыццё з імі хутка падпсуе нашы адносіны…

Раман, усё «узважваючы», добра ўяўляў, што, каб жыць на дзве сям'і, неабходна будзе красці час у адной сям'і, пераносячы яго ў другую і затым наадварот — абкрадаць другую сям'ю дзеля першай. Разумеў такую, амаль немагчымасць яго існавання, але адчуваў магчымасць свайго сэрца жыць на дзве сям'і. Як яно будзе на справе, да канца не разумеў, але зразумеў, што ўжо не адступіць ад дарунку ці кары лёсу.

Ніна перапытала:

— Дык у чым яшчэ я буду павінна табе саступаць? Перад чым яшчэ ты мяне паставіш, як перад фактам?

Раман, не адпускаючы яе з абдымкаў, усміхнуўся:

— Усё, сонейка маё! Ва ўсім астатнім саступаць табе буду я. Вось толькі яшчэ адна не зусім прыемная інфармацыя: у мяне часта здараюцца камандзіроўкі і я буду часова адсутнічаць.

— Часова на колькі? — спытала Ніна.

— Магчыма, што і на тыдзень, і болей,— адказаў ён.

Ніна ўпершыню праявіла нервовасць:

— Што ў цябе за работа? Што за тайны вакол тваёй асобы? Мяне гэта непакоіць. Маю я права ведаць, хай не ўсё, а асноўнае пра таго, хто збіраецца быць маім мужам? Маё жыццё належыць табе, Рома, а хто ты, я дасканала не ведаю. Ты лічыш гэта нармальным?

Раман зрабіў спробу супакоіць яе:

— Я лічу, што наша сумеснае жыццё адкажа на ўсе пытанні. Адкажа паступова і, як ты хочаш, дакладна. У нас будзе дзіця — і гэта адказ на галоўнае пытанне. Я цябе кахаю і я — твой.

*

Узважыўшы, як здавалася ўсё, Раман усё ж натыкнуўся на адну вельмі істотную праблему — грошы. Жывучы на дзве сям'і, трэба было і заробак дзяліць на дзве часткі. А заробак у сарціроўшчыка пасылак не зусім задавальняў і адну сям'ю. Чарговы раз пацвердзілася даўно вядомае — каханне патрабуе ахвяр. Давялося Раману, вышукваючы дадатковы час для другой, на паўстаўкі працы, таемна ад Валянціны кінуць сваю завочную вучобу. Але ж і сваё перыядычнае знікненне з сям'і, хай сабе і на тыдзень, неабходна было абгрунтоўваць. Зноў камандзіроўкі? Але якія могуць быць камандзіроўкі ў простага грузчыка з паштамта?

І ўсё ж толькі «камандзіроўкі» маглі ўратаваць Рамана ад сямейнага «прыгоннага права».

Таму аднойчы Раман звярнуўся да жонкі:

— Валёк! У мяне на працы ўводзяцца новыя парадкі. Апошнім часам пасылкі, якія мы адпраўляем адрасатам, не ўсе даходзяць да іх. Ці іх хто крадзе, ці самі недзе губляюцца — загадка. Таму мы, сартыроўшчыкі, па чарзе будзем іх суправаджаць ад месца да месца. І па чыгунцы, і нават самалётам. Вось…

Валянціна здзівілася:

— А што, няма аховы? А дзе ж запячатаныя кантэйнеры? А твая вучоба? У цябе ж часу і так не хапае. Ды кінь ты такую працу! Мала другіх?

Раман запярэчыў:

— Што ты, Валёк! Я ўжо даў згоду. Ды і ты адпачнеш ад мяне падчас маіх камандзіровак.

Валянціна ўскочыла:

— Адпачыць ад кахання? А ты? Ты будзеш адпачываць ад сям'і? Будзеш?

## *Развязка*

Як ні былі бацькі Ніны супраць грамадзянскага шлюбу іх дачкі з малазнаёмым хлопцам, абставіны прымусілі пайсці насустрач маладым.

А абставіны былі вельмі важкімі. Гэта — цяжарнасць дачкі. Што ж тычыцца так званага шлюбу, дык знешне ён, гэты шлюб, ніяк не вызначыўся. Проста двое маладых людзей, па нейкай, толькі ім вядомай змове, пачалі жыць разам.

Праўда, бацькі Ніны, асабліва Глеб Антонавіч, катэгарычна адмовіліся адпускаць дачку жыць асобна ад іх, тым больш цяпер, цяжарную.

Глеб Антонавіч, што называецца, прыпёр Рамана сваімі перакананнямі да сцяны:

— Ты, Раман, не яршыся! Дзіця нападыходзе. Хто вам там дапамагаць будзе? У цябе камандзіроўкі, Ніна яшчэ маладая, нявопытная. Вось мы з Соняй і падсабім. У нас месца хопіць усім. Ды і табе, сіраце, хопіць выціраць вуглы ў інтэрнаце — раз сям'я, значыць сям'я.

Раману, як кажуць, не было чым крыць. Ён пачаў жыць з Нінай у яе бацькоў — у сваіх новых цешчы і цесця. Жыццё для яго аказалася нервовым, напружаным, затое ён, як яму здавалася, не здрадзіў ніводнаму каханню.

У такой мітусні — дзве сям'і, дзве працы,— час ляціць асоба хутка, таму неўзабаве, у новай Раманавай сям'і закугукала дзіця. Дзяўчынку назвалі Насцяй.

Глеб Антонавіч па-сяброўску паклаў руку на плячо свайму зяцю і з цеплынёй сказаў:

— Як толькі Ніна з Насценькай крыху падкрэпнуць, адзначым гэту падзею. Адзначым!

*

Сафія Фёдараўна, маці Ніны, як настаўніца, якая выкладала ў пачатковых класах, часцяком завітвала — то адна, то з вучнямі ў дзіцячую бібліятэку, дзе і пазнаёмілася з маладой і ветлівай загадчыцай бібліятэкі, Валянцінай. З часам іх знаёмства перарасло ў цёплыя адносіны двух, улюбёных ў агульную тэматыку жанчын.

Звязвалі іх не толькі агульныя духоўныя тэмы, але і сямейныя справы і навіны, якімі жанчыны між сабой не маглі не дзяліцца.

Такім чынам Валянціна даведалася ад шчаслівай Сафіі Фёдараўны, што тая стала бабуляй, што ў яе дачкі з мужам нарадзілася чароўная дзяўчынка Настачка.

Сафія ж Фёдараўна даўно ўжо ведала, што ў Валянціны і яе мужа ёсць сыночак Глебка.

Жанчын замілоўвала супадзенне імёнаў Валянцініна мужа і мужа Ніны — абодва Раманы. Але ці ж мала ў жыцці супадзенняў?

Калі ж Сафія Фёдараўна аднойчы прапанавала Валянціне адзначыць разам нараджэнне Насці, Валянціна ўзрадавалася:

— Я прыйду з задавальненнем! Гэта ж цуд — нараджэнне чалавека! Вось толькі мой Раман у камандзіроўцы…

— А вы, без яго! Будзе ён, вернецца з камандзіроўкі, прыходзьце разам, не — дык іншым разам прыйдзеце.

На развітанне Сафія Фёдараўна пажартавала:

— Ды і самыя маладзенькія пазнаёмяцца. У вас — Глеб, кавалер, у нас — Настасенька, барышня. Глядзіш, падрастуць і параднімся.

*

У нядзелю запланавалі адзначаць галоўную падзею ў жыцці чалавека — яго народзіны.

Усе былі шчаслівыя, узрушаныя. Ніна запрасіла двух сваіх, пакуль незамужніх сябровак, Раман Гаўрылавіч, улічваючы, што яго зяць Раман, быў непітучым, чакаў свайго даўняга сябра, а Сафія Фёдараўна з вясёлым смехам заявіла:

— А я запрасіла да нас будучага мужа нашай Настасенькі.

Усе здзівіліся:

— Якога мужа? Яна вунь спіць сабе спакойненька і не рэагуе на сваё свята.

— Прыйдзе, пабачыце! — усміхнулася Сафія Фёдараўна, затым спыталася ў зяця: — А ты, Раман, запрашаў каго-небудзь?

— Не! Іншым разам.— адказаў Раман,— Ды і заняты быў я.

Калі прыйшлі Нініны сяброўкі, нечакана высветлілася, што стол накрыты, ўсё гатова, а вось пра хлеб усе забыліся.

— Я хутка! — азваўся Раман,— Крама даволі блізка.— і ён падаўся за дзверы.

Усе, з дазволу Ніны, замілоўваліся Насцяй, якая салодка пасапвала носікам.

Званок у дзверы адарваў усіх ад гэтага прыемнага занятку.

— А вось і Настасенькін будучы муж! — кінулася да дзвярэй Сафія Фёдараўна. Адчыніла іх і адступіла. У дзвярах стаяў сябар Глеба Антонавіча з тортам у руцэ.

— Вось дык Насцін муж! — выдыхнуў хтосьці з сябровак Ніны,— Стараваты для яе.

Сафія Фёдараўна замітусілася:

— Гэта не ён! Што вы?

Тут жа ў дзвярах паказалася Валянціна з Глебам, які ў руцэ трымаў нейкую пагрымушку, відаць, падарунак для сваёй «будучай жонкі».

— А вось гэта ён! — засвяцілася Сафія Фёдараўна,— Праходзьце, калі ласка, вас толькі чакаем!

Шуму і мітусні ў кватэры значна дадалося.

Як і належыць, «жаніху» паказалі «нявесту». Усе захапляліся Насцяй.

— Сядаем за стол. Калі ласка! — цяпер ужо камандаваў Глеб Антонавіч, пачэсваючы вусы.

Гаспадыня падтрымала яго:

— За стол! За стол! Хлеб на падыходзе. Пакуль наліем у кілішкі, і Раман будзе тут. Прашу!

Усе па-святочнаму узрушаныя, расселіся за сталом. Пачулася традыцыйнае булькание з бутэлек і бразганне відэльцамі.

Адчыніліся дзверы і ў кватэру ўскочыў з хлебам расчырванелы Раман.’

— А вось і я!

Убачыўшы прысутных, Раман збялеў.

Валянціна кінулася да яго:

— Ты з камандзіроўкі? Ой, малайчына! Але як ты даведаўся, дзе мы з Глебам?

Павярнулася да застольшчыкаў:

— Знаёмцеся, гэта Раман, мой муж і бацька Глеба! Я вам, Сафія Фёдараўна, расказвала пра яго.

Пачуўшы аглушальную цішыню і адчуўшы, што адбываецца штосьці незразумелае, Валянціна няўпэўнена спыталася ў гаспадароў:

— Вы не рады, што мой муж без запрашэння прыйшоў сюды? Ці што?..

Ніна, з поўнымі слёз вачыма, сядзела нерухома, бялейшая за снег. У калысцы раптоўна прачнулася і заплакала Насця.

З-за стала ўстаў Глеб Гаўрылавіч і падышоў да Валянціны з Раманам.

— Мы не рады, што ён прыйшоў? Наадварот, мы ў захапленні. Праходзьце — як вас, Раман? — знаёмцеся: гэта мая дачка Ніна, а ў калысачцы яе дачушка Настасенька. Чамусьці яна, пры тваім,— як цябе, Раман? — прыходзе заплакала. Хаця чаго тут дзівіцца, прыйшоў чужы чалавек.

Валянціна, яшчэ нічога не разумеючы, глядзела на акамянелага Рамана і дрыготкім голасам пытала:

— Што адбываецца, Раман? Што адбываецца? Растлумач!

За яго адказаў зноў жа Глеб Гаўрылавіч:

— Яму тлумачыць нельга, ён засакрэчаны.

Раптоўна ачуняла і ўскочыла Ніна, схапіўшы Рамана за руку:

— Ты бацька гэтага хлопчыка? Ты! Што ж ты маўчыш?

Яна ўзяла з калыскі Настасеньку, прыціснула да грудзей і скрозь слёзы выкрыкнула:

— Калі ты бацька гэтага хлопчыка, дык ты не бацька маёй дачушкі! Тут няма нават тваіх знаёмых, ты — чужы! Чужы для ўсіх нас!

*

Раман доўга плытаў па горадзе, раздушаны і знішчаны апошнімі падзеямі. Куды падацца? Да сваіх бацькоў? А што ён ім скажа?

Ён, не здрадзіўшы, як лічыў, ніводнай сям'і, па-сутнасці застаўся адзін, як сапраўдны сірата. Ён нікому не патрэбен.

Думка апякла: «А раптам!..»

Раман, абнадзееny гэтым «раптам», спатыкаючыся ад спешкі, крочыў да Валянціны. Яна ж мая жонка! Глеб жа мой сынок! Ды не можа такога быць, каб я ім быў непатрэбны. Нас столькі агульнага звязвае.

Падышоўшы да дзвярэй кватэры, якая была яго домам, утульным бытам, Раман з болем заўважыў ля дзвярэй чамадан, зверху якога ляжала яго зімовае паліто.

«Усё!» — штосьці адарвалася ў яго ў сярэдзіне.

Раман узяў чамадан, не зазіраючы ў сярэдзіну, і зноў паплытаў па вячэрняму Мінску.

«Што цяпер?.. Куды цяпер?..» — стукала ў скронях.

Зноў успыхнула надзея: «А раптам!..»

Ніна сказала, што я чужы, пагарачылася. Там жа наша з ёй дачушка, там жа…

Але і каля дзвярэй Нінінай кватэры яго самотна чакаў другі чамадан.

# Паляўнічыя прыгоды

Калі наблізіўся час водпуску Анатоль Міхайлавіч крыху разгубіўся. Куды ехаць, дзе адпачываць? Тайланд, Егіпет, Балгарыя і г. д.— гэта ўсё было. Як ён жартаваў у думках — два разы лезці ў адну рэчку нецікава.

Ды і ў пералічаным замежжы сёння неспакойна — бойся ўласнага ценю — а гэта ўжо не адпачынак.

Нечакана яго калега па працы прапанаваў:

— Звычайна я раблю так: саджуся ў поезд і качу далей ад нашага захудалага гарадку, балазе вакол нас ледзь не першабытная тайга. Зыходжу на любой глухой станцыі,распытваю для арыенціру, дзе якія населеныя пункты і, як той Рабінзон, паглыбляюся ў тайгу на тыдзень-два. Рукзак з правіянтам — за плячыма, ружжо праз плячо, компас у руцэ, а ўсе прыгоды — наперадзе.

Вяртаюся дамоў бадзёры, памаладзелы, уражанняў — хоць кнігу пішы. Ты ж, Анатоль, як і я, паляўнічы, а паляўнічага ногі кармяць. Ну як?

Анатоль Мікалаевіч пацiснуў плячыма:

— Боязна. А калі прыблуджу…

— Такое ў мяне было,— пацвердзіў калега,— Компас дакладна выведзе цябе на чыгунку, праўда, а вось станцыю ён не гарантуе. Я рабіў так: сышоўшы з поезда, пытаўся на станцыі іх тэлефоны і не ўключаў свой мабільнік, каб не разрадзіўся, а, вяртаючыся да чыгункі, карыстаўся ім. Праўда, такое магчыма тады, калі станцыя мае магчымасць прымаць сігнал. А такая магчымасць ёсць не ўсюды, сам разумееш — тайга.

І хоць Анатоль Міхайлавіч вагаўся, усё ж «паляўнічая костачка» перамагла. Ён быў яшчэ даволі

малады чалавек, усяго дваццаць восем гадоў, да таго ж паляўнічы, які не раз у адзіночку начаваў у тайзе ля кастрышча. Бывала і блудзіў, і плытаў, але гэта толькі больш надавала рамантызму і падахвочвала да новых прыгодаў.

Працаваў ён у архітэктурна-праектным інстытуце галоўным спецыялістам па інфраструктурнаму забеспячэнню новых раёнаў горада. Як і большасць архітэктараў, любіў, у выглядзе хобі, маляваць алоўкам, а, бывала, і алеем.

Таму, рыхтуючыся да сваёй першай такой авантурнай вандроўкі, разам з самым жыццёва-неабходным, паклаў у рукзак і маляўнічыя прычындалы — алоўкі і альбом для малявання. Сярод самага важнага былі і фотаапарат, компас і мабільнік.

І вось гэты хвалюючы дзень надыйшоў — Анатоль Міхайлавіч у вагоне поезда. Ён ужо прыкладна ведаў, дзе, на якой станцыі будзе выходзіць, бо напярэдадні ад’езду старанна вадзіў пальцам па карце, вывучаючы свой накірунак. А ведаў «прыкладна», дзе выйдзе таму, што прываблівасць ці непрываблівасць выбранай станцыі можна будзе ацаніць толькі на месцы. Ён не выключаў сваёй перадыслакацыі на іншы прыпынак. А пакуль, выбраная ім станцыя, прыцягнула да сябе яго зацікаўленасць сваёй назвай — «Дзікая Пустэча».

Анатоль Міхайлавіч, дакладней Анатоль, бо імя па бацьку да яго імя дадавалі толькі на працы, дык вось ён, купляючы білет, выбраў спецыяльна агульны вагон, каб было больш суразмоўцаў, якія, рухаючыся праз тайгу паяздамі, былі ў многім, дасведчаныя аб наваколлі і яго асаблівасцях, не горш таго камп’ютара.

І сапраўды, многія спадарожнікі, даведаўшыся аб мэце Анатоль і спосабу ажыццяўлення гэтай мэты, наперакрык раілі яму, кожны сваё:

— Які вы малайчына! Гэта па-нашынскаму!

— Ды не ў Пустэчы трэба выходзіць! Праз сто дваццаць кіламетраў далей будзе «Глухі Кут». Там мядзведзяў за кожным кедрам, паспяваў толькі штаны мяняць!

— Сам ты глухі кут! — запярэчыў хтосьці,— Трэба ехаць да «Замагільніцы». У тых лясах ноччу да кастра прыходзяць такія здані, што тваім мядзведзям і не снілася!

— Што вы мелеце пустое чалавеку! — заступіўся з Анатоля чарговы дарадца,— Палохаеце яго абы чым. Вы, шаноўны, габлюйце да «Глыбокай Ямы». Там дзікоў больш, чым ваўкоў! Адзін вяпрук паляўнічаму сваімі крывымі ікламі распароў пуза, як наўлечку. Зашывалі яму жывот усёй вёскай. Вось гэта была падзея!

Анатоль, пасля чутага, гатовы быў на хаду пераскочыць на сустрэчны поезд, але сцярпеў і, каб не збэсціць свой аўтарытэт, салідна адказаў:

— Разбяруся і з мядзведзямі, і з астатнім. Для таго і еду.

Першы спадарожнік падтрымаў:

— Малайчына! Гэта па-нашынскаму!

А вось і станцыя «Дзікая Пустэча». Анатоль праз акно вагона, з першага погляду ацаніў: выбар яго правільны.

— Вось гэта Пустэча! — усклікнуў, скокнуўшы з вагона Анатоль,— Пустэча тады, калі вакол нічога няма, а тут тайжышча сціснула з усіх бакоў некалькі аднапавярховых будынін так, што, здаецца ім не дыхнуць.

І сапраўды, вакол быў такі шчыльны лес, што дрэвам было цесна.

Анатоль падыйшоў да нейкага мужчыны у форме чыгуначніка і, прывітаўшыся, спытаўся:

— Скажыце, калі ласка, у які бок лепей падацца, каб з густам нападарожнічацца?

Незнаёмец абыякава зірнуў на цікаўніка.

— Прыгоды шукаеш на адно месца?

Анатоль удакладніў:

— Не ведаю, якое месца вы маеце на ўвазе, але за прыгодамі я і прыехаў.

Незнаёмец хмыкнуў:

— Тут адзін такі таксама ў мінулым годзе шукаў прыгоды, дык яго шукаюць дагэтуль… разам з яго прыгодамі. Гэтага ты хочаш, хлопча?

Анатоль крыху збянтэжыўся:

— У вагоне мяне ўвесь час палохалі, цяпер тут новыя страшылкі. Вы мне проста, па-чалавечы парайце, дапамажыце…

— Параіць? — перапытаў чыгуначнік,— Не ведаючы вашай мэты, цяжка што-небудзь раіць. Куды вы кіруецеся? У які населены пункт, да якіх людзей ці падзей?

Анатоль патлумачыў:

— Я з (назваў свой горад), у мяне водпуск, і мне хацелася б адпачыць ад гарадской мітусні. Я планую па-рабінзонаўску паплытаць па тайзе, пры магчымасці, папаляваць, паначаваць ля вогнішча. Адным словам — пажыць па-дзікунску. Вашы парады мне будуць вельмі неабходныя для маіх такіх мэтаў. У мяне компас, тэлефон…

Незнаёмец зноў хмыкнуў, але памякчэў:

— Тэлефон можаш выкінуць, да нас яшчэ не дайшлі рэтрансляцыйныя вышкі. А галоўны компас — сонца. Вось глядзі і запомні… Зараз колькі гадзін?

— Дванаццаць.

— Дык вось, у дванаццаць гадзін, калі ты накіруешся ў той бок ад станцыі, сонца ў цябе будзе

роўненька з левага боку. Праз колькі там дзён тваёй вандроўкі, зірні на гадзіннік. Пры тваім вяртанні, роўна ў дванаццаць гадзін, сонца павінна быць з правага боку.

На станцыю выйсці табе наўрад удасца, а вось у чыгунку ўпрэшся. Што будзеш рабіць? У які бок пойдзеш, каб вярнуцца сюды?

— Не ведаю… — разгубіўся Анатоль.

— Дык вось,— працягваў чыгуначнік,— наш верставы слуп ад вашага горада сто дваццаць сёмы.

Пройдзеш па рэйках у нейкі бок да верставога слупа і зарыентуешся, у якім мы баку, і колькі да нас вёрстаў. Зразумеў?

Анатоль з усёй шчырасцю адказаў:

— Ой, дзякуй вам, добры чалавек! Што б я без вас рабіў? Вашы парады — для мяне ратаванне.

Незнаёмец адмахнуўся:

— Ты і з маімі парадамі не вельмі разгонішся. У тым баку — населеных пунктаў няма. А вось у тым — ёсць некалькі вёсак і, дзе-нідзе, раскіданы па тайзе, так званыя леснiковыя заставы. Гэта — адзіночныя дамы з леснікамі-пустэльнікамі. Поспеху!

Развітаўшыся з сапраўды добрым чалавекам, Анатоль няспешна пачаў углыбляцца ў прыцемак гушчароў.

Каб не сорам, у першую чаргу перад самім сабой, ён дачакаўся б сустрэнага поезда і вярнуўся ў свой «захудалы», але ўтульны і бяспечны горад. Не, зрабіўшы першы крок, цяпер — толькі наперад.

Зарадзіўшы двухстволку першым нумарам шроту (для зайца і глухара) і жаканам, на выпадак бараніцца, ад мядзведзя, лясны вандроўнік адчуў сябе смялей і пакрочыў больш рухава.

Але, не ведаючы канчатковай мэты, рухавасць аказалася лішняй. Куды спяшацца? Назіраць, захапляцца, адпачываць — вось яна, яго сапраўдная мэта.

Анатоль зірнуў з удзячнасцю на сонца, яно было з левага боку. Ён ветлівы памахаў рукой нябеснаму спадарожніку і, прывыкшы стрымліваць сябе ў гарадскіх умовах, у паўголаса гукнуў:

— О-го-го-го!

Пачуўшы сваё рэха і адчуўшы сябе таёжным адзінотнікам, дзе, апроч лясных жыхароў не будзе другіх сведак ён на ўвесь голас закрычаў:

— Вітаю цябе, Сонца! Вітаю цябе, тайга! Вітаю вас, браты меншыя!

Выгукнуўшы словы «браты меншыя», крыху збянтэжыўся і ціха дадаў:

— Хто з нас яшчэ меншы брат?.. Яны — неад’емная частка гэтага натуральнага свету, гэтай тайгі, а мы? Пэўна, я тут выглядаю сапраўды па-дзікунску, ды і з гэтай прыроднай чысцінёй, з гэтай прыроднай шчырасцю мы паводзім сябе не заўсёды, як браты.

З-пад ног дзе-нідзе выпырхвалі курапаткі «лапаталі крыламі цецярукі-чарнышы, але Анатоль рэагаваў толькі поглядам і захапленнем душы. Пасля «братоў меншых», стрэл быў бы настолькі ні да месца і ні да яго спагадлівага настрою, што Анатоль нават не ўспомніў, што ў яго на плячы ружжо.

Вавёркі і дзятлы, пры тым дзятлы самых неверагодных размалёвак, мільгацелі вакол, цокаючы на усе лады.

Праз некалькі крокаў бесклапотны вандроўнік спыніўся, як укапаны. Ён не толькі ўспомніў, але і схапіўся за ружжо, як з ратавальную саломінку. Прама перад ім, на ствале таўшчэзнай елкі, значна вышэй

яго росту, значыліся глыбокія, тонкія, зверху ўніз, сляды ад кіпцюроў.

— Вось гэта дарунак лесу! — дрыготка выдыхнуў ён,— Мядзведзь папярэджвае мяне, што ён, а не я тут, гаспадар лесу і старэйшы брат…

Анатоль апасліва азірнуўся. За кожным кустом, за кожным дрэвам яму, дакладней, яго страху, бачыўся мядзведзь. Зрабілася жудкавата. Яго спагадлівы настрой саступіў месца нервовай напрузе. Анатоль ліхаманкава дастаў з адной рулі патрон з першым нумарам шроту і даслаў у рулю другі жакан.

Далей ішоў, азіраючыся, але не на вавёрак і курапатак, а дзеля бяспекі і пільнасці.

Між тым, набліжаўся вечар. Трэба было думаць пра начлег і вячэру.

— А дзічына і не пашкодзіла б… — выдыхнуў паляўнічы. Сорамна ў тайзе ўжываць кансервы…

Тут, нібы чуючы адчайны выдых вандроўніка, перад Анатолем, адкуль ні вазьміся, выскачыў заяц і, як на далані, папёр ад яго. Ускінуўшы ружжо, Анатоль рассмяяўся:

— От і пашанцавала ж гэтаму вушасціку! Каб і хацеў такое не прыдумаеш — у абаіх ствалах па жакану. Тваё шчасце, касавокі, што ты не такога росту, як мядзведзь!

Гэты выпадак адхіліў Анатолеў настрой ад нервовасці і дапамог спакойна наламаць лапніку для начнога подсцілу і нацягаць сухога лам'я для вогнішча. Дроў трэба было мець шмат, ноч, яна доўгая, але сушняка хапала, хоць заваліся.

Вечар, а затым і ноч падступілі да самага агню, пакінуўшы маленькі пятачок, адваёваны святлом вогнішча ў цемры. На гэтым пятачку Анатолю было даволі няўтульна, бо, калі і хацеў бы хто наблізіцца

да яго, наблізіўся б — нос у нос, і Анатоль гэтага б не заўважыў. Вясёлае патрэскванне дроў і бульканне вару ў кацялку, усё ж вярталі яго тутэйшаму светаўспрыманню, рамантыку добраахвотнага сучаснага пустэльніка і шукацеля прыгодаў.

Анатоль, яшчэ ў горадзе, збіраючыся у гэту вандроўку, не браў ніякіх чаёў — ні ў пакеціках, ні ўроссып, таму зараз з асалодай і гонарам за сябе, пасля тушонкі, гучна сёрбаў сабраныя ім тут жа па дарозе, розныя таёжныя зёлкі, якія, пасля іх завару, духмянасцю напаміналі яму, дзе ён.

Касцёр пастаянна патрабаваў падпіткі новымі порцыямі дроў, іскры, разам з белавата-блакітным дымам імкнуліся ў чарнату неба.

Анатоль і раней не раз сядзеў ля начнога кастра, але ў такой далечыні ад дому, тут, у няўхільным суседстве з мядзведзямі, ён упершыню, і яму ад такой незвычайшчыны, незразумела было, гэта булькае на агні ў кацялку вар з зёлкамі, ці гэта ў яго грудзях цесна захапленню і яно просіцца ў абдымкі матухны-прыроды.

Анатоль разумеў, што ўсю ноч ён вось так, захапляючыся не выседзіць. Ды і дарога сюды, хваляваннямі, забрала шмат сіл. І ён пачаў рыхтавацца да сну.

Маючы, хоць і не багаты, але ўсё ж вопыт начнога начлежніка ў лесе, Анатоль разумеў, што для бяспекі, асабліва ў такой глухаменні, перад тым, як легчы спаць, неабходна распаліць другі касцёр, накідаўшы ў яго больш тоўстага палення, каб яно, калі не гарэла, дык дыміла, адганяючы няпрошаных чатырохногіх гасцей.

Першы ж касцёр, за той доўгі час свайго гарэння даволі глыбока прагрэў зямлю. Разгрэбшы яго і загасіўшы да апошняга вугельчыка прагрэтае месца,

на яго клаўся яловы лапнік — вось цёплая ляжанка і гатова. Анатоль гэта старанна зрабіў і з асалодай лёг, радуючыся таму, што ноч не дужа халодная, а, галоўнае, няма дажджу.

Знізу было не толькі цёпла, а нават крыху падпякала праз лапцік, але ён добра ведаў, што такога падагрэву хопіць не на доўга — гадзіны на тры. Гэты час трэба было максімальна выкарыстаць для сну, таму ён, зірнуўшы на пакуль што вясёлы новы касцёр, намацаўшы ля боку стрэльбу, заплюшчыў вочы і аддаў сябе ў палон сну.

Прачнуўся ён і ад святла ўжо позняй раніцы, і ад дрыжыкаў. Ускочыўшы на ногі і зірнуўшы на гадзіннік, зразумеў, што раніца саступіла месца дню. Гэта ж пацвярджаў і голад. Хуценька распаліўшы невялічкі агонь для таго, каб згатаваць сняданак і заварыць зёлкі, Анатоль пачаў будаваць планы на гэты дзень.

Падумаў пра планы і ўсміхнуўся. Якія планы? План толькі адзін на ўсе дні — ісці няведама куды і шукаць няведама што. Атрымліваць асалоду ад еднасці з прыродай, з жыццём — вось яго мэта і план.

Перакусіўшы і, апякаючы вусны, папіўшы гарачага напою з траў, ён злавіў сябе на тым, што нервуецца і, як быццам, некуды спяшаецца. Зноў усміхнуўся — гэта ж напамінае пра сябе гарадскі рытм жыцця, нервуючы людзей і падганяючы іх у няспынную мітусню патрэбных і непатрэбных спраў.

Прымусіўшы сябе супакоіцца, Анатоль дэманстратыўна няспешна склаў у рукзак свае паходныя пажыткі, даслаў у адзін ствол стрэльбы, замест аднаго жакана патрон з дробным шротам, і зноў жа няспешна пакрочыў далей, насустрач невядомасці.

Праз нейкі час у яго з-пад ног пырхнуў цэлы вывадак рабчыкаў і, будучы непалоханымі, рассеўся на

дрэвах. Па-праўдзе кажучы, нават і палоханыя рабчыкі, узлятаючы з зямлі, садзяцца адразу на галіны дрэў, каб агледзецца — што да чаго.

Анатоль кінуў на зямлю рукзак, хуценька зняў з пляча стрэльбу, склаўся і, памятаючы, што ў правым ствале дробны шрот, бабахнуў па бліжэйшаму да яго рабчыку, які бясформенным камяком зваліўся на зямлю.

У паляўнічым азарце Анатоль падбег да яго, падняў і… убачыўшы ўжо нежывой гэту прыгажосць паддаўся эмоцыям.

«Што ж я нарабіў?..» Але адагнаў гэтыя думкі тым, што ўявіў сёння на абед не тушонку, а сапраўдны таёжны суп з пахам дымку.

Па дарозе далей, з-пад ног то тут, то там выпырхвалі курапаткі ды рабчыкі, бывала і цецярукі, але Анатоль стрымліваў сябе і без патрэбы не страляў направа і налева, тым больш, што для абеду рабчык ужо быў.

Зноў надышла ноч, і зноў дзень. Дні былі цікавыя, але нічога незвычайнага не здаралася і ён нават крыху засумаваў.

«А дзе ж хвалёныя мядзведзі? — уздыхнуў ён,— Што ж я раскажу сябрам, вярнуўшыся дамоў? Што я тут убачыў, што знайшоў?»

Раптам, між сваіх такіх думак, Анатоль пачуў ці нечае сапенне, ці крактанне. Машынальна схапіўшы з пляча стрэльбу, ён прыслухаўся і ўважліва агледзеўся. Матухна родная — зусім побач, у некалькіх кроках ад яго, у зарасніку нейкіх ягад, сядзеў, як чалавек «на адным месцы», агромністы мядзведзь і ласаваўся смакатой, падгінаючы пярэднімі лапамі да роту ягадныя сцябліны і аб'ядаючы іх. Пры гэтым ён гучна чомкаў ротам і з асалодай пакрактваў.

Анатоль хацеў кінуцца наўцёкі, але зразумеў, што ад мядзведзя ўцячы немагчыма. Нават дрэва, калі на яго ўскарабкацца, не ўратуе.

Вырашыўшы ціхенька даць задні ход, ён наступіў на нейкі сухі корчык, які здрадніцкі хруснуў пад нагой. Анатоль абамлеў — гэта канец.

Мядзведзь, відаць, першы раз у жыцці бачачы чалавека, ды яшчэ такога нахабнага, абыякава зірнуў на Анатоля, быццам дакараючы: «ну што ты тут псуеш мне апетыт?» — зноў вярнуўся да свайго сілкавання, не звяртаючы больш увагі на назолу.

Анатоль заднім ходам, па-магчымасці, ціха аддаліўся ад гаспадара лесу і затым перайшоў на подбег.

«Ого-го… — ліхаманкава думаў ён,— Не ўсе мядзведзі такія добранькія. Гэты, відаць, быў сыты і яго займаў толькі дэсерт. Трэба быць больш уважлівым і не развешваць вушы».

Ён упершыню, пасля некалькіх дзён блукання, падумаў аб вяртанні дамоў. На ўсякі выпадак дастаў з кішэні компас і пераканаўся, што ўвесь час ідзе ад чыгункі. Назад трэба будзе ісці прама адваротны шляхам.

На пяты дзень сваёй вандроўкі (а ён рашыў ісці ў адзін бок сем дзён і столькі ж у другі, адваротны) Анатоль, да свайго вялікага здзіўлення натыкнуўся на нейкую сядзібу — бярвенную хату з адной нейкай прыбудовачкай.

«Ага, некім некалі кінутая хата… Вось тут я спакойна і пераначую, тым больш, што ноч на падыходзе»… — паспеў падумаць ён, як раптоўна са двара сядзібы кінуўся да яго з папярэджваючым брэхам вялікі сабака.

Анатоль прыціснуўся спіной да дрэва, збіраючыся абараняцца, але з хаты выйшаў, відаць, гаспадар і зычна закамандаваў: — Анчар! Дамоў!

Сабака паслухмяна варухнуўся да свайго гаспадара, а той гукнуў да Анатоля:

— Заходзьце, не бойцеся! Сабака разумны, ён паляўнічай пароды і чалавека са стрэльбай лічыць за свайго.

Анатоль нясмела наблізіўся да ганку і прывітаўся.

— Заблудзіліся ці што? — запытаўся незнаёмец.

Пачуўшы кароткі расповед гарадскога вандроўніка, запрасіў у хату.

— Пераначаваць можна… Можаце і пажыць.

Было відаць, што гаспадар хаты немнагаслоўны і ўвогуле ад людзей адвык і не надта хоча прывыкаць.

Пераступіўшы парог нечаканага прытулку Анатоль, першае, каго ўбачыў, дык, пэўна, гаспадарову жонку, маладую і вельмі прыгожую жанчыну, хутчэй нават дзяўчыну, Анатолева ўзросту. Жанчына была настолькі прыгожай, што хлопец алсупянеў, забыўшыся дзе ён і дзеля чаго ён тут.

Муж жа гэтай прыгажуні быў поўнай процілегласцю. Ён быў і не стары, і… цяжка было зразумець, колькі яму год, бо барада дызарыентавала Анатоля. Праўда барада, як і валасы на галаве, былі чарнявыя, без сівізны. Вось гэта барада і славесная стрыманасць гаспадара ды і гаспадыні, прымусілі і Анатоля прыкусіць язык, не лезці з роспытамі і не вытыркаць сваё «я».

І тым не менш, за вячэрай, якая была даволі сціплай, але смачнай, гаспадар распытаў свайго госця — хто ён, адкуль, чым займаецца, якія планы на жыццё. Пра сябе ж толькі сказаў, што ён, у адной асобе і егер і ляснік. Як егер, асабліва зімой, вядзе ўлік розных

звяроў па іх слядах, а таксама вясной, па такавішчах — колькасць глухароў і цецерукоў.

Мядзведзяў падлічвае па іх кіпцюрыстых метках на ствалах дрэў, па якіх можна вылічыць не толькі іх колькасць, але і, гледзячы на вышыню меткі, адзначыць і ўзрост клышаногага. У яго, як у лесніка, было значна менш абавязкаў. Населеных пунктаў паблізу няма, значыцца і парубшчыкаў лесу таксама няма. Галоўная яго задача сачыць за здароўем лесу і своечасова дакладаць аб з'яўленні розных жукоў-караедаў і аб іншай для лесу небяспецы.

Вось і ўся, не такая ўжо і малая, інфармацыя з боку несловаахотлівага гаспадара. Пра жонку Ягор Фаміч, як ён сябе назваў, нічога не паведаміў, апроч таго, што яе завуць Марысяй.

Павячэраўшы, пачалі ўкладацца спаць. Анатоля здзівіла тое, што Ягор Фаміч не стаў класціся спаць разам з жонкаю — адзін ложак аддаў госцю, на другі лягла яго прыгожая жонка, а сам гаспадар палез на печ.

— Я сызмальства люблю спаць на печы,— патлумачыў ён,— вы, Анатоль, не турбуйцеся, вы мне не замінішча.

Тое, што Ягор Фаміч, у прысутнасці чужога чалавека, не лёг побач з жонкай, Анатоль палічыў за далікатнасць гаспадароў і павагу да яго.

Як ні дзіўна, але Анатолю спалася ля кастра больш смачна і раскавана. Там ён быў гаспадаром свайго лапніка пад бокам і свайго становішча, а тут… Тут, хочаш-не хочаш, а залежыш ад гэтых людзей, а, галоўнае, тут вось, побач, прыгожая Марыся, на якую так хацелася глядзець і глядзець, і на якую такімі вачыма глядзець забаронена.

Раніцай, толькі пачало шарэць у вокнах, Ягор Фаміч лёгка скокнуў з печы і некуды зазбіраўся.

Убачыўшы, што Анатоль таксама прачнуўся, ціха, каб не разбудзіць жонку, сказаў:

— Мне трэба праверыць Ціхмяны Кут. Штосьці даўно там не заўважаліся мядзведжыя адмеціны. Гэта мяне непакоіць.

— І я з вамі! — спалохана падскочыў Анатоль,— І я з вамі!

— Паспаў бы ты пасля сваіх пустых сцежак,— неяк ласкава прамовіў гэты суровы чалавек.

— Не, я з вамі! — гэтак жа напружана паўтарыў Анатоль і пачаў хуценька збірацца.

Ён нават у думках не мог дапусціць таго, каб застацца, вось так аднаму з чужой жонкай. Гэта выглядала б, як непавага да Ягора Фаміча.

— Ну, са мной, дык са мной.— згадзіўся той.

Ранішняя прахалода пашчыпвала за плечы, прымушала быць больш рухавым.

Ягор Фаміч спытаўся:

— Ты, мусіць, здзівіўся, што мы падаліся з хаты не паснедаўшы. У мяне такая прывычка. Нашчака больш лёгка крочыцца, а, вярнуўшыся дамоў, уся страва ідзе на добрае здароўе. Не хвалюйся, да нашага вяртання Марыся што-небудзь прыгатуе.

Анатоль хацеў сказаць «а я і не хвалююся», але заўважыў, што пры пачутым імя «Марыся», моцна захваляваўся. Прымушаў сябе думаць пра ўсё на свеце, а думаў толькі аб ёй.

«Што за насланнё? — дакараў ён сябе,— Толькі ўчора першы раз убачыў чалавека, чужога чалавека, чужую жонку, а такое адчуванне, што толькі ёй і жыў усё жыццё… Які сорам! Трэба хутчэй уцякаць адсюль, пакуль…»

— Ага! Вось ён, галубец! — радасны голас Ягора Фаміча вярнуў Анатоля, цяпер ужо з завоблачных

блуканняў, на зямлю.— Ты ж зірні, Анатоль, які прыгажун тут быў!

Анатоль разгублена азірнуўся, але ніякага прыгажуна нідзе не было.

— Ты сюды зірні! Сюды! Вось на сасне кара абадраная больш чым на два метры ад зямлі. Ай ды красаве́ц! Ай ды магут! Жыве Ціхмяны Кут, жыве! Так і адзначым. Глянь вось сюды! — не сунімаўся ўзрушаны Ягор Фаміч,— І на гэтым дрэве мецiна. Э-э, ды гэты аўтограф метры на паўтары ад зямлі. Не, гэтаму шыбздзіку тут не месца. Ён адсюль дасць дзёру ва ўсе лапаткі. Ведаеш, Анатоль, мядзведзь не проста абдзірае кару як мага вышэй, ён паказвае астатнім братам сваім, што гэта яго вотчына. Падыдзе меншы шальмец да больш высокай адмеціны і адразу разумее, хто тут гаспадар. Ідзе ён далей шукаць сваё месца ў жыцці. Так вось, братка… Законы тут няпісаныя, а парадак ёсць. У нас, людзей, вунь колькі паперы пераведзена для напісання розных законаў, а парадку менш, чым тых законаў.

Гэты энцыклапедычных расповед Ягора Фаміча прыдаў Анатолю душэўнай моцы і ўпэўненасці.

«Ды не буду я на яе больш глядзець!» — вырашыў ён.

Як і абяцаў Ягор Фаміч, Марыся прыладкавала сняданак — пальчыкі абліжаш. Вараня бульба, саматробная каўбаса, засоленыя баравічкі з цыбулькай, квас з бярозавага соку і нават мёд у грэнках.

Убачыўшы Анатолева захапленне, Ягор Фаміч з гонарам адзначыў:

— І мядок свой! Пчаліных сямей усяго тры, але нам хапае і табе на дарожку дадзім… Ну, калі ласка за стол і — смачна есці!

Анатоль еў, уткнуўшы нос у талерку, каб не сустракацца поглядам з Марысяй — не давядзі Бог гаспадар перахопіць яго краснамоўны погляд!

На наступны дзень усё паўтарылася нанова. Ягор Фаміч зазбіраўся ў лес па сваіх справах, Анатоль жа настойліва ўсклікнуў:

— І я з вамі!

— Ну, са мной дык са мной,— пачуў ад Ягора Фаміча.

На гэты раз правяралі здароўе кедроўніка, а заадно і барсуковыя норы — колькі іх у параўнанні з мінулым годам.

Ягор Фаміч, дома не шматслоўны, у лесе пераўвасабляўся.

— Ты заўважыў, Анатоль, што, ідучы ў лес, я ні ўчора, ні сёння не ўзяў з сабой Анчара? Ён вялікі аматар палявання, але мы з табой займаемся сур'ёзнай працай, а сабака можа быць не да месца. На паляванні ён незаменны памочнік. Нічога, будзе і на яго вуліцы свята.

Дык вось, Анатоль, чалавек прыродзе можа быць і сябрам, можа быць і яе недругам…

Анатоль успомніў забітага рабчыка і сумна аднёс сябе да недругаў прыроды.

Ягор жа Фаміч працягваў:

— Ты, пэўна, думаеш, што я недруг цывілізацыі? Што я супраціўнік гарадскога ладу жыцця з яго інтэрнэтамі ды туалетамі? Не! Без гораду, без цывілізацыі нельга. Жыў я і ў горадзе, але дабраахвотна падаўся сюды. Тут я больш значны для сябе, нават тым, што дапамагаю нашай адвечнай, магутнай, і такой безабароннай прыродзе выжыць. Выжыць і радаваць тых, хто прыйдзе пасля нас. Гэта тут, Анатоль, пакуль што ціш, гладзь ды благадаць. А што робіцца ў іншых

мясцінах ды па ўсёй зямлі. Крычыць, стогне прырода — і добра, калі людзі чуюць сэрцам яе крык. А я чую, таму днюю і начую тут. Перастане крычаць прырода — пераеду ў горад… Вось так, браток…

Раптам спытаўся:

— Спадабалася табе мая Марыся?

Анатоль ад нечаканасці папярхнуўся паветрам і нічога не адказаў на гэта пытанне. Праз нейкі час, вяртаючыся на сядзібу, ціха, але цвёрда заявіў Ягору Фамічу:

— Заўтра я вяртаюся дамоў. Водпуск заканчваецца, ды і пакуль выберуся да чыгункі, ні адзін дзень пройдзе.

— Я правяду цябе… ці Марыся.

— Не! — ажно крыкнуў Анатоль,— Я сам!

— Ну, сам дык сам,— даў згоду Ягор Фаміч.

На наступны дзень, развітваючыся і дзякуючы гасцінных новых сваіх знаёмых, Анатоль смела, не хаваючыся ад Ягора Фаміча, сустрэўся з поглядам Марысі, працягнуў руку для развітання і ціха сказаў дрыготкім ад хвалявання голасам:

— Я ніколі не забудуся на гэтыя цудоўныя дні ў вашым доме. Ніколі!

Моўчкі паціснуўшы руку Ягору Фамічу, Анатоль падаўся далей ад гэтых душэўных выпрабаванняў, бліжэй да свайго гарадскога, тлумнага жыцця.

На курапатак, рабчыкаў і цецерукоў не звяртаў ніякай увагі, блізкая прысутнасць мядзведзяў яго не хвалявала і не палохала.

Анатоль некалі нешта падобнае чытаў у літаратуры, але ж тое было ў літаратуры. А тут вось — сам закахаўся ў чужую жонку. Ды так закахаўся, што ўвесь свет, з яго птушкамі, звярамі, гарадамі і сябрамі, стаў нямілы. Як яму хацелася вярнуцца назад

у гэту просценькую і такую мілую яго сэрцу хату, да гэтых гасцінных людзей, без аднаго з якіх ён не ўяўляе свайго далейшага жыцця.

Вяртанне яго дамоў было, нібы ў сне. Ён, дзякуючы компасу, патрапіў на чыгунку. Як і вучыў яго той чыгуначнік на станцыі, а верставых слупах сарыентаваўся, у якім баку станцыя. Зноў жа, як у сне, сеў у вагон і ў нейкай паўнепрытомнасці адчыніў дзверы сваёй кватэры.

На працы ўсё валілася з рук. Той яго сябар, які параіў Анатолю гэтую вандроўку, распытваў яго:

— Ну што? Ну як? Дзе мядзведжая скура? Як уражанні ад вандроўкі?

Анатоль з болем у душы маўчаў. Нарэшце сябар так яго дастаў, што не вытрымаў і прастагнаў:

— Ты толькі не смейся… Табе, як сябру… Не магу болей маўчаць, насіць гэты боль у сэрцы…

І ён расказаў пра свае прыгоды і пра сваё нечаканае і безнадзейнае каханне.

Сябар пратэставаў:

— Ды ты што! Стары муж, маладая жонка — і ты хлопаў вушамі! Ну і мазіла, не патрапіў у галоўны паляўнічы трафей! Такую дзічыну ўпусціў, правароніў! Эх ты!

Анатоль успыхнуў:

— Спыніся! Інакш мы — не сябры! Я табе пра свае чыстыя пачуцці, якіх у мяне ніколі не было, ды, відаць, ужо не будзе. Яна, тая Марыся, як анёл, на яе можна маліцца, а ты…

Сябар ужо больш далікатна ўдакладніў:

— І што далей? Вяртайся туды, бухніся на калені перад мужам і спей яму вядомую песню: «Ты уж стар, ты уж сед, ей с тобой не житьё. На заре юных лет ты загубишь ее…»

— Ты зноў жартуеш… — уздыхнуў Анатоль.

— Ну а хоць свой хатні адрас, тэлефон ты ім пакінуў?

— Пакінуў, а што з таго?

— Калі і яна цябе пакахала, уцячэ ад мужа і прыедзе да цябе…

Шчыра кажучы і Анатоль употай думаў пра гэта, але не ведаў, што б ён рабіў у такім выпадку.

Ягор Фаміч вельмі прыстойны чалавек, а да прыстойных людзей трэба і адносіцца прыстойна.

З гэтай сваёй такой сардэчнай ранай Анатоль працягваў жыць у пакутах, і невядома колькі б ён так жыў,каб аднаго вечару, у дзверы яго кватэры хтосьці патэлефанаваў.

Адчыніўшы дзверы, Анатоль ледзь не рухнуў на зямлю. Перад ім стаялі Ягор Фаміч і яго прыгожая жонка Марыся.

— Можна да вас, Анатоль? — у адзін голас спыталіся яны.

У Анатоля заняло дыханне. Ён маўчаў і толькі лыпаў вачамі.

— Дык можна ці не? — перапытаў Ягор Фаміч.

— Ой! — Апамятаўся Анатоль,— Яшчэ як можна! Заходзьце, калі ласка! Прашу!

Анатоль замітусіўся, кінуўся на кухню, да халадзільніка, не ведаў за што схапіцца.

Ягор Фаміч спыніў яго:

— Супакойся, Анатоль. Сядзем і пагутарым.

Анатоль не мог стрымліваць сябе.

— Я так рады вас бачыць! Так рады! Вечар ужо, спыніцеся ў мяне на ноч. Ды што я кажу, на ноч! Спыніцеся на колькі трэба!

Ягор Фаміч паўтарыў:

— Выслухай нас, Анатоль. У тваім горадзе ёсць і нашы сваякі, так што спыніцца нам ёсць у каго. Але мы завіталі спярша да цябе, бо бачылі, у якім стане ты пайшоў ад нас. Дык вось, Анатоль, год таму памерла мая жонка і…

— Дык Марыся ваша другая жонка? — не вытрываў Анатоль.

Ягор Фаміч горка ўсміхнуўся і працягваў:

— Як я сказаў, год таму памерла мая жонка, з якой я і жыў на той сядзібе. Засумаваў я моцна. Засумаваў, хоць не жыві. Вось мая адзіная дачушка Марыська, дзеля ўратавання мяне ад адзіноты…

— Дачушка! — зноў ускочыў Анатоль,— Вы сказалі, дачушка?

— Так,— працягваў Ягор Фаміч,— мая дачушка Марыська, кінула ўсе свае гарадскія справы і пераехала да мяне. Вядома ж, часова, пакуль я ачуняю ад гора.

І хоць ад такога гора ачуняць немагчыма, я паціху вяртаюся да жыцця, і Марысі таксама настаў час вярнуцца да сваіх маладых клопатаў, наладжваць свой лёс.

— Вы не муж і жонка? — не мог супакоіцца Анатоль,— А чаму ж вы тады маўчалі?

— А ты не пытаўся,— усміхнуўся Ягор Фаміч.— Я адразу запрымеціў тваю зацікаўленасць да маёй «жонкі» і тваю прыстойнасць у тых абставінах.

Анатоль зноў кінуўся да халадзільніка.

— Вы ж з дарогі! Павячэраем? Марыся, як?

Яна зачырванелася і ціха дала згоду:

— Павячэраем…

## ВЫМУШАНАЯ ДАВЕДКА

У сваіх творах, ва ўспамінах, якія ўвайшлі ў некаторыя мае кніжкі, я закранаю лёс нашай сям'і — лёс бацькоў і родных мне людзей.

Так у паэме «Люстэрка лёсу», я згадваю, як да нас, у зямлянку (вёска была спаленая немцамі) вярнуліся з вайны мой тата і старэйшы брат Коля.

Які ж нечалавечы боль у сэрцы адчуў я, калі разгарнуў том серыі «Памяць» і не знайшоў у ім ні радка пра тое, што наша сям'я зрабіла пасільны ўнёсак у Вялікую Перамогу.

Атрымлівалася, што я «прымазаў» да Перамогі сваіх родных людзей.

Як было мне сябе паводзіць?

Ад імя шматлікіх тых, хто па нечаму недагляду не патрапіў у святую серыю «Памяць», я ў чацвертым томе маіх твораў назваў гэтую серы «кароткай памяццю». Магчыма, я занадта сурова аднёсся да высакароднага выдання, але мне ў той час дыктавала гэтыя словы крыўда за сваіх родных і іншых «незаўважаных».

Менавіта таму, у тым жа чацвёртым томе, я вымушаны быў на старонцы 477 зрабіць удакладненне, у адносінах да свайго таты, які быў удзельнікам вайны (паўтараць не буду).

Але ж выпадаў з гэтай серыі і мой старэйшы брат Коля, які ваяваў, меў раненні і кантузіі, праз што рана пайшоў з жыцця і які, як большасць франтавікоў, пры жыцці сціпла абыходзіў тэму вайны.

Але, на шчасце існуе Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, у якім беражліва захоўваюцца дадзеныя ваеннага часу.

Прыклаўшы шмат намаганняў, дзякуючы супрацоўнікам Архіву, асабліва Паўлюковічу А. П., знаходжу, няхай сабе не ўсё, але галоўнае пра свайго брата.

Яго, як многіх юнакоў і дзяўчат, у 1943 г. немцы везлі ў Германію ў рабскую няволю.

Поезд спыніўся ў Стоўбцах. Брат Мікалай быў, па сведках знаёмых таго часу, вялікім адчаюгам. Ён, падчас стаянкі поезда, нягледзячы на пільную ахову, збег, але адразу ж быў злоўлены і бязлітасна пабіты.

Аднак 24 мая 1943 года, ля станцыі Лясная, за Баранавічамі (гэта архіўныя дадзеныя) зноў на хаду цягніка скочыў пад адхон і збег.

«Сначала попал в партизанский отряд им. Воронова, бригады им. Маршала Жукова, Барановичской обл.»

Прапускаю многія архіўныя запісы, адзначаю галоўнае:

Донесение.

30 апреля 1944 г. группа подрывников под командованием Дубаткова с подрывниками Лис Н., Петров Н., Смовш И., и Давидович Н. с проводником Д. (агентурный разведчик) в 15-30 заминировали полотно ж/дороги Столбцы-Колосово, у самого переезда Кучкуны. В результате взрыва уничтожен паровоз и 6 классных вагонов служебного поезда. Движение приостановлено на 17 часов. Имеются убитые и раненые.

Донесение

12/3-44. Группа подрывников под командованием ст. группы Меламед М. с подрывниками Ахметов С., Обломейко В., Давидович Н., Войнич С. в ночь с 11 на 12 марта 1944 года заминировали шоссейный тракт Мир — Столбцы на 4 км от местечка Мир. В результате взрыва уничтожена легковая машина, убито — 3 офицера и 1 тяжело ранен.

Донесение

26-3-44 г.

Группа подрывников под командованием ст. группы Меломед М. с подрывниками Обломейко В., Давидович Н., в ночь с 25 на 24 марта 1944 года заминировали шоссейный тракт Мир — Столбцы зарядом тола 2 кг на 5 км от местечка Мир, вблизи Новогорских хуторов. В результате взрыва уничтожена грузовая автомашина противника, убито 3 и 1 ранен гитлеровца.

Можна было б пералічваць далей, але вярнуся да той маёй звесткі ў колішніх творах аб тым, што брат Коля быў удзельнікам гістарычнага праду партызан у вызваленым Мінску.

Прыкладаю арыгінал з подпісамі і пячаткай «Боевой характеристики» Давідовіча Мікалая Фёдаравіча. Паколькі архіўны тэкст чытаецца не вельмі ясна, я яго прадублірую.

БОЕВАЯ ХАРАКТЕРИСТИКА

На партизана отряда им 25 лет ВЛКСМ бригады им. Маршала СССР Жукова Давидовича Николая Федоровича, рождения 1923 г. (ён усё ж нар. у 1925 г.) уроженец Минской обл. Логойского р-на, д. Карпиловка, чл. ВКЛСМ, поступил добровольно в партизанский отряд 24 мая 1943 г. соц. положение из крестьян. В Красной Армии не служил. В партизанский отряд прибыл добровольно, сбежал с поезда при отправке на работу в Германию со ст. Лесная, на участке ж. д. Барановичи — Брест. Занимаемая должность в отряде — рядовой партизан.

БОЕВАЯ РАБОТА:

июнь 1943 г. — участвовал в бою с вражеским гарнизоном д. Засулье. Разбито 2 бункера противника.

май 1943 г. — участвовал в бою в д. Коледино, где противник потерял 4 убитыми 1 ранен. Захвачен немецкий обоз и трофеи.

август 1943 г. — участвовал в засаде под м-ком Турец, убито 17 полицейских и 7 взято в плен.

Во время блокады пущи (июль 1943 г.) участвовал в боях с немецкими оккупантами в р-не Синявская Слобода, Тихово.

Будучи подрывником подорвал 2 машины противника, убито 7 и ранено 3 гитлеровца.

18 мая 1944 года участвовал в бою в р-не д. Аталезь — немцам не удалось ворваться в деревню и захватить крестьянский скот. Убито 12 и ранено 2 гитлеровца.

С характеристикой командования отряда на партизана Давидовича согласен.

Командир бригады им. маршала СССР Жукова
полковник Василевич

Врид. комиссара бригады
майор Дудковский

Далей ідуць подпісы.

У адным з данясенняў напісана, што Мікалаю аб'яўлена падзяка, але на фотаздымку тых часоў ён на грудзях з нейкім медалём (разабраць немагчыма).

Дзякуй вам, архівісты, і, асабліва людзі тых суровых часоў, хто пакідаў сціплыя запісы пра гераічны лёс нашых папярэднікаў.

Асабістая падзяка Паўлюковічу Аляксандру Пятровічу.

143

БОЕВАЯ ХАРАКТЕРИСТИКА.

На партизана отряда им. 25 лет ВЛКСМ, бригады им. Маршала СССР Жукова ДАВИДОВИЧА Николая Федоровича, рождения 1923г., уроженец Минской обл., Логойский р-на, д. Карпиловка, чл. ВЛКСМ, поступил в партизанский отряд 24 мая 1943г. По соц. положению из крестьян. В Красной Армии не служил. В партизанский отряд прибыл добровольно, бежал с поезда при отправке на работу в Германию со ст. Лесная, на участке ж.д. Барановичи-Брест. Занимаемая должность в отряде - рядовой партизан.

БОЕВАЯ РАБОТА:

Июнь 1943г. - участвовал в бою с вражеским гарнизоном д. Засулье разбито 2 бункера противника.
Май 1943г. - участвовал в бою в д. Коледино, где противник потерял 4 убитыми и 1 ранен, захвачен немецкий обоз и трофеи.
Август 1943г. - участвовал в засаде под м-ком Турец, убито 17 полицейских и 2 взято в плен.
Во время блокады пущи /июль 1943г./ участвовал в боях с немецкими оккупантами в р-не Синявская Слобода, Тихово.
Будучи подрывником подорвал 2 автомашины противника, убито 7 и ранено 3 гитлеровца.
18 мая 1944г. участвовал в бою в р-не д: Аталезь - немцам не удалось ворваться в деревню и захватить крестьянский скот, убито -2 и 2 ранено гитлеровца.

Командир отряда им. 25 лет ВЛКСМ
Капитан /НОВИКОВ/

Комиссар отряда им. 25 лет ВЛКСМ
Лейтенант /[illegible]/

Нач. штаба отряда им. 25 лет ВЛКСМ
Лейтенант /БОГАТОВ/

С характеристикой командования отряда им. 25 лет ВЛКСМ на партизана ДАВИДОВИЧА согласен.

КОМАНДИР БРИГАДЫ ИМ. МАРШАЛА СССР Ж У К О В А
П О Л К О В Н И К /ВАСИЛЕВИЧ/

ВРИД. КОМИССАРА БРИГАДЫ ИМ. МАРШАЛА СССР Ж У К О В А
М А Й О Р /ДУНКОВСКИЙ/

НАЧ. ШТАБА БРИГАДЫ ИМ. МАРШАЛА СССР Ж У К О В А
К А П И Т А Н /[illegible]/

# Развагі

У вершы «Прадночча» я ўжыў слова «закат», замест якога неабходна было напісаць «захад сонца». А чаму? Хіба ж сонца не можа закаціцца за лес, за далягляд? Сонца яшчэ над лесам — таксама захад сонца, а палоска зары, пасля таго, як сонца «закацілася» — і ёсць закат.

У рускай мове ёсць і «луна», і «месяц», а ў беларускай — толькі «месяц». Зноў, чаму? Луны ў беларускай мове няма, а вось «лунацік» ёсць. Адкуль ён узяўся? У прыроды ёсць месячныя цыклы і ў жанчын яны ёсць. Не пераблытаць бы!

Дровы мы на беларускай мове «колем» (русізм), а было б больш дакладна — «шчапаем», як і гавораць вяскоўцы. Тады, замест «калуна» быў бы «шчапак».

Кузня ў беларускай мове ёсць, а вось слова «кузнец» няма — і гэта правільна. Было б яшчэ больш правільна, каб замест «кузні» была «кавальня», паколькі ў ёй працуе не кузнец, а каваль.

У беларускай мове ёсць толькі «камяк», а вось «ком» адсутнічае. Праўда ёсць «камок» снегу, але ж гэта снежка. Пераканаўча гучала б: «падзеі набліжаліся, як снежны ком…», а не снежны камяк, бо камяк, гэта штосьці невялікае, а ком — вялікае, а ўжо «снежны ком» — пагрозлівае.

Няўжо слова «ком» збядніла б беларускую мову, хутчэй наадварот.

Колькі помню сваю маму, асабліва ў маленстве, пасля вайны, калі было асабліва цяжка жанчынам-гаспадыням, не меўшым, чым карміць дзяцей, сям’ю, у што апранаць, абуваць, мама ўціхую ўздыхала і з горыччу казала: — «Каму — па каму, мне ж — два камы…» Гэта азначала, што цяжка ёй удвая.

Гэта ж, як я высветліў у мамы, казала даўней і яе маці. Значыцца слова «ком» вельмі паважанага веку.

У беларускай мове адсутнічае слова «свяча», ёсць толькі «свечка». А між тым. існуюць вялікія — свечы, і маленькія — свечкі. Інакш трэба будзе выкінуць з беларускай мовы такія словы, як «сцяна» і «рака», а пакінуць «сценка» і «рэчка».

Далей увогуле жах: Беларуская мова знішчыла такі біялагічны від, як лягушка.

У нашай мове жаба — «жаба» і лягушка — «жаба» альбо «жабка».

А лягушка і жаба не адно і тое ж.

І развагі можна доўжыць…

# Змест

## Вершы 2017

## Паэмы



## Гумар



## Байкі

## Аўтарскія рускамоўныя вершы

## Апавяданні

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ

**Том 8**

*Вершы*
*Паэмы*
*Гумарэскі*
*Байкі*
*Апавяданні*

Адказны за выпуск *А.М. Вараксін*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*
Фота *Л. С. Тайноўскага*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*

Падпісана да друку 08.11.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 26,88.
Ул.-выд. арк. 16,62. Наклад 50 экз. Заказ 52.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: індывідуальны прадпрымальнік
А.М. Вараксін. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru